ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

20 студзеня 1995 г. № 3 (3775) Кошт 200 руб.







*Арцём ШЫШКОЎ.*



*Міхась ЛЯВОНЧЫК у дуэце з Ганнай ШЫБАЕВАЙ.*



*Мікаэл САМСОНАЎ.*



*Максім РАКАЧ.*



*Аляксей ЯСКЕЛЬЧЫК.*

# НАШЫ НОВЫЯ ІМЁНЫ...

***Міжнародны дабрачынны фонд "Новыя імёны" рыхтуецца адзначыць пятую гадавіну свайго існавання. За гэты час адкрыта нямала юных талентаў: музыкантаў, паэтаў, мастакоў; фонд ладзіў знаёмства з майстэрствам дараВітых выканаўцаў у розных краінах свету.***

Сярод стыпендыятаў фонду ёсць прадстаўнікі Беларусі, прынамсі, знаёмыя чытачам "ЛіМа": Коля Гімалетдзінаў, які іграў у Ватыкане, у Папы Іаана Паўла II, Мікаэл Самсонаў — удзельнік канцэртаў у ААН, Андрэй Кавалінскі, які нядаўна гастраляваў па Іспаніі з акрестрам пад кіраўніцтвам Уладзіміра Співакова.

У Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся канцэрт, на якім прадстаўніца фонду "Новыя імёны" Таццяна Марозава ўручыла пасведчанні лаўрэатаў гэтай дабрачыннай праграмы вучням Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі: Аляксею Яскельчыку (9 клас, кларнет, выкл. В. Майсеенка), Міхасю Лявончыку (9 клас, цымбалы, выкл. Т. Сергяенка), Арцёму Шышкову (4 клас, скрыпка, выкл. Э. Кучынскі), Максіму Ракачу (9 клас, баян, выкл. М. Була), Ганне Шыбаевай (9 клас, фартэпіяна, выкл. Я. Пукст), Мікаэлу Самсонаву (11 клас, віяланчэль, выкл. Я. Ксаверыеў). Цікавым рытуалам пачынаўся той вечар: усе ўдзельнікі выйшлі на сцэну і ганаровы госць канцэрта намеснік міністра культуры і друку У. Рылатка запаліў свечку, змешчаную ў цудоўнай вазе, зробленай спецыяльна для фонду майстрамі Гжэлі. Гэтая свечка гарэла на працягу ўсяго канцэрта, і ў канцы праграмы яе загасіў самы малодшы яе ўдзельнік — Арцём Шышкоў.

Карыстаючыся магчымасцю звярнуцца да людзей, якіх турбуе будучыня беларускага мастацтва, перадаю прапанову каардынатараў праграмы "Новыя імёны": зацвердзіць у Рэспубліцы Беларусь такую ж дабрачынную арганізацыю, якая падтрымлівала б маладых музыкантаў, мастакоў, літаратараў у гэтую цяжкую часіну. Ці знойдуцца ў нас такія фундатары? Калі пяць гадоў таму вядомыя людзі Расіі гросмайстар Анатоль Карпаў (цяперашні старшыня апякунскай рады праграмы "Новыя імёны"), акадэмік Дзмітрый Ліхачоў, музыканты Уладзімір Співакоў, Міхаіл Плятнёў, Юрый Башмет звярнуліся да прадлрымальнікаў па дапамогу, каб не даць знікнуць крыніцы талентаў, дык ці здатныя на гэта ў нас? Прыемна, што таленты беларускіх дзяцей ацэньваюць па заслугах за межамі нашай дзяржавы, але ж есці ды вучыцца ім трэба на Радзіме і набываць дарагія інструменты таксама тут.

**Аляксандр МІЛЬТО**

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

*Кожны павінен быць самім сабою, быць падобным толькі на сябе і на нікога больш. Перайманне чужых звычак ва ўсе часы лічылася справай непрыстойнай — блазнаваннем. І прырода даказвае нам тое. Што за зіма, калі лье восенькі дождж, калі брудна і бяснежна навокал. Але варта прыціснуць марозчыку, прыпарушыць зямлю белым сняжком, а дрэвы прыбраць шэранню і — што за прыгажосць вакол! — дзівімся і радуемся мы... Так і народ, калі хоча быць прыгожым, павінен быць самастойным. Не ў сэнсе — незалежным, хоць гэта і абавязковая ўмова, а самім сабою, незасмечаным чужымі звычкамі, мовай. Прыроднае і здаровае ўрэшце пераможа. А значыць, ёсць і ў нас надзея на Адраджэнне: "І гэты час, і гэты лад — не назаўсёды..."*

### ЗРУХ ТЫДНЯ?

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько 11 студзеня ў Брусэлі на пасяджэнні Паўночнаатлантычнай рады НАТО падпісаў рамачны дакумент праграмы "Партнёрства дзеля міру". Беларусь апошняй (калі не лічыць Расію) з дзяржаў былога СССР і Усходняй (сацыялістычнай) Еўропы далучылася да гэтага руху. Сімвалічна, што падпісанне адбылося адразу пасля заключэння блока дагавораў з Расіяй, якім прэзідэнт Лукашэнка, па яго ўласным прызнанні, выканаў свае абавязацельствы перад 80-ю працэнтамі выбаршчыкаў, што прагаласавалі за яго. І перад Расіяй — дадзім ад сябе. Цяпер самы час прэзідэнту і яго камандзе падумаць пра свае абавязкі перад Беларуссю. Д. Хармс пісаў, што расейскі цар, ушчуваючы неяк Пушкіна, казаў: "Што гэта вы, Аляксандр Сяргеевіч, услед за французамі ўсё пра ножкі пішаце? Пара ўжо ў Вашыя гады і пра Расію падумаць".

### ЕДНАСЦЬ ТЫДНЯ

Лідэры пяці беларускіх партый правага і праваэнтрысцкага накірунку падпісалі 16 студзеня пагадненне аб стварэнні перадвыбарнага блока дэмакратычных сіл. Арганізатарамі аб'яднання сталі Беларуская Сацыял-дэмакратычная Грамада, Беларуская Сялянская партыя, Беларуская Хрысціянска-дэмакратычная партыя, Партыя Беларускага народнага фронту і Нацыянальна-дэмакратычная партыя. Як кажуць: цудоўная кампанія! Далучайцеся... А далучыцца можна іншым партыям, што падзяляюць прынцыпы дзейнасці блока, да 5 лютага.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Да якой ганьбы дайшлі мы са сродкамі масавай інфармацыі! Перапыненая трансляцыя пасяджэнняў сесіі Вярхоўнага Савета, забароненыя публікацыі артыкулаў, закрытыя газеты. Усё гэта абурае насельніцтва, рэдакцыі, сусветную супольнасць... Аднак ніякія рашэнні і звароты не дзейнічаюць. Прэзідэнт называе сябе "единым вершителем власти": ён і цар, і бацька, у яго шалёная ўлада. Ці не гадуем мы, паважаныя дэпутаты, новую хваробу замест культу асобы — шаленства бацькі".

*(З выступлення Г. Карпенкі на сесіі ВС Беларусі 13 студзеня г.г. Газета "Свабода", N 3)*

### "АДКАЗ" ТЫДНЯ

Генеральны пракурор Беларусі В. Шаладонаў перадаў Вярхоўнаму Савету заключэнне па выніках праверкі забароны публікацыі ў сродках масавай інфармацыі даклада С. Антончыка. Паводле заключэння, рашэнне аб забароне публікацыі прыняў асабіста А. Фядута. Аднак генеральны пракурор не ўбачыў у дзеяннях Фядуты і іншых пасадавых асоб "дастатковых падстаў для ўзбуджэння крымінальнай справы, бо забарона на публікацыю выступлення была зроблена толькі да праверкі дакладнасці выкладзенай у ім інфармацыі...". Дэпутаты, не чакаючы іншага адказу генпракурора, пачалі збор подпісаў пад зваротам у Канстытуцыйны суд адносна парушэнняў свабоды друку ў нашай краіне. Неабходныя 70 подпісаў ужо сабраны. Сярод падпісаўшых зварот — прадстаўнікі розных палітычных плыняў: З. Пазняк, Г. Карпенка, С. Шушкевіч, Н. Гілевіч, В. Піскароў, Г. Казлоў, Я. Бачароў, Б. Гетц, М. Макцюшын, В. Сарокін... Па паведамленнях друку ("Белорусской деловой газеты"), не падпісалі зварот М. Грыб, С. Давідовіч (старшыня камісіі ВС па галоснасці), А. Вярцінскі (яго намеснік)... Прэзідэнт, між тым, зрабіў наступны крок: кіраўнік яго адміністрацыі, як так і не пайшоў у адстаўку, Л. Сініцын даслаў ва ўсе мясцовыя выканкамы загад, у якім рэкамендуе ўзяць пад кантроль і апеку "вертыкалі" ўсе раённыя і абласныя газеты.

### ЛІЧБА ТЫДНЯ

Паводле сведчання намесніка прэм'ер-міністра Беларусі С. Лінга, у нашай краіне сёння налічваецца 5 мільёнаў 600 тысяч розная кшталту льготнікаў. Пакінем гэтую лічбу без каментарыяў...

### НАМЕР ТЫДНЯ

Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі прыняла рашэнне правесці 26 студзеня шэсце працоўных да пляца Незалежнасці і мітынг перад Домам урада. Рашэнне прынята пасля безвыніковых перамоў з урадам аб павышэнні мінімальнага заробку ў краіне да 50 тысяч, аб аказанні фінансавай дапамогі шэрагу прадпрыемстваў краіны і інш. Мітынгі і шэсці павінны адбыцца таксама ў буйных прамысловых і абласных цэнтрах. Паводле звестак "Знамя юности", незалежныя прафсаюзы пакуль займаюць нейтральную пазіцыю. Пакуль?

### НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ

Расійскія сродкі масавай інфармацыі паведамілі, што ў баях у Грозным расійскія вайскоўцы, забіўшы снайпера, захапілі агнявую кропку чачэнцаў. Снайперам аказалася... грамадзянка Беларусі. Пакуль ніякіх тлумачэнняў гэтага факта ні з боку МЗС Беларусі, ні з боку ўрада Расіі не было. Невядома і як, з якіх меркаванняў, трапіла грамадзянка Беларусі ў Чачню. Невядома і колькі беларусаў ваюе зараз па абодва бакі "фронту". Бо вярбоўкай нашых хлопцаў і, як бачыце, дзяўчат на нашай тэрыторыі займаліся не толькі чачэнцы, але і расійская федэральная служба контрразведкі (ФСК).

### УМОВА ТЫДНЯ

Прэм'ер-міністр Беларусі М. Чыгір сустрэўся 16 студзеня з дэлегацыяй МВФ. Выявілася, што каб атрымаць фінансавую дапамогу, ураду давядзецца прыняць шэраг "непапулярных мер". Урад гатовы пайсці на гэта, аднак невядома, як адрэагуе на іх прэзідэнт...

### ПОКАЗКА ТЫДНЯ

"Арол быў такі вялізны... І так прыгожа лятаў, што да яго далучылася вялізная чарада дробных птушак. Дзень яны лятуць, другі... А на трэці стаміліся і жаласна крычаць:
— А-ро-о-л, а куды мы ляцім?
Правадыр падумаў і, не паварочваючы галавы, ляніва адказаў:
— А хрэн яго ведае!"

*("Рэспубліка", N 10, 17 студзеня г. г.)*

*Парламент*

# ДЗЯРЖАЎНЫ БЮДЖЭТ: "ТРЫШКАЎ КАПТАН"?

**У аўторак 17 студзеня перад чарговымі дэпутацкімі канікуламі Вярхоўны Савет зацвердзіў Дзяржаўны бюджэт Рэспублікі Беларусь на 1995 год. Канчатковаму галасаванню папярэднічала больш-менш ажыўленая дыскусія, што ў асноўным круцілася вакол фінансавання сілавых міністэрстваў. Яна па сваім напале не ішла ні ў якое параўнанне з тым шквалам крытыкі, што абрынуўся ў Авальнай зале парламента ў мінулыя дні на Кабінет Міністраў і яго бюджэтную палітыку і была ахрышчана многімі дэпутатамі як "Трышкаў каптан", "шлях у нікуды" і г. д.**

Са штодзённых сродкаў масавай інфармацыі чытач, трэба меркаваць, ужо знаёмы з ходам дыскусіі па Законе аб Дзяржаўным бюджэце на гэты год, і нам не выпадае вяртацца да яе. Тым не менш, мы вырашылі азнаёміць лімаўскага чытача з выступленнем у "Розным" 17 лістапада, акурат перад галасаваннем па Дзяржаўным бюджэце, дэпутата Вярхоўнага Савета, члена парламенцкай фракцыі Беларускай Сацыял-дэмакратычнай Грамады Віктара Аламп'ева. Выступленне гэтае, на нашу думку, адлюстроўвае погляд той часткі дэпутатаў, якія паслядоўна адстойваюць рынкавыя рэформы ў эканоміцы.

В. Аламп'еў: — Па ўсім відаць, што сёння большасць Вярхоўнага Савета зацвердзіць Дзяржаўны бюджэт на 1995 год, хоць ведае, што ён не зможа вырашыць праблем ні аховы здароўя, ні асветы, ні культуры, ні жыллёвага забеспячэння, не паспрыяе ўздыму эканомікі, а значыць і ўздыму жыццёвага ўзроўню грамадзян рэспублікі.

Тут у нас ужо чуліся галасы асобных дэпутатаў: "Давайце зацвердзім бюджэт, але зробім заяву, што мы да яго не маем ніякіх адносін". Не, мы маем адносіны да ўсяго, што адбываецца ў Вярхоўным Савеце.

Як гэта ні сумна, але планава-бюджэтная камісія Вярхоўнага Савета не палічыла патрэбным улічыць пры фарміраванні бюджэту некаторыя канструктыўныя прапановы парламенцкай фракцыі БСДГ. У прыватнасці, мы прапаноўвалі ўключыць у даходную частку бюджэту зборы за транзіт праз нашу тэрыторыю грамадзян, грузаў, энерганосьбітаў, а таксама плату за арэнду зямлі і маёмасці пад ваеннымі аб'ектамі Расіі. Па нашых разліках гэта магло б даць рэспубліцы больш за 3 трыльёны рублёў. Значнае паступленне грошай у казну, на нашу думку, даў бы распродаж зямлі. Мы прапанавалі на першым этапе, пад канкрэтныя інвестыцыйныя праекты, на конкурснай аснове прадаць усяго толькі 0,04 працэнта зямельнага фонду, або 8400 гектараў, што, па нашых разліках, дало б не менш, як 4,6 трыльёна рублёў, якіх бы хапіла на вырашэнне многіх нашых праблем у сацыяльнай сферы. Продаж гэтай невялічкай часткі зямельнага фонду мог бы забяспечыць паступленне інвестыцый ў памеры 1,2 мільярда рублёў, бо пры пакупцы зямлі на 1 долар трэба яшчэ ўкласці 5—8 долараў, каб атрымаць прыбытак.

Нашыя прапановы павінны вам быць сёння раздадзены. Прашу, спадары дэпутаты, падтрымаць іх.

Павышаную цікавасць, асабліва пішучай "браціі", акрэдытаванай на сесіі Вярхоўнага Савета, выклікаў абвешчаны спікерам парламента пункт парадку дня: "Аб асвятленні сродкамі масавай інфармацыі XVI сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь".

Гаворка ішла пра асвятленне працы бягучай сесіі Нацыянальнай тэлерадыёкампаніяй. Старшыня Вярхоўнага Савета М. Грыб, нагадаўшы гісторыю "пытання" — адмову старшыні Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Р. Кісяля весці прамую трансляцыю выступленняў дэпутатаў у "Розным", крайне тэндэнцыйнае асвятленне электроннымі сродкамі інфармацыі пленарных пасяджэнняў сесіі і, як вынік усяго гэтага, пастанову Вярхоўнага Савета аб вызваленні нагаданага Р. Кісяля з займаемай пасады, — праінфармаваў дэпутацкі корпус аб сваёй сустрэчы з прэзідэнтам краіны А. Лукашэнкам, у час якой выклаў пазіцыю ВС па гэтых пытаннях. Па словах Мечаслава Іванавіча, прэзідэнт адказаў яму, што пастанова Вярхоўнага Савета не мае для яго абавязковай сілы і ён яе проста праігнаруе. Прэзідэнт наш, відаць, слоў на вецер не кідае: "зняты" Вярхоўным Саветам з пасады Р. Кісель суправаджае Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку ў час яго дзяржаўнага візіту ў Кітайскую Народную Рэспубліку.

Інфармацыя М. Грыба, як і можна было чакаць, выклікала бурную рэакцыю часткі залы, пераважна парламенцкай апазіцыі, хоць, заўважым, не толькі яе. Гаварачы пра канфрантацыйнае стаўленне прэзідэнта да Вярхоўнага Савета, дэпутаты адзначалі парушэнне ім многіх палажэнняў Канстытуцыі, дзе адназначна вызначаны функцыі вышэйшай заканадаўчай улады, яе права кантраляваць выкананне прынятых ёю законаў і пастаноў.

Пра недапушчальнае парушэнне ў краіне гарантаваных Канстытуцыяй свабод слова і друку гаварылі дэпутаты Вярхоўнага Савета У. Заблоцкі, Л. Баршэўскі, С. Навумчык, М. Крыжаноўскі, У. Грыбанаў і іншыя. Былі выказаны прапановы звярнуцца па закранутых пытаннях да "трацейскага суддзі" — Канстытуцыйнага суда, абавязаць Генеральнага пракурора рэспублікі В. Шаладонава ўзяць пад кантроль выкананне рашэнняў Вярхоўнага Савета і нават прыняць закон аб абавязковым выкананні прынятых парламентам законаў.

Усё гэта магло б падацца смешным, калі б не было такім сумным. У дадатак адзначым, што ці не большасць дэпутатаў у час гэтых бурных дэбатаў захоўвала ледзяны спакой, яскрава даючы зразумець, што ўсе гэтыя хваляванні ім да лямпачкі. Мяркуючы па некаторых рэпліках суперпамяркоўнага спікера парламента, яму таксама хацелася спусціць гэтую справу на тармазах. Што, па сутнасці, і адбылося...

**М. ЗАМСКІ**

# "ТАМ, ДЗЕ ЎЛАДАРЫЦЬ ЖОРСТКАСЦЬ, АДКРЫТАЕ ГРАМАДСТВА ГІНЕ..."





Гэтымі словамі, узятымі з адной лекцыі пана Дж. Сораса, можна, напэўна, перадаць сутнасць яго светапогляду і жыццёвай філасофіі. Чалавек, чыё імя сёння сімвалізуе наймагутную ў свеце — грашовую — уладарную алігархію, на мінулым тыдні наведаў Рэспубліку Беларусь. Безумоўна, скорачаснасць візіту не магла не адбіцца на ўзроўні праблем, што вырашаліся пры сустрэчах Дж. Сораса з прэзідэнтам А. Лукашэнкам, міністрам замежных спраў У. Сянько, іншымі грамадскімі і палітычнымі дзеячамі Беларусі. Зазначым, што, хутчэй за ўсё, амерыканскі мільярдэр стаўў на мэце самы агульныя інфармацыйны зандаж грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі. Што яму, выдае, увогуле ўдалося зрабіць... калі ён толькі сапраўды паверыў тым запэўніванням, якія былі зроблены ў яго адрас А. Лукашэнкам. У прыватнасці, на прэс-канферэнцыі Дж. Сорас ацаніў сучасную палітычна-эканамічную сітуацыю ў Беларусі досыць аптымістычна, як "спрыяльную для пабудовы адкрытага грамадства", і зазначыў, што ў яго з'явіліся надзеі адносна магчымасцей рынкавых рэформ у Беларусі — што яшчэ ўлетку гэтага года падчас "несустрэч" з В. Кебічам выклікала сумневы... Як бы там ні было, Дж. Сорас даў станоўчы адказ на пытанне адносна магчымасцей павелічэння фінансавання пэўных праграм Беларускага Фонду Сораса ў 1995 годзе.

**Ю. З.**

*На здымках: у час сустрэчы Дж. Сораса з сябрамі фонду.*
*Фота А. КЛЕШЧУКА*

# ПЕРШЫЯ "НЕЗАЛЕЖНЫЯ" АДЗНАКІ...



Пра тое, што ў суверэннай Беларусі з'явіліся ганараваныя "па-новаму" артысты, музыканты-выканаўцы, было вядома яшчэ летась. І тое, што ўсіх колішніх заслужаных ды народных артыстаў БССР раптам пачалі прадстаўляць як ганараваных званнямі маладой Рэспублікі Беларусь, — таксама факт. Таму прыемна паведаміць, што на пачатку сёлетняга года ў Міністэрстве культуры і друку адбылося ўручэнне дзяржаўных адзнак менавіта суверэннай Беларусі дзеячам нашага opернага мастацтва. Сярод іх — Наталля Руднева, якой міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч уручыў пасведчанне заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь (на здымку Г. Жынкова), а таксама народны артыст СССР Аркадзь Саўчанка, які атрымаў Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета.

**С. В.**

# КРЫЗІС ЭКЗІСТЭНЦЫІ

*Усё на свеце позна прыходзіць.*

*У. КАРАТКЕВІЧ. "Дзікае паляванне караля Стаха"*

Памятаю, пры канцы 1992 года "ЛіМ" распачаў новую рубрыку — "Беларусь ідэальная". Спачатку задума дала пэўны плён (артыкулы і эсэ М. Крукоўскага, В. Салеева, С. Дзедзіча, А. Анціпенкі, У. Ахроменкі, Ю. Пацюпы), аднак затым хваля адцягненай рэфлексіі на глебе культуры неяк суціхла, сцішылася, неўзабаве зусім вярнулася ў звыклыя берагі публіцыстыкі... Не думаю, што на тое паўплываў стылістычны модуль "ЛіМа": публіцыстыка на старонках штотыднёвіка заўжды пераважала над эсэістыкай, — тут, думаецца, выявіліся прычыны больш анталагічныя, чым проста брак аўтараў. БЕЛАРУШЧЫНА СТАМІЛАСЯ ІСНАВАЦЬ АДНО Ў СЛОВЕ. Стагоддзе толькі вербальнага статусу культуры, відаць, вычарпала нейкі быццёвы ліміт, скарыстала ўсе дадзеныя натуральныя правы на існаванне. І зараз няма таго Слова, якое б узрушыла адраджэнскія шэрагі гэтак жа, як незалежніцкія заклікі З. Пазняка 1988—1994 гадоў, моўна-культурны патрыятызм Н. Гілевіча, бязлітасная праўда публіцыстыкі В. Быкава... Агульны патрыятызм і агульны сімвал веры — незалежнасць, мова, прэзумпцыя нацыянальнай беззаганнасці — змяніліся сітуацыяй, для якой колішнія сімвалы хоць і не састарэлі, дык моцна страцілі сваю дзейснасць. "Незалежнасць" ператварылася ў ідэалагічны рарытэт, лозунг учарашняга дня; толькі мова перастала задавальняць колы культурнай і палітычнай эліты; нацыянальны пурызм саступіў месца натуральнай і нават пажаданай крытыцы, ад якой здаровай нацыі нікуды не дзецца... Усё гэта здарылася даволі хутка і, відаць, было непазбежным. Фаза гераічнага ўздыму беларушчыны непазбежна павінна была скончыцца альбо РАДЫКАЛЬНАЙ зменай яе быцця, г. зн. прыходам да ўлады Беларускага народнага фронту (БСДГ, НДПБ, БХДЗ і г. д.) — і пераўтварэннем вербальнай беларушчыны ў рэальнасць, альбо — тым, што адбылося ўлетку гэтага года: адыходам беларушчыны назад, да ранейшага экзістэнцыяльнага стану.

Па маіх назіраннях, прыблізна тры гады, ад жніўня 1991 да ліпеня 1994, беларушчына выявіла пільную ўвагу да зямной рэчаіснасці, скіравала магутныя высілкі ў сферу палітыкі, сродкаў масавай інфармацыі, прадпрымальніцтва. Беларушчына, здавалася, цалкам паверыла, што можа АВАЛОДАЦЬ рэчаіснасцю. "Беларусь ідэальная" саступіла месца "Беларусі рэальнай" і... апынулася на ўзбоччы галоўных высілкаў, — таму і не атрымала развіцця тая рубрыка. Усе чакалі цуду.

Аднак цуду не адбылося. Найлепшыя спадзяванні разбіліся аб рэчаіснасць, і гераічная фаза ў развіцці беларушчыны скончылася экзістэнцыяльным вакуумам. На нейкі момант аказаліся страчаны быццёвыя апоры і самае галоўнае — выявіў сваю нядзейснасць агульны сімвал веры — незалежнасць, мова, прэзумпцыя нацыянальнай беззаганнасці. Вера ў незалежнасць не спраўдзілася; мова вырашыла толькі частку духоўных праблем; нацыянальны пурызм не ўратаваў ад слабасцей...

Да ранейшага стану існавання вяртацца заўсёды балюча. Але вось ужо паўгода, як беларушчына спакваля вяртаецца да сваёй страчанай экзістэнцыяльнай існасці — існаванню ў сферы Слова. І замест "Беларусі ідэальнай" (на старонках "ЛіМа") паўстаюць ідэальныя "Крыніца", "Крыўе", "Веда", "ЗНО"... Ці ёсць у гэткім вяртанні нейкі вышэйшы сэнс? Калі зыходзіць з няўдалага вопыту "заваявання рэчаіснасці", то, відаць, ёсць. Відаць, яшчэ не ўсе патрэбныя словы сказаны. Відаць, зноў і зноў трэба шукаць словы. Толькі цяпер ужо — без агульнага сімвала веры, цяпер — на шляху індывідуальнага вырашэння сваіх экзістэнцыяльных праблем. "Беларусь агульная" ўжо не дапаможа, не дасць рады БНФ, не выратуе фірма "Дайнова"... Час калектыўнай містэрыі скончыўся: цяпер усе, хто пасвечаны, мусяць вырашаць ТЫЯ Ж духоўныя задачы, але ўпаасобку.

Не раз задумаешся: а, можа, беларускасць і створана Богам адно для таго, каб бясконца доўжыць містэрыю пераадолення рэчаіснасці, вопыт перманентнага пярэйсця культуры са сферы жыцця ў сферу Слова? Бо іншых дастатковых знакаў беларушчыны, акрамя слова, не бачыцца. І калі што, скажам, застанецца ад нашага часу для гісторыі, дык, пэўна, толькі гадавікі "ЛіМа", "Культуры", "Нашай Нівы", "Свабоды", манументальныя выданні "Беларускай Энцыклапедыі", масіў гістарычнай літаратуры, што выдадзена за апошнія гады. Увогуле, чым болей мы пішам, тым больш адлавядаем уласнай — беларускай — экзістэнцыі. Нават моўленае (сказанае) слова ўяўляе сабой паліятыўнае вырашэнне экзістэнцыяльных праблем; застаецца — напісанае. Чым больш удалых спроб словам асягнуць быццё, тым больш быцця надаецца слову. Так і змагаемся: пазбаўленыя ўлады над рэчаіснасцю, ладзім рэчаіснасць слоў...

Рэчаіснасць беларускага слова расце, павялічваецца; па-над зямной рэальнасцю творыцца вобраз ідэалістычнай краіны, спароджаны чыстым духам. Здаецца, яшчэ трошкі, і сам гэты вобраз набудзе моц фармаваць рэчаіснасць... Але да таго часу, як гэта здарыцца, мусяць бясконца доўжыцца вопыты па пярэйсці беларушчыны з экзістэнцыяльнага застою ў сферу духоўнай творчасці. У гэтай справе нам не дапаможа ніхто збоку. Надыходзіць пара індывідуальных высілкаў.

**Юрась ЗАЛОСКА**

Надзённае

Сцяпан СІНІЦА

# З ЦЫКЛА "КРАІНА ІВАНІЯ"

●

**Краіны Іваніі бойцеся вы:**
**Ідалам моліцца,**
**а вольнае — губіць.**
**На тры кароны**
**там дзве галавы,**
**І тыя, дзюбатыя,**
**думаць не любяць.**

●

**Вялікая — вялікую хлусню**
**Ўсё плодзіць,**
**памнажаючы няшчасці.**
**Каб у другі раз**
**пакарыць Чачню,**
**Гатовая сваіх сыноў пакласці.**

●

**Там куміраў узносяць да зор,**
**Каб пасля яны ў пыле качаліся.**
**Чым прыгрэбці**
**уласны свой двор,**
**"Обустраивать" свет цэлы браліся.**

●

**Імперыя — традыцыі, найперш.**
**Там без крыві**
**і года не праходзіць.**
**А хтосьці прамаўляе палкі верш**
**О Родине, о славе, о свободе...**

●

**Гультайка,**
**ганарліўка,**
**весялуха...**
**Ты для "сясцёр малодшых",**
**як свякруха,**
**І ўсе тваё "даброты" мала значаць,**
**Калі ў абдымках**
**войкаюць і плачуць.**

●

**Простыя людзі —**
**ахвяры, не суддзі.**
**Шкода, прызнацца,**
**мне простых людзей.**
**У афіцыйным**
**размножаным брудзе**
**Самі па вушы**
**і кормяць дзяцей.**

●

**І з гэткаю дзяржавай — у саюз?!**
**Ёй у сябры-таварышы**
**пчаміцца?**
**Тут зразумее нават карапуз:**
**Не памагла**
**крамлёўская бальніца...**

# "НЕ!" АГРЭСІІ СУПРАЦЬ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ

## ЗАЯВА БЕЛАРУСКАГА КААРДЫНАЦЫЙНАГА КАМІТЭТА ПА АБАРОНЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Беларусь дагэтуль жыве ў рэжыме расійскамоўнай акупацыі. Але ў народа ствараецца ўражанне, што ў прэзідэнта няма іншага клопату, як змаганне супраць дзяржаўнай мовы Рэспублікі Беларусь. А робіцца гэта з прычыны няздольнасці праводзіць эканамічныя рэформы ў краіне.

Пытанне мовы — пытанне жыцця і смерці нацыі. Выступленне ў любой форме супроць беларускае мовы — гэта агрэсія супроць беларускае нацыі. Даводзім да ведама ўсіх, што ў Беларусі ёсць людзі, якія абароняць беларускую мову і нацыю ўсімі магчымымі сродкамі.

Той, хто змагаецца супроць беларускае мовы, штурхае краіну да грамадзянскае вайны. Гэты чалавек — або вар'ят, або самагубца, або амаральны авантурнік.

З мэтаю абароны беларускае мовы ў Рэспубліцы Беларусь і створаны наш камітэт.

Заклікаем усе патрыятычныя сілы Беларусі далучацца да гэтага грамадскага руху, ствараць мясцовыя суполкі й рэгіянальныя камітэты дзеля такое пачэснае справы.

Каардынацыйны камітэт перасцерагае дзяржаўных чыноўнікаў усіх узроўняў, у тым ліку кіраўнікоў навучальных устаноў, ад спроб парушаць Канстытуцыю нашае краіны і статус дзяржаўнасці беларускае мовы.

Камітэт звяртаецца да грамадзян краіны з заклікам паведамляць пра ўсе факты такіх парушэнняў з боку дзяржаўных чыноўнікаў у пракуратуру, а копію, як і ўсю магчымую інфармацыю па гэтых пытаннях, перасылаць на адрас самога камітэта.

Жыве Беларусь!

**Кантактныя тэлефоны: 68-14-35, 32-54-46, 70-62-39**

**Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13**

Меркаванне

# НЕ ПАМНАЖАЙЦЕ ЁЙ ВОРАГАЎ...

Гляджу апошнія навіны Бі-Бі-Сі, слухаю сінхронны пераказ перакладчыка. Увогуле нядрэнна, хоць часцяком пракідаецца і чужое слова. Але гэта даравальна, калі, можна меркаваць, чалавек прывык думаць па-руску, а адэкватнага слова з роднай мовы адразу не знаходзіцца.

Маю ўвагу непрыемна запыняе старасветчына. Яе сілком, як мне здаецца, цягнуць у наш дзень, а яна не прыжываецца і наўрад ці прыжывецца. Маю на ўвазе моўную старасветчыну. Я ўжо не маладога веку, дзед, але ніколі і ад старых бабуль на памежжы Случчыны і Любаншчыны, дзе нарадзіўся і стрэў юнацтва, не чуў: "шлянгу" (ад "шланг"), "Лёндан", "глёбус", "даляр". (Апошнія навіны Бі-Бі-Сі 9 студзеня). Дадам яшчэ, што на слыху: "мэблёвы" (ад "мэбля"), "сымболь", "сэнсацыя", "газэта", "мэталёлём"... Прыклады можна множыць. Відаць, так і гаварылі, пэўна ж гаварылі. Але калі? Тады, калі мова ўставала з каленяў, амаль стагоддзе назад. І вырасла ўжо не адно пакаленне без "мэталялёму". Дык навошта яму "лём" моўны, ці не адштурхоўвае ён шчырых прыяцеляў сённяшняй прывабнай і чыстай беларускай мовы, ці не памнажае новых яе ворагаў? Думаю, і адштурхоўвае, і памнажае. А непрыяцеляў у нашай мовы, адкрытых ворагаў і без таго больш, чым вы думаеце. І з усходу, і з захаду, і асабліва ў сябе дома, і найперш у асяродку манкуртаў, і найгорш, падкрэслю, манкуртаў самага высокага чыну.

Мова — матэрыя рухомая. Яна ў пастаянным развіцці, ва ўдасканаленні. Сёння ніхто не гаворыць на мове "Аповесці былых часоў" і пазнейшага "Баркулабаўскага летапісу". Навошта ж ажыўляць тое, што аджыло? Гэта немагчыма. Як і немэтазгодна весці спрэчкі пра "ь" (мяккі знак). Ва ўсякім разе, так я лічу. Пра мяккі знак як паміж падвойных зычных, так і пры злучніку "з", так і пасля мяккага пры вымаўленні "с". Там чуецца ён выразна: "сьнег", "сьмех", "сьцяг", "пасьля", "сьмятана"... Апроч непрыемнай стракатасці мяккага знака пры напісанні і надрукаванні — нічога гэта не дае.

Мы лічым, што жывём у цывілізаваным грамадстве. А кожнае цывілізаванае грамадства трымаецца законаў, якія яно выпрацавала і якіх ніхто не адмяняў. Прынамсі, хоць робіць выгляд, што паважае іх. А ў нас? Яшчэ толькі ідуць спрэчкі пра тое, што варта вярнуць у беларускі правапіс, ад чаго трэба адмовіцца, а ўжо — "губерня піша". Нарматыўны закон не прыняты, але, як кажуць, для нас закон не пісаны. Некаторыя друкаваныя органы ("Наша Ніва", "Свабода" і іншыя) "самасційна" вяртаюцца, ці лепш сказаць, стараюцца вярнуцца да старога правапісу. Гэтым "грашыла", на жаль, і "Беларуская маладзёжная" Беларускага радыё. Ці варта спяшацца, зважаючы на час і новыя пакаленні, рабіць гэта? Ці варта вытрэсваць старыя моўныя запыленыя андаракі? Яшчэ раз: не памнажайма ворагаў беларускай мовы, калі мы сапраўдныя патрыёты і хочам ёй здароўя і дабра. Бо вынікі з гэтага, як правіла, атрымліваюцца адваротныя.

Кожная мова мае запазычванні. І наша, і з нашай таксама. Яны ідуць самі па сабе. Але ці трэба амаль "пятроўскім указам", што называецца гвалтам, на вачах апальшчаць беларускую мову ў наступных двух выпадках? Апошнім часам вельмі модным стаў выраз: "так бы мовіць". Слоўнік польскай мовы слова "mówić" падае адназначна: "гаварыць". Дык чаму мы ідзём ад польскага "мовіць", "мувіць" насуперак беларускаму "гаварыць"? Ёсць жа народныя ўстойлівыя і ўсімі прынятыя выразы: "як той казаў", "як у нас гавораць", "як гаворыцца", "як кажуць", "як зазвычай" і г. д. Карыстайся на здароўе і не вынаходзь чужы веласіпед.

Другі выпадак — "выстава". Асабліва папулярнае гэтае слова сярод мастакоў. У іх што ні крок, то — "выстава"!

Звернемся зноў жа да слоўніка польскай мовы. Там слова "wystawa" трактуецца як: "выстаўка", "вітрына", "афармленне спектакля". Так што выстаўку трэба і называць выстаўкай, а ніякай не выставай, шаноўныя таварышы.

За слова "таварышы" тут, відаць, мае апаненты мне і падсыплюць.

Не хачу апраўдвацца, што да слоў "спадар", "спадарства" я яшчэ не прывык. Ды і не довад гэта, не апраўданне. Мая мама ў гаворцы пра сваіх сяброўак казала: "Мы з ёй таварышавалі". Згадаем Пушкіна: "Товарищ, верь, взойдёт она...", словы з рускай народнай песні "По диким степям Забайкалья": "Верный товарищ бежать пособил". Не, не камуністы прыдумалі слова "таварыш". Яно толькі стала ў іх формай звароту. І не трэба на яго накладваць табу. Бо яму наканаваны сёння лёс атрыбутаў беларускай сімволікі. Але ж яе таксама не прыдумалі калабаранты падчас нямецкай акупацыі. Ёй стагоддзі і стагоддзі, але і сёння супраць яе нямала хто ідзе ў рожкі, цягнецца да прыдуманага чырвонага сцяга, пад якім праліта не адна Нарач бязвіннай чалавечай крыві, калі нас пад канвоем, з пятлёй на шыі гналі "ў светлую будучыню". Розным эСэСам гаварыць пра гэта проста нявыгадна, хоць яны і адчуваюць алергічны сверб пра той крывавы час. Так што пакіньце ў спакоі і слова "таварыш". Наша мова багатая, але не настолькі, каб пазбавіцца хоць і аднаго слова.

У невялікім пісьме я закрануў, лічу, вялікую тэму. Я кранаюся яе, дарэчы, і ў вершах. Не ўсе мяне падтрымаюць. Але ў спрэчцы нараджаецца ісціна.

**Уладзімір ПАЎЛАЎ,**
**сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі**

ЛіМ
ЧАСАПІС



## ПРЭМІІ Ў ГАЛІНЕ НАВУКІ

**У першым нумары за сёлетні год мы паведамлялі аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1994 года ў галіне літаратуры і мастацтва. Але ж прэміі прысуджаны таксама і ў галіне навукі і тэхнікі. Прыемна, што сярод новых лаўрэатаў ёсць і навукоўцы-гуманітарнікі. За цыкл работ "Скарына і беларуская культура" Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь прысуджана кандыдату гістарычных навук, старшаму навуковаму супрацоўніку, загадчыку аддзела спецыяльных гістарычных навук Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі Георгію ГАЛЕНЧАНКУ; кандыдату філалагічных навук, былому старшаму навуковаму супрацоўніку Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі Віктару ДАРАШКЕВІЧУ; члену-карэспандэнту Акадэміі навук Беларусі, доктару філалагічных навук, прафесару, саветніку пры дырэкцыі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі Аркадзю ЖУРАЎСКАМУ; члену-карэспандэнту Акадэміі прыродазнаўчых навук Расійскай Федэрацыі, доктару гістарычных навук, прафесару, галоўнаму навуковаму супрацоўніку Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі Яўгену НЕМІРОЎСКАМУ; кандыдату філалагічных навук, старшаму навукому супрацоўніку, загадчыку аддзела гісторыі старажытнай і новай беларускай літаратуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі Вячаславу ЧАМЯРЫЦКАМУ; доктару мастацтвазнаўства, старшаму навуковаму супрацоўніку, загадчыку аддзела старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі Віктару ШМАТАВУ.**

**Віншуем лаўрэатаў з высокай адзнакай іх плённай навукова-даследчыцкай працы! Зычым ім далейшых жыццёвых і творчых поспехаў!**

## І ПРА ВАЙНУ ПА-СВОЙМУ

**піша "Беларускі гістарычны часопіс". Яшчэ ў другім нумары за мінулы год ён пачаў гаворку і пра тое негатыўнае, што мела месца, калі і на самай справе дзейнічалі па прынцыпе: "мы за цаной не пастаім". У чацвёртым нумары завяршэнне публікацыі — "Дакладная запіска "Аб зробленай рабоце ў тыле ворага за перыяд з першых дзён вайны, г. зн. з чэрвеня 1941 года па 3-е красавіка 1942 года" (публікацыя В. Ермаловіча), напісаная В. Каржом. Яе варта прачытаць, асабліва тыя месцы, дзе згадваюцца В. Казлоў, Р. Мачульскі.**

**Галоўны рэдактар "Беларускага гістарычнага часопіса" В. Кушнер гутарыць з міністрам адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь В. Стражавым. У блок "Гродзеншчына" аб'яднаны матэрыялы А. Трусава і А. Краўцэвіча "Археалагічнае даследаванне Барысаглебскай царквы і манастыра ў Гродне", А. Грыцкевіча "Стэфан Баторый і Гародня", М. Біча "Эвалюцыя рабочага руху на Гродзеншчыне ў канцы XIX—пачатку XX ст.", І. Крэня і У. Нядзелькі "Гродзенскае падполле".**

## НА БЕЛАРУСЬ ПАПРАЦУЕ... БРАКГАЎЗ

**Днямі адбылася знамянальная падзея ў культурным жыцці нашай суверэннай дзяржавы. Часовы Паверааны ў справах ФРГ у Рэспубліцы Беларусь доктар Ханс-Дытэр Цыглер уручыў галоўнаму рэдактару выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі Барысу Сачанку 23 тамы сусветна вядомай энцыклапедыі Бракгаўза, апошні, 24 том якой, па выхадзе, таксама будзе дастаўлены на Беларусь.**

**Гэтая важная акцыя адбылася дзякуючы экс-міністру замежных спраў Рэспублікі Беларусь Пятру Краўчанку, які, як вядома, пасаду міністра сумяшчаў з работай старшыні нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА. Акурат тады і наладзіліся плённыя сувязі з Германіяй, як у рэшце рэшт і з іншымі краінамі, а энцыклапедыя набыта на сродкі нямецкай нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА.**

**Бадай, няма патрэбы нагадваць, наколькі высокім аўтарытэтам у спецыялістаў (не кажучы пра радавых чытачоў) карыстаецца згаданая энцыклапедыя. Думаецца, яна акажа добрую паслугу і нашым нацыянальным энцыклапедыстам, асабліва пры падрыхтоўцы 18-томнай "Беларускай энцыклапедыі".**

**Дарэчы, сёлетні год юбілейны для энцыклапедыі Бракгаўза. У 1805 годзе ў Амстэрдаме была заснавана нямецкая выдавецкая фірма, якую ў 1808 годзе набыў Ф. А. Бракгаўз.**

Пошта

# ПАД ЭКАНАМІЧНАЙ ЦЭНЗУРАЙ

Прагрэс у сацыяльна-эканамічным і культурным развіцці грамадства шмат у чым звязаны са станам навукі. У шэрагу праблем, ад вырашэння якіх непасрэдна залежыць якасць і змест навуковай працы, неабходна асобна вылучыць усё большае і большае значэнне інфармацыйнага забеспячэння. Пры гэтым варта падкрэсліць, што паўната інфармацыі, яе аператыўнасць, даступнасць непарыўна злучаны з узроўнем інфарматызацыі грамадства.

Пры адсутнасці належнай увагі да праблем інфармацыйнага забеспячэння правакуюцца працэсы, якія вядуць да застою і дэградацыі ў грамадстве, што ўжо і назіраецца.

Звернемся да фарміравання базавай інфармацыі, паўнаты камплектавання кніжнай прадукцыі і перыядычнага друку. Непасрэдная ўзаемасувязь паміж якасцю інфармацыйнага забеспячэння і ўзроўнем камплектавання відавочная. Няўхільным правілам фарміравання нацыянальных інфармацыйных рэсурсаў з'яўляецца абавязковае атрыманне аднаго экземпляра друкаванай прадукцыі, якая выдаецца ў дзяржаве. Рынкавае мысленне сучасных выдаўцоў вядзе да адмаўлення ад таго, што ва ўсіх цывілізаваных краінах лічыцца гарантаваным — ад забяспечанай законам перадачы абавязковых экземпляраў у навуковыя бібліятэкі.

Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь "Аб парадку рассылкі кантрольных і абавязковых экземпляраў твораў друку" (ад 29 снежня 1991 г.) абавязвае ўсе выдавецкія арганізацыі і ўстановы рассылаць кантрольныя экземпляры адпаведна з прыкладзеным пералікам бібліятэк, але ў адрозненне ад папярэдняй пастановы (ад 29 студзеня 1988 г.), у новай не ўспамінаецца абавязковы платны экземпляр, які бібліятэкі атрымлівалі з 1949 года. Гэта прывяло да таго, што з 1991 года, у сувязі з выхадам новай пастановы, бібліятэкі перасталі атрымліваць абавязковы платны экземпляр друкаванай прадукцыі, якая выдаецца ў рэспубліцы. У адносінах да кантрольнага экземпляра пастанова фактычна не выконваецца, таму што адсутнічае механізм кантролю за выкананнем законаў і пастаноў, што вядзе да іх бяздзеяння.

Да ўсяго іншага на змену ідэалагічнай цэнзуры прыйшла эканамічная. Гэта асабліва наглядна праяўляецца ў выданні навуковай, даведачнай і навучальнай літаратуры, дзе спад складае 80—90%. Відавочна, што без актыўнага ўмяшання дзяржавы ў кнігавыдавецкую палітыку не абысціся. Патрэбна дзяржаўная падтрымка тым нешматлікім выдавецтвам, якія працягваюць выдаваць сацыяльназначную літаратуру. Неабходна вырашаць пытанне аб утварэнні паўнацэннага кніжнага рэпертуару. У нас у рэспубліцы гэта праблема перададзена ў рукі дзялкоў ад кніжнага бізнесу.

Правядзенне падпіснай кампаніі для бібліятэк — перыяд суцэльнага кашмару. Самавольства, бескантрольнасць, некіруемасць паштовых службаў, якія праводзяць падпіску на расійскія перыядычныя выданні, дасягнулі крытычнага пункта. Без узгаднення з бібліятэкамі і без уведамлення іх аб гэтым з падпіскі здымаюцца важнейшыя навуковыя часопісы. Цэны, і без таго астранамічныя, пры пераводзе на беларускія разліковыя білеты павялічваюцца ў 2,5—3 разы вышэй курса расійскага рубля на дадзены момант, плюс 50% ад кошту падпіскі бібліятэка вымушана плаціць за паслугі паштовай службе. Нават самым буйным бібліятэкам рэспублікі гэта не пад сілу. Мы ідзём да таго, што ў бліжэйшы час у адной або дзвюх навуковых бібліятэках будзе па адным экземпляры расійскіх навуковых выданняў, і гэта на ўсіх вучоных, спецыялістаў, выкладчыкаў і студэнтаў рэспублікі. Спецыфічнымі метадамі вырашаюцца праблемы камплектавання навуковых бібліятэк замежнай літаратурай ва ўмовах неканверсаванасці і адсутнасці валютных асігнаванняў. На сённяшні дзень адзінымі каналамі папаўнення фондаў замежнай літаратурай з'яўляецца міжнародны кнігаабмен (МКА) і праграмы кніжнай дапамогі.

Цэнтральная навуковая бібліятэка АН падтрымлівае самыя шырокія кнігаабменныя сувязі з замежнымі партнёрамі. Па МКА ў бібліятэку паступае літаратура з 798 арганізацый 39 краін свету. Штогод мы атрымліваем каля 1 тыс. найменняў выданняў. Аднак праводзіць міжнародны кнігаабмен становіцца ўсё складаней. Паўстаюць усё новыя і новыя праблемы. Беларускія выдавецтвы пачалі друкаваць свае тэматычныя планы на беларускай мове незалежна ад мовы запланаваных да выдання кніг. У сувязі з гэтым рэзка знізілася колькасць заказаў з боку зарубежных партнёраў — узнік моўны бар'ер. Тэмпланы пачалі вяртацца назад з просьбай даваць інфармацыю на рускамоўныя выданні на мове арыгінала, а на беларускія выданні даваць анатацыю на рускай або англійскай мове. На наш адрас паступаюць рэкламацыі наконт неаператыўнай пастаўкі абменнай літаратуры. Але кошт паштовых перасылак за мяжу перавышае фінансавыя магчымасці бібліятэкі і таму мы не заўсёды маем магчымасць своечасова высылаць заказаную літаратуру. Безупынны рост цэн на друкаваную прадукцыю, рэзкае павелічэнне паштовых выдаткаў, хранічны недахоп бюджэту бібліятэкі зводзяць да нуля нашы намаганні, каб належным чынам праводзіць кнігаабмен, і не даюць магчымасці пашыраць кнігаабменныя сувязі. Каб выйсці з гэтага становішча, якое можна характарызаваць як інфармацыйны вакуум, ЦНБ праведзена велізарная работа: устаноўлены кантакты з Амерыканскай асацыяцыяй садзейнічання навуцы, з Міжнародным навуковым фондам, фондамі еўрапейскіх дзяржаў. У выніку гэтага з 1993 года ў бібліятэку паступае 210 назваў навуковых часопісаў амерыканскіх выдавецтваў, у тым ліку "Chemical Abstracts" коштам 20000$. Праз Міжнародны навуковы фонд аформлена падпіска на 123 назвы навуковых часопісаў і на 80 назваў — праз фонды еўрапейскіх дзяржаў.

Міністэрства адукацыі Германіі выдзеліла ЦНБ АНБ 200 тыс. марак на закупку навуковай і даведачнай літаратуры. Для адбору літаратуры былі задзейнічаны вядучыя спецыялісты інстытутаў АН. Такім чынам, фонды ЦНБ папоўніліся 700 экземплярамі навуковай нямецкай літаратуры. Атрыманая літаратура экспанавалася на арганізаванай у ЦНБ выстаўцы і выклікала вялікую цікавасць нашых вучоных. На працягу мінулага года па гуманітарнай дапамозе з Германіі паступіла звыш 5000 экземпляраў замежных навуковых кніг. Бібліятэка ўстанавіла сувязі з амерыканскім абменным фондам у Кліўлендзе і летась у жніўні атрымала каля 5000 экз. навуковых выданняў і часопісаў. 2000$ за перасылку літаратуры было аплачана фондам Сораса.

Праграмы кніжнай дапамогі можна ўспрымаць як інвестыцыйныя праекты, скіраваныя ў будучыню. Бясспрэчна, яны даюць магчымасць для супрацоўніцтва, садзейнічаюць узнікненню даверу, набыццю вопыту. І ўсё ж гэта праграмы бедства. Мы вельмі ўдзячны нашым зарубежным калегам, якія прыйшлі на дапамогу бібліятэцы.

Цэнтральная навуковая бібліятэка АН Беларусі — буйнейшая навуковая бібліятэка рэспублікі — з 1991 года не мае валютнага фінансавання і вымушана адмаўляцца ад выгадных прапаноў замежных выдавецкіх фірм падпісацца на навуковыя перыядычныя выданні нават з 90% скідкай.

Інвестарам і гарантам бібліятэк такога рангу, як Нацыянальная бібліятэка, Цэнтральная навуковая бібліятэка АН Беларусі, можа быць толькі дзяржава. Але сёння, як, дарэчы, і ў мінулыя часы, улады і культура па-ранейшаму размаўляюць на розных мовах. Лічыцца, што спачатку трэба накарміць народ, а ўжо потым думаць аб духоўнасці. Накарміць народ і выратаваць, зберагчы, адрадзіць культуру — задачы раўназначныя. З першай задачай пагодзяцца амаль што ўсе, у адносінах да другой — будуць апаненты. Але варта адзначыць, што аб прыярытэце духоўнасці заяўляюць людзі самай нізкааплатнай прафесіі — бібліятэкары, якія жывуць на мяжы беднасці.

Годнасць дзяржавы не адрадзіць без культуры і ведаў. А культура і веды пачынаюцца з кнігі, бібліятэка ж з'яўляецца адным з галоўных каналаў іх распаўсюджвання. Для таго, каб падняць бібліятэку на належны ўзровень, забяспечыць яе прававую абарону, патрэбны законы. "Закон аб бібліятэчнай справе" ўжо на працягу некалькіх гадоў ніяк не можа трапіць на парадак дня сесіі Вярхоўнага Савета.

Адсутнічае інфармацыйная палітыка ў рэспубліцы. Час ад часу выстаўляецца лозунг — "Інфарматызацыя грамадства", пры гэтым акцэнт ставіцца на тэхнічныя і транспартныя сродкі інфармацыі, але ж гэта праблему вырашае толькі на 20%. Інфармацыйныя рэсурсы застаюцца па-за межамі ўвагі.

Інфарматызацыя грамадства, а, значыць, і культуры — непазбежная перспектыва і залаты век бібліятэк яшчэ не наступіў. Ён не ў мінулым, ён у будучыні. Толькі, на жаль, яшчэ невядомы тэрміны яго прыходу.

**С. ЕМЯЛЬЯНАВА,**
**намеснік дырэктара па навуковай рабоце**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Згодзен, зашмат гэтага "неда": недабор, недавага, недавыпуск, недавырабка, недавыручка, недагруз, недагрэў, недадача, недаліў, недамер, недалёк, недаплата, недасеў, недаўлік. Але ж хапае і "пера": пераварка, ператочка, перавыбары, перавыданне, перагаласоўка, перадзел, перадопыт, переразаліс, пераздача, перакамісаванне, перамер, перасуд, ператрактоўка, перафарбоўка, перазаханне, пераацэнка, пераштэмпеляванне. Жыць можна!

●

Апрасціліся нашы фундатары, адчулі гнеў чалавечы, скінулі шапкі андатравыя, панадзявалі кашэчыя. Ці будзе ён даўгавечны, гэты перыяд кашэчы?

●

Пісьмо ў пракуратуру. Я быў "чаўнаком" у Швецыі і там па дурасці "грымнуў", і мяне па нейкай канвенцыі пераправілі на радзіму. А ў Швецыі турмы з тэлевізарамі, а ў Швецыі ў турмах выхадныя, а ў нас тут неба шызае і нары трайныя. Вы ўмовы нашы самі ведаеце, не кажу ўжо, што кормяць па-свінску, дык ці нельга мяне зноў у Швецыю, адбываць па месцы злачынства?

●

"Не пішацца, — скардзіўся Валодзя Караткевіч, найталенавіцейшы мастак, — бывае, і радок не выходзіць, пішацца, ды не так". Дзівішся гэтай незадаволенасці сабою ў творцы, што ўмеў працаваць запоем, вось каб іншыя так.

●

— Глыбіня падзення залежыць ад вышыні ўзлёту, — кпіла з пілотаў пяхота. — А вам, каб зваліцца, хапае сумёта, — смяяліся пілоты. У гэтай гісторыі няма алегорый: лятаюць пілоты, а спатыкаецца пяхота.

●

Вандэйская хроніка. Як паведамілі газеты, у валютным аддзеле Забалачанскага універсама звольніліся ўсе прадаўцы. "Абрыдла дагаджаць пакупнікам, усміхацца, казаць "дзякуй" за пакупку, нас гэтаму не вучылі", — заявілі дзяўчаты. Працаваць у шкодным аддзеле згадзіліся толькі члены рэлігійнай секты "Браты і сёстры", нядаўна ўтворанай у абласным цэнтры.

●

Пазваніў па нумары, які давалі ў рэкламе. "Памылка, — сказалі на тым канцы дроту, — гэта не нумар тэлефона, а цана, па якой ён прадаецца. Спяшайцеся, аднак, нумар можа стаць сямізначным".

●

З народнага. Жлукта жлукту пытае: "Ты мяне паважаеш?" — "Не тое слова, лабузя, я табой ганаруся!"

●

— Прэш на Парнас? — А што цяпер Парнас — ні ордэна, ні чыну, ні кілбас. Раблю для выдавецтва "Парнасекс", а гэта, брат, не хлеб нават, а кекс. Растыражуюць для шырокіх мас, і стане дача з відам на Парнас. — Мы не даходзілі да гэткага цынізму. — Пра што ж пісалі вы — пра шлях да камунізму?

●

З народнага. Якія бачыць сны? Лепш скулы, чымся грошы. Ачнуўся — ты харошы, а грошы — дзе яны?

# ГАЛОЎНАЕ — УВАГА ДА ЛЮДЗЕЙ

## ГУТАРКА З МІНІСТРАМ КУЛЬТУРЫ І ДРУКУ АНАТОЛЕМ БУТЭВІЧАМ

**— Сістэма кантрактаў, якая прэзідэнцкім указам уводзіцца ў рэспубліцы, у галіне культуры, наколькі мне вядома, існуе ўжо тры гады.**

— Не толькі ў культуры. У кнігавыданні, паліграфіі таксама. Іншая справа, што наспела аб'ектыўная неабходнасць перазаключэння старых і заключэння новых кантрактаў, з'явілася шмат новых законаў, якія закранаюць пытанні працоўнай дзейнасці, адносін да маёмасці і кіравання ёю, магчымасці распараджацца маёмасцю кіраўнікамі арганізацый і ўстаноў і адпаведнымі міністэрствамі. Акрамя таго, у сферы культуры да гэтага кантракты былі заключаны не з усімі кіраўнікамі.

**— На які тэрмін заключаюцца кантракты?**

— Мінімальны тэрмін кантракта — два гады, максімальны — зыходзячы з канкрэтнай сітуацыі. Але паколькі міністэрства ў аб'ядналым выглядзе працуе толькі год, мы вырашылі перад заключэннем кантрактаў правесці своеасаблівую атэстацыю кадраў. Гэта, мабыць, наша наваўвядзенне. Практычна ўсе кіраўнікі падпарадкаваных нам прадпрыемстваў і ўстаноў трымалі абарону сваіх праграм дзейнасці на калегіі.

**— У якой форме праходзіла атэстацыя?**

— Кіраўнік на пасяджэнні калегіі дакладваў пра справы ў сваіх калектывах, пра асноўныя праблемы і як ён бачыць іх вырашэнне (што было самым галоўным). Бо сёння ўсе жывуць цяжка, і толькі скардзіцца і апеляваць да міністэрства было б несправядліва. Пасля кароткай справаздачы — заключэнне намесніка міністра, які курыруе тую ці іншую сферу, потым пытанні да прэтэндэнтаў і рашэнне: рэкамендаваць або не рэкамендаваць на заключэнне кантракта. Формула заключэння заставалася ранейшая: падпісвае міністр, з аднаго боку, з другога боку — той, хто наймаецца на працу.

**— Што чакалася ад атэстацыі і што дало яе правядзенне?**

— Адбылося больш глыбокае знаёмства калегіі са сферай. На нас абрынулася мноства праблем, пра якія, можа, не ўсе і ведалі. Нагадаю, што ў нас сфарміравана новая калегія, як яб'ядналіся міністэрствы. І я, як новы чалавек у культуры, і намеснікі, якія раней курыравалі толькі культуру, пачулі пра ўсю сферу — выдавецтвы, паліграфія, кніжны гандаль... Каля 80-ці кантрактаў належала заключыць, і кожнага трэба было выслухаць, высветліць стан спраў.

Атэстацыя падштурхнула саміх кіраўнікоў на рашэнне праблем не толькі за кошт бюджэту, што натуральна, але і на пошук уласных шляхоў, уласных ініцыятыў. Такім чынам, атэстацыя прымусіла адчуць большую адказнасць. Не так часта даводзіцца начальнікам выходзіць на вочы калегіі, быць аб'ектам пільнай увагі сваіх калег. Гэта была свайго роду дысцыплінуючая акцыя.

**— Своеасаблівы экзамен?**

— Так, экзамен. Але хачу падкрэсліць, што атэстацыя дала разуменне: у абсалютнай большасці нашы кіраўнікі — кваліфікаваныя, кампетэнтныя людзі, якія хвараюць душой за справу (хоць гэта і збітая фраза, але адпавядае сапраўднасці). Акрамя таго, выявілася шмат аспектаў, пра якія належыць думаць самому Міністэрству культуры і друку (пра іх крыху ніжэй).

**— Мы, здаецца, падышлі да вынікаў: ці з усімі заключаны працоўныя кантракты?**

— Не, не з усімі. Адны адназначна рэкамендаваліся да працы, другім было адмоўлена ў сувязі з рознымі прычынамі: хто па ўзросце, хто па запушчанасці спраў... Былі і такія, каму калегія рэкамендавала мець больш дакладны план дзейнасці на бліжэйшую перспектыву. На жаль, многія выходзілі на калегію без такога плана — што яны збіраюцца рабіць у сённяшнім становішчы ў структуры, ім падначаленай. Пры падпісанні кантрактаў, заўважу, мы дадаткова слухалі людзей. Такі падыход меў карысць: кожны прыйшоў ужо з праграмай дзейнасці. Нават тыя, што не бачылі раней рэальных шляхоў выйсця, знайшлі канкрэтныя падыходы, напрамкі. З дапамогай калегіі, вядома.

**— Якое падраздзяленне падалося вам найбольш укамплектаваным, моцным у сэнсе кіраўнічых кадраў?**

— Не хацеў бы некага выдзяляць, бо ў цэлым, як я сказаў, усе на сваім месцы, людзі не толькі слова, але і справы, прафесіяналы.

**— Ну, і чым жа азадачылі вас рэктары і дырэктары, якія праблемы прадсталі непасрэдна перад міністэрствам?**

— Звернемся, напрыклад, да эстрадных калектываў, якія апынуліся адзін на адзін з усімі вытворчымі і творчымі цяжкасцямі. Самі іх кіраўнікі просяць, каб мы нейкім чынам заняліся творчай ацэнкай, падтрымалі метадычнай дапамогай. На жаль, не аказалася структуры, якая б сёння ў рэспубліцы займалася эстрадай. Філармонія стала чыста філарманічнай установай і займаецца высокім, скажам так, мастацтвам, а эстраднікі засталіся самі па сабе або, як некаторыя, — у рэспубліканскай дырэкцыі эстраднацыркавога мастацтва. Гэтая ўстанова апошнім часам больш займаецца правядзеннем масавых мерапрыемстваў. Справа таксама патрэбная, такой структуры раней не было, але ў сённяшніх умовах ёй варта было б узяць на сябе функцыі і нейкага метадычнага цэнтра. Можа быць — з пашырэннем штату, з бюджэтным часткова фінансаваннем... Адным словам, ёсць пра што думаць.

**— Мабыць жа, нямала задач задалі і працэсы "раздзяржаўлівання"?**

— На гэтым варта спыніцца асобна. Наконт прыватнага сектара былі і будуць дыскусіі. З аднаго боку, нельга ўсё аддаць сёння ў прыватныя рукі. Прыватызацыя ў культуры (а гэта свайго роду ідэалогія) не заўсёды дае магчымасць адэкватна трымаць творчы ўзровень. Калі гэтым шляхам пайсці, то я не ўпэўнены, што выходзіла б сур'ёзная прадукцыя, скажам, у кніжных выдавецтвах. Мы ж бачым: ёсць 10 дзяржаўных і 800 недзяржаўных выдавецтваў, і хто з іх выпускае сацыяльна-неабходную літаратуру? Дзяржаўныя. А калі адпусціць іх "на волю", ці мелі б мы аддачу? Тое самае ў галіне кінавытворчасці, кінапаказу... Мы ведаем, якія ідуць кінафільмы, відэафільмы, а пусці яшчэ на самацёк...

З другога боку, ужо няма і не павінна быць жорсткай рэгламентацыя дзейнасці. Ніхто не забараняе шукаць, эксперыментаваць. Кніжны гандаль возьмем, ён у вельмі складанай сітуацыі. Магазіны плацяць такую высокую арэндную плату, такія нясуць выдаткі за ўтрыманне, што гэта з'ядае ўсе сродкі, атрыманыя за продаж кніг. Думаем, што магло б быць акцыяніраванае таварыства — напрыклад, кніжнага гандлю і выдавецтваў — з уласнымі фірменнымі магазінамі. Тое ж самае і па "Саюздруку". Можна пачаць акцыяніраваць на ўзроўні абласцей, каб яго аддзяленні маглі працаваць лепш і больш эфектыўна, пры захаванні — абавязковая ўмова — профільнасці.

Такі вось клубок праблем, якія трэба вырашаць у новым годзе. На далёкую перспектыву мы не надта арыентуемся, бо яно лягчэй за ўсё — будаваць папяровыя замкі, як камунізм праз 20 год. **Сёння** трэба! Таму і мэту на калегіі ставілі, і кіраўнікоў арыентавалі, і праграму на 1995 год распрацоўваем — што канкрэтна трэба зрабіць у сферы кінамастацтва, выдавецкай дзейнасці, паліграфіі, музейнай справы...

А важней за ўсё — захаваць калектывы.

**— А ці няма пэўнай долі фармалізму і ў самой атэстацыі, і ў кантрактнай форме? Што ні кажыце, а справа для нас новая...**

— Павінен шчыра і сумленна сказаць: не, няма. У нашай калегіі не толькі чыноўнікі з міністэрства, але і творчыя людзі. У складзе яе М. Казінец, І. Чыгрынаў, В. Тураў, М. Яроменка (ці трэба прадстаўляць кожнага асобна?), а таксама М. Кавалеўскі, дырэктар выдавецтва "Беларусь", У. Наркевіч, галоўны рэдактар газеты "Звязда". Некалькі тыдняў засядалі з раніцы да позняга вечара, часам без перапынку на абед.

**— Мне давялося прысутнічаць на адным з пасяджэнняў — дзе заслухоўвалі рэктараў вышэйшай школы — Я. Грыгаровіч, В. Шаранговіча, У. Скараходава. Вы літаральна закідвалі іх пытаннямі, а што да самой калегіі, то актыўнасці штось не заўважыла...**

— Усё залежала ад сферы інтарэсаў і ўзроўню інфармаванасці. Галоўнае, што ставіліся прынцыпова і ацэньвалі прынцыпова. Згадаю эпізод, калі гаворка ішла пра ансамбль "Харошкі". Там цяжкая вельмі сітуацыя, іх аркестр цалкам выязджае ў Амерыку на сталую працу. За гэтым фактам бачыцца не толькі лёс канкрэтнага калектыву, але і паўстаюць пытанні нарматыўнай базы. Дзяржава стварала ўмовы для працы, дык пэўная адказнасць павінна быць і перад дзяржавай...

**— Нешта вы, Анатоль Іванавіч, хінецеся да эстрады. Няўжо гэта самы цяжкі зараз у культуры ўчастак?**

— На сённяшні дзень — так, бо ён быў амаль што безгаспадарчым. Пасля гарачых дыскусій вакол "Харошак" мы вырашылі, што нейкім чынам трэба шукаць абарону творцаў і творчых калектываў, бо ад'езд таленавітых людзей іх можа проста паралізаваць.

**— Кантракт звычайна прадугледжвае адказнасць абодвух бакоў...**

— Гэтая форма і больш дэмакратычная, і больш цяжкая для таго, хто наймаецца на працу. Яе можна было б пашырыць і на радавых супрацоўнікаў, аднак у асяроддзі творчых людзей не ўсе яе, думаю, падтрымаюць (па розных зноў жа прычынах). Самы вялікі недахоп — немагчымасць вар'іраваць аплату працы. Яна вызначаецца толькі пэўнай тарыфнай сеткай. Працуе, дарэчы, камісія па гэтых пытаннях пры Кабінеце Міністраў, там удзельнічае наш першы намеснік міністра У. Гілеп, а якое будзе рашэнне — пабачым.

Кантракт, на мой погляд, — гэта перш за ўсё ўмовы аплаты. Калі б знайшлі такую формулу — выдатным людзям аплачваць за выдатную работу, — тады ў творчым асяроддзі такая форма была б успрынята больш адэкватна. Мушу канстатаваць, што ў сферы культуры аплата сёння на апошнім месцы. Пасля нас — сацыяльнае забеспячэнне, перад намі — адукацыя, ахова здароўя, фізкультура і спорт. І нават у самой культуры ёсць падзел: работнікі непасрэдна культуры маюць больш высокую зарплату, чым работнікі прафесійнага мастацтва. Вось чаму мы маем адток людзей і ў блізкае, і ў далёкае замежжа. За апошнія тры гады мы страцілі каля 30 чалавек, перш за ўсё з філармоніі. Калі, не дай Бог, страцім калектывы — аднаўляць культуру прыйдзецца доўга-доўга. І пра гэта ішла гаворка пры заключэнні кантрактаў, і пра гэта наш клопат. Галоўнае, на што мы нацэльваем кіраўнікоў, — увага да людзей, маральная і матэрыяльная іх падтрымка.

**Гутарыла Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

Пошта

# ГАВАРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ РОБІЦЦА НЕБЯСПЕЧНЫМ, альбо АДНО ПЫТАННЕ ПРЭЗІДЭНТУ

Я, мая сям'я і многія з нашых блізкіх сяброў ад нараджэння гаворым па-беларуску. Гэта не даніна модзе і нават не нейкія непарушныя прынцыпы: адмовіцца ад мовы сваіх бацькоў для мяне раўназначна, як страціць пачуццё ўласнае годнасці, апаганіць магілы продкаў. Гаварыць па-беларуску па-за сценамі ўласнае хаты заўсёды было няпроста. Гэта выклікала павышаную цікавасць, насмешку, недаўменне і розныя недарэчныя пытанні. Так было яшчэ ў брэжнеўскія часы, калі па-беларуску гаварылі адзінкі. Сёння ж сітуацыя змянілася — па-беларуску гавораць многія. Але аказалася так, што сёння, гаворачы на сваёй роднай мове, ты рызыкуеш сутыкнуцца з адкрытай абразай і нават пагрозамі.

Месяц таму мая блізкая знаёмая Марыя А. расказала мне жахлівую гісторыю, у якую яна трапіла з-за беларускай мовы. Каля дзесяці гадзін раніцы, сустрэўшыся са сваёй сяброўкай, яны прыселі пагаварыць на лаўку ў невялікім скверы па вуліцы Захарава, насупраць стаматалагічнай паліклінікі. Да іх падышоў мужчына і пачаў умешвацца ў гаворку. Марыя А. вельмі далікатна папрасіла яго не перашкаджаць, бо ў іх з сяброўкай вельмі мала часу і шмат чаго ім трэба яшчэ абгаварыць. На жаль, усю гэтую сваю ветлівую тыраду яна сказала па-беларуску. І гэтая мова выклікала ў незнаёмца дзіўную рэакцыю — ён пачаў выкрыкваць брудную лаянку, пагражаць жанчыне нажом і прымусіў яе папрасіць у яго прабачэння на рускай мове і паабяцаць больш не гаварыць па-беларуску. Перапалоханая жанчына зрабіла ўсё, як ён казаў, хоць гэтага ёй і вельмі не хацелася. Але што яна магла зрабіць? Міліцыянера ж побач не было, а якая жанчына адважыцца ўступіць у бойку з мужчынам? Гэты выпадак вельмі ўзрушыў мяне сваёй агіднасцю. А неўзабаве сутыкнулася і сама з нечым падобным.

На днях, а палове шостай вечара, забраўшы дзіця з садка, я падышла да тэлефона-аўтамата, каб пазваніць сваёй знаёмай. Калі я пачала гаварыць, мужчына, што стаяў ля суседняй кабінкі, раптам брудна вылаяўся і закрычаў: "Говори по-русски, колхозница" і зноў брудная лаянка. Усё гэта ў прысутнасці пяцігадовага дзіцяці. Я моўчкі знесла абразу, бо што ж я магла зрабіць, усведамляючы сваю поўную безабароннасць перад яго грубай сілай і нахабствам. Мужчынам прасцей — яны могуць пастаяць за сябе і свой гонар. А як быць у падобных сітуацыях нам, жанчынам? Бо выглядае, што падобныя абразлівыя выпадкі робяцца ўжо не выключэннем, а правілам.

Вось ужо некалькі дзён я думаю аб тым, як магло так стацца, што мне ў сваёй краіне, на радзіме, стала небяспечна гаварыць на сваёй мове. Хто ў гэтым вінаваты? Ёсць жа нейкія агульнаграмадскія чыннікі, што праваку́юць неадукаваных цёмных людзей на праявы жывёльнага шавінізму. Прапагандысцкая дзейнасць Славянскага сабора ці якіх іншых нацыянал-шавіністычных партый, назваў якіх, на жаль, ці, на шчасце, я не ведаю? А, можа, зняважліва-грэблівыя адносіны самога прэзідэнта да мовы сваёй дзяржавы? Ці што іншае?

Але мне хацелася б ведаць, як бы паводзіў сябе наш шаноўны прэзідэнт і нашы парламентарыі, якія прымаюць законы, няздольныя абараніць чалавека ў сваёй дзяржаве, калі б на месцы Марыі А. альбо мяне аказаліся іхнія жонкі альбо іхнія дзеці?

**ГАЛІНА Г.**

*г. Мінск*

**P. S.** Прашу шаноўную рэдакцыю не называць майго прозвішча, як і прозвішча маёй знаёмай, бо цяжка яшчэ раз перажываць знявагу.

ЛіМ
ЧАСАПІС



## АПЕРАТЫЎНА І ... "У КАПЦЮРОХ ГПУ"

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" апошнім часам практыкуе сапраўды аператыўны выпуск некаторых кніг. У шэраг іх трапіла і аповесць Францішка Аляхновіча "У капцюрох ГПУ" (пры публікацыі захавана адметнасць арыгінала). У "МЛ" пастараліся, каб згаданы зборнік з'явіўся на паліцах кнігарань. Але, зборнік, бо дзякуючы ўкладальнікам А. Жынкіну і Ю. Чудзіну пад адной вокладкай сабраны, акрамя аповесці, і іншыя матэрыялы.

Трэба адзначыць грунтоўную прадмову А. Бяляцкага "Бо лёс быў наш — мук доўгі, вечны шлях...", у якой падрабязна прасочваецца жыццёвы і творчы шлях Ф. Аляхновіча, які ў свой час найперш быў вядомы як драматург. Дарэчы, А. Бяляцкі стаў ці не адным з першых, хто некалькі гадоў назад на старонках "Маладосці" вярнуў з небыцця імя гэтага, безумоўна, таленавітага аўтара.

Ёсць у зборніка і пасляслоўе А. Дышлевіча — "Пачатак "гулагаўскай" тэматыкі". Як бачна з назвы, згаданая аповесць прачытваецца ў кантэксце іншых твораў беларускай літаратуры (ды і журналістыкі!), у якіх праўдзіва расказваецца пра жахі, перажытыя ахвярамі таталітарнай сістэмы.

Акрамя таго, у кнігу ўвайшла нататка К. Езавітава "Францішак Аляхновіч — сам аб сабе", у якой аўтар згадвае, як "у красавіку 1942-га, амаль за год да 60-годдзя Францішка Аляхновіча, звярнуўся... да яго з просьбай, каб ён напісаў для беларускае прэсы сваю аўтабіяграфію". Аўтабіяграфія так і не была напісана, а вось колькі дакументальных навел, аб'яднаных назвай "Замест аўтабіяграфіі — крыху ўспамінаў" з'явіліся. Яны і прапануюцца чытацкай увазе.

Да ўсяго кніга няблага праілюстравана рэдкімі здымкамі (падбор фотаілюстрацый А. Жынкіна).

З. В.

## ЖЫЎ-БЫЎ "ЭЛЕКТРЫЧНЫ ЧАЛАВЕК"

Менавіта "электрычным чалавекам" называлі ў пачатку нашага стагоддзя навукоўцы свету беларускага памешчыка Якуба Наркевіча-Ёдку, які ў сваім маёнтку Наднёман (цяпер мяжа Уздзенскага і Капыльскага раёнаў) праводзіў шматлікія доследы з электрычнасцю. Ён раней за знакамітага А. Папова змог перадаць сігналы на адлегласць, а тым самым па сутнасці з'яўляецца вынаходнікам радыё; будаваў маланкаадводы, выкарыстоўваў электрычнасць для лячэння хворых у санаторыі, які пабудаваў у Наднёмане. У 1900 годзе на міжнародным канкрэсе Я. Наркевічу-Ёдку было прысуджана ганаровае званне "прафесара электраграфіі і магнетызму". А пасля пра вучонага (хіба ж здзіўляцца таму?) незаслужана забыліся. Толькі дзякуючы краязнаўцу У. Кісялёву імя Я. Наркевіча-Ёдкі было вернута з небыцця. Цяпер жа пра яго з'яўляецца ўсё больш публікацый. Адна з іх — у дванаццатым нумары часопіса "Дело" ("Восток-Запад"). "Электрычны чалавек" з берагоў Нёмана" — так назваў свой чарговы гістарычны нарыс пад рубрыкай "Беларусы" яе нязменны вядучы Уладзімір Арлоў.

Што ж, гэта застаецца толькі вітаць, таму што згаданы часопіс, як вядома, ідзе і за межы нашай дзяржавы. Ведаем мы пра Я. Наркевіча-Ёдку — даведаюцца і іншыя!

## ДЫХАННЕ САМОЙ ГІСТОРЫІ

Яе ў Наваградку адчуваеш ці не на кожным кроку. Але адна справа ў думках вяртацца ў мінулыя часы і зусім іншая — хадзіць вуліцамі, якія носяць імёны тых, хто ў розныя часы рупіўся дзеля будучыні Бацькаўшчыны. На жаль, да нядаўняга часу горад тут мала чым мог пахваліцца. У Наваградку, як і ў іншых населеных пунктах, пераважалі "абавязковыя" назвы вуліц. Цяпер жа адна з іх атрымала імя славутага беларускага першадрукара, мысліцеля, чалавека з сусветным імем Францішка Скарыны, у назвах іншых увекавечана памяць аб знакамітых земляках, ці тых, хто жыў і працаваў у Наваградку, — Ігнація Дамейкі, Уладзіслава Сыракомлі, Уладзіслава Дыбоўскага, Іаахіма Храптовіча, Янкі Нёманскага. Ёсць тут і вуліца Міхала Клеафаса Агінскага.

*26 студзеня міне год, як не стала Алеся Міхайлавіча Адамовіча.*

*Аднойчы на канферэнцыі ў Акадэміі навук ён гаварыў пра страх і боль. Што натуральная рэакцыя чалавека — закрывацца, уцякаць ад непрыемнасцей, заціскаць верад у душы. Але патураць інстынкту ў такіх выпадках нельга, нават згубна. Калі мы хочам мець будучыню, то ўжо сёння нам неабходна ісці насустрач любым выпрабаванням.*

*Сам Алесь Адамовіч быў з тых, хто не саступаў, не хаваўся, не супакойваўся. А яму, пісьменніку, ягоны беларускі ды савецкі, партызанскі ды "шасцідзесятніцкі" лёс шмат балючага наканаваў. Прыгадваючы зробленае Алесем Адамовічам, як бы і не ўяўляеш звычайнага, лёгка даступнага чалавека, якога, вядома ж, глыбока раніла пастаянная траўля — і саматужная, і вялікадзяржаўная. Аднак ён умеў жыць сапраўднымі, вялікімі праблемамі. Больш, чым за сябе, яму балела за праўду і справядлівасць, за Коласа, Чорнага, Гарэцкага, за Васіля Быкава, за ўсю абкарнаную падцэнзурную літаратуру. Яго не адпускала трагедыя людзей, якіх палілі жывымі ў беларускіх вёсках і катавалі голадам у ленінградскай блакадзе. І як шкада, што пра ўсё гэта мы ўжо гаворым у мінулым часе..*

# ЁСЦЬ АБСАЛЮТЫ

## ДАЎНЯЯ ГУТАРКА З АЛЕСЕМ АДАМОВІЧАМ

***Мы з сяброўкаю ў гасцях у Алеся Адамовіча. За вокнамі ягонай мінскай кватэры — вясна 1981 года. Мы распытваем пра кнігу "Карнікі" (хутка абарона дыпломаў). І ён вядзе гутарку з дзвюма дзеўчынёхамі, далікатна папраўляючы нашыя запытанні.***

***Ужо з "Хатынскай аповесці" можна было даведацца, хто Хатынь спаліў — "інтэрнацыянальны" батальён Дзірлевангера плюс 118-ты ўкраінскі батальён, які стаяў у Плешчаніцах. Але толькі пасля "Карнікаў" у маёй школьнай галаве адбылося нарэшце істотнае прасвятленне: перад тым усе карнікі — фашысты, уласаўцы, гітлераўцы, — здаецца, ад пачатку свету былі злітыя ў адно абстрактнае паняцце-вобраз — вораг, кат майго народа, чужак...***

***Новая кніга Алеся Адамовіча паказала канкрэтнага ката, нават больш — амаль дакументальнага ката. Былога савецкага настаўніка, палітрука, калгасніка.***

***Не сказаць, каб да А. Адамовіча зусім не было чуваць пра судовыя працэсы над былымі карнікамі; малявала "бобікаў" і ранейшая ваенная проза. Але па-за межамі афіцыйнага патрыятызму напісаны быў хіба толькі быкаўскі Рыбак: чалавек, які змушана, не жадаючы таго, ды ўсё ж стаў у паліцэйскі шэраг. Там, дзе В. Быкаў паставіў кропку, пачаў А. Адамовіч.***

***Што прымусіла яго звярнуцца да гэтай тэмы? І як узнікла задума кнігі "Карнікі"? Уключым стары магнітафонны запіс, прыгадаем, што гаварылася Алесем Міхайлавічам.***

— Што прымусіла? Ну, тое, што гэта стала ўжо занадта рэальнай і звычайнай з'явай XX стагоддзя.

Вядома, што да таго часу, калі пасля рэвалюцыі ў Расіі сталі вешаць людзей ва ўсіх гарадах, расстрэльваць ці вешаць сялян за бунты, — катамі былі адзінкі ці дзесяткі. Які ні быў жорсткі апарат царскі, расійскі, ён не быў падрыхтаваны да такой працы, справы; у ім не хапала катаў, не хапала людзей от гэтай працы. І сталі заманьваць, павышаючы стаўку; спачатку плацілі па сто рублёў, па-мойму, і трэба было гэтых катаў вазіць з Масквы кудысьці ў Кіеў, з Кіева — у Адэсу... І раптам паявілася аб'ява ў адной газеце, нехта там заяўляе, што ён можа за 75 рублёў асігнацыямі гэтую работу рабіць... Талстой прачытаў, і яго страшна спалохала гэта: як падае чалавечая істота!

Бачыце, здавалася, жорсткі быў свет, але ўсе саромеліся працы ката. Ненавідзелі людзей, якія выконвалі яе, дзяцей палохалі імі.

І раптам наступіў дваццаты, наш благаслаўлёны век, дзе гэтая праца стала звычайнай. Яе пачалі перадаручаць ужо не спецыяльным нейкім людзям, а больш шырока — спецыяльным арганізацыям, потым і войскі сталі яе рабіць — самыя нармальныя непадрыхтаваныя дзевятнаццаці-дваццацігадовыя хлопцы. Як у Сангмі. У В'етнаме: і не думалі яны гэтую Сангмі нішчыць. А потым ім сказалі, і яны знішчылі. Як немцы ці не немцы ў нашых вёсках...

І калі ўсё гэта так, дык не пісаць, не думаць, не разважаць пра гэта літаратура не мае права.

Як узнікла задума кнігі? Наколькі я помню, штосьці я пачаў накідваць яшчэ ў 71-м годзе, калі заканчваў "Хатынскую аповесць" і мы пачалі запісваць "Я з вогненнай вёскі...". І вось тут два моманты — мабыць, тыя самыя першапачатковыя.

Калі мы ездзілі (з Я. Брылём і У. Калеснікам па спаленых вёсках Беларусі. — **Л. К.**), то вельмі ўразіла ў гаворках з людзьмі, што яны быццам у нас пытаюць, і ў вачах, і ў голасе ўвесь час нейкае запытанне: "А ці праўда, што гэта было?" Яны як бы да гэтага часу не вераць, што з імі такое маглі рабіць, што такое магло рабіцца: "Ды што ж гэта за людзі, ды гэта ж звяры, а не людзі!" Як Ганна Булава, што ўсё спрабавала неяк сабе і нам растлумачыць, што гэта за істоты такія.

У нашай кнізе мы не вельмі рашаліся шырока і ўсур'ёз адказаць на іх пытанне; мы зрабілі гэта больш публіцыстычна: там ёсць раздзел, што такое фашысты, фашызм.

Я спрабаваў сказаць наогул пра чалавека, homo sapiens. Але як толькі мы пачалі ездзіць, запісваць людзей для кнігі "Я з вогненнай вёскі...", я адчуў, што для мяне ўжо вельмі важна адказаць сабе самому, не маючы на ўвазе нейкі твор: што ж за псіхалогія ўсё-такі ў людзей, якія вось гэта робяць?

Ну і быў тут чыста эмацыянальны штуршок... Калі вельмі пачынаюць дабівацца ў аўтара, што ж было першаштуршком, дык чалавек раптам успомніць нейкую варону на снезе; ці, як у Талстога, — помніце, "Анна Карэніна", — нейкая рука тонкая, жаночая... Нешта такое павінна быць чыста эмацыянальнае.

Ну дык вось, такім штуршком было тое, што мы ўжо ў першых запісах раптам адкрылі для сябе адну асаблівасць, якую медыцына даўно ведае, ды, аказваецца, і гісторыя ведае.

(Цяпер мне папалася ў рукі адна элементарная брашура, і я адчуў, што я не ведаў самых звычайных рэчаў, а мы іх адкрылі, запісваючы нашых жанчын.)

І я помню, мне падумалася: а што калі паспрабаваць напісаць такую рэч, дзе былі б адны сны? Сны Гітлера, сны жанчыны, якую забіваюць... У мяне ўзніклі напачатку два паралельныя рады, дзве паралельныя лініі: жанчына, якая ёсць тут у аповесці, і Гітлер у снах, сны Гітлера. Вось гэта, помню, у 72-м годзе я і запісваў.

На пытанне, чым абумоўлена ўвядзенне "жыўцом", напрамую дакументаў і публіцыстыкі ў тэкст "Карнікаў", Алесь Міхайлавіч адказаў: "Абумоўлена самім характарам работы над гэтай кнігай".

— Рабілі мы "Я з вогненнай вёскі...", потым "Блакаднай кнігай" займаўся. А над тымі сваімі першапачатковымі запісамі я не працаваў далей, куды ісці — не ведаў. Потым, калі канчалі ўжо "Я з вогненнай вёскі...", мы з Брылём папрасілі ў Кузьміна дазволіць заглянуць у матэрыялы працэсаў (судовых, 1963 года і пазней, над карнікамі. — **Л. К.**). І вось мы два месяцы хадзілі туды з Брылём і чыталі, папку за папкай, сведчанні людзей, якія перажылі ўсё гэта, і тлумачэнні, адказы саміх карнікаў, падсудных, і суда, і пракурора, і ўсё, усё гэта мы чыталі.

Я тады не вельмі ведаў, ці буду я пісаць, ці не буду, але нейкія рэчы мяне ўжо патрэслі настолькі, што я іх выпісваў. Там, на жаль, яны без магнітафона абыходзяцца: проста сядзіць пратакаліст і запісвае, таму вельмі цяжка вывудзіць адтуль тое, што патрэбна для літаратуры — жывое, эмацыянальнае... Таму прыходзілася чытаць, пераварочваць горы матэрыялу.

Так што я іменна праз дакументы ішоў да гэтай аповесці, і ўсе амаль характары, якія там ёсць, узяты з дакументаў. І Тупіга, і Мураў'ёў, і Мельнічэнка, і асноўныя — Белы і Сураў. Сурава прозвішча было Суркоў на самай справе, і ён палітрук быў у арміі...



*Алесь Адамовіч і Аляксандр Салжаніцын у нумары гасцініцы "Масква" ў канцы 60-х гадоў. Быў і трэці ўдзельнік сустрэчы — Васіль Быкаў, які і зрабіў гэты здымак.*

Аказваецца, чалавек засынае, калі даецца звышнагрузка на яго псіхіку. Ідзе ахоўная рэакцыя, нейкае ўнутранае тармажэнне, і чалавек засынае, хаця б, здавалася, такое вакол яго і з ім творыцца, што ён павінен увесь мабілізавацца, каб абараняцца, ратавацца. А ён замест таго падае і спіць. І гэта законы псіхікі, псіхалогіі; калі чалавек не зробіць гэтага, ён проста з глузду з'едзе, проста сарвецца псіхіка яго.

(Я, дарэчы, у той брашуры прачытаў, што так было і з Напалеонам, ён заснуў, па-мойму, перад Аўстэрліцам.)

Спачатку мне здавалася, па першых расказах, што толькі з дзецьмі так (у іх найбольш слабая псіхіка), з жанчынамі... А потым аказалася, што і з мужчынамі такое ж было.

Што да Гітлера, то тут мне дапамагалі паездкі ў ФРГ, у ГДР, пошукі ў гэтым кірунку. Ну, і адпаведна Дзірлевангер — таксама асоба непрыдуманая, вядомая асоба для Беларусі. Наколькі можна было, я выкарыстаў тыя дакументы, да якіх іншыя не мелі доступу.

Можна лічыць, што Алесь Адамовіч напісаў сваю кнігу выключна ў форме ўнутраных маналогаў, сноў, трызненняў, бо і дакументы, і публіцыстыка, уключаныя ў тэкст, робяцца па-мастацку актыўнымі толькі ў суаднесенасці з імі — тымі псіхалагізаванымі формамі, якія перадаюць разумовыя, пачуццёвыя, інстынктыўна-прымітыўныя псіхічныя працэсы, што адбываюцца ва ўнутраным свеце асноўных персанажаў кнігі, забойцаў з карнага ба-

тальёна Дзірлевангера. Такім чынам Алесь Адамовіч адказвае сабе і нам на тое самае пытанне: што гэта за ўнутраны свет, за псіхалогія такая — чалавека, які страляе ў галоўку голага хлопчыка, што сядзіць перад ім жабяняткам, "калоцячыся ўсімі пазванкамі, і просіць, плача: "Дзядзя, хутчэй!"

— Сярод забойцаў было многа, нават вялікі працэнт людзей проста са зрушанай псіхікай, садыстаў і г. д.; а якія й не былі, дык сталі псіхамі, што сябе задурманьвалі гарэлкай, чым заўгодна. Гэта было. Гэта праўда, але гэта не прадмет для мастацтва, для даследавання.

Мяне зацікавіла іншае. Пасля вайны, як вядома, былых карнікаў прывозілі судзіць, — не немцаў, а тых, што ў нас жылі тут (стаіўшыся. — **Л. К.**), так сказаць, з нашага племя людзей. Дык вось, для жонкі, для суседзяў, для тых, з кім працавалі, — яны нічым не адрозніваліся. І ніхто не мог нават падумаць, што гэта вось якія людзі. Гэта і было самае страшнае. У Дзядкова (И. Дедков. Плата за жизнь. "Литературное обозрение", 1980, № 6. — **Л. К.**) вельмі дакладна схоплена гэтая галоўная думка: самае страшнае не тое, што яны фашысты-расфашысты. А што яны людзі таксама, што гэта ў чалавеку можа ўмяшчацца.

Гэтыя людзі — і Мураў'ёў, і Мельнічэнка, і Тупіга, і іншыя, калі іх судзілі праз 20—30 гадоў, былі ўжо іншымі істотамі. Іншыя ў іх ацэнкі, іншы погляд на рэчы, яны самі ўжо ахвяры сваёй біяграфіі, лёсу, вайны і г. д. У тым ёсць пэўная праўда, таму што тады ім было па 20, некаторым па 17, 18, а цяпер — 50, 60, 70 гадоў, — гэта сапраўды другія людзі.

Але мяне вельмі здзівіла вось што. За ўсе гады, калі ў Мінску іх судзілі, больш за 10 працэсаў было тут, у Мінску, наогул у Беларусі, не было ні аднаго выпадку, каб хоць адзін з іх сапраўды пажадаў сабе сапраўднай кары. Усе яны, праўда, гаварылі — нас расстраляць мала і г. д., — пакуль іх судзілі. А як толькі канчаўся суд, яны ўсе пісалі апеляцыі, і ўсе патрабавалі сабе "снисхождения", нейкай скідкі; ні адзін з іх не захацеў таго, пра што Дастаеўскі пісаў — "пострадать". Ні адзін не захацеў сябе "истребить".

У гэтых людзей адно было: як бы яшчэ пажыць. Яшчэ б пяць годзікаў, яшчэ тры годзікі, хоць гэта ўжо страшнае жыццё. Ужо і дзеці ведаюць, і жонка ведае, і ўсе людзі ведаюць, і жыць невядома як. Чалавеку, здаецца, трэба жывым залезці ў яму, у магілу, у балота, і не вылазіць, і загінуць, — а ў іх адно: яшчэ пажыць.

Я нават не лічу так, як часта ў артыкулах пра карнікаў пісалася: стараліся стварыць такое адчуванне ў чытачоў, што, калі іх выпусціць, яны кінуцца ізноў кагосьці забіваць, рэзаць... Я думаю, што большасць з іх якраз не стала б гэтага рабіць.

Але самае страшэннае, што яны самім сабе даравалі ўжо. Яны сабе даравалі. Яны граматы свае, медалі свае паказваюць; пішуць з поўнай упэўненасцю, што "я працаваў для блага народа 20 гадоў, і я яшчэ гатоў трудзіцца..." Значыць, ён лічыць, што калі ён капае зямлю ці стругае нейкае палена, то ён гэтым можа акупіць перад уласным сумленнем і наогул перад справядлівасцю сусветнай тое, што ён забіў сто, ці дзвесце, ці трыста дзяцей (таму што кожны з іх не менш забіў).

І гэта даказвае, што, па-першае, яны ў нечым галоўным не змяніліся. А па-другое, тут узнікае больш важная, складаная праблема: ці не занадта наш век і наш час прывык да таго, што нейкія самыя вялікія маральныя катэгорыі можна вымяраць тонамі сталі, пудамі жыта, кубаметрамі дрэва, якое чалавек там абстругаў ці спіліў... Мы прывучаем і другіх, і сябе да таго, што вось гэтыя рэчы можна вымераць вось тымі рэчамі.

На самай справе ёсць нейкія абсалюты. Здаецца, у сучасным чалавеку яны не ўзмацняюцца, яны паслаблены. Паслаблена адчуванне, што ёсць рэчы, за якія не толькі другія не могуць табе дараваць, але і ты сам не можаш і не павінен дараваць.

Тут, можа, своеасаблівы адказ на тое, чаму гэтыя каты, гэтыя карнікі, гэтае "палачество" стала такой масавай з'явай ва ўсім свеце.

Факты, з якімі мы сутыкнуліся ў вайну, мабыць, павінны накіроўваць на тое, што мы, выхоўваючы людзей, сваіх людзей, павінны як мага выпрацоўваць у іх павагу да жыцця як такога. Павагу асабліва да чужога жыцця.

А мы ведаем, як у 20-я, у 30-я гады рабілася. Чалавек атрымліваў нейкі ярлык, і яго суседзі ці аднавяскоўцы лічылі, што ён ужо не зусім чалавек. І дзяцей яго нават можна не шкадаваць...

Значыць, вельмі важна, і, можа, самае важнае ў наш час — выхоўваць у людзей абсалютную павагу да другога жыцця. Выхоўваць разуменне, што мы не маем права адабраць у чалавека жыццё — тое, што ты яму не даваў, і не мог даць, і не можаш вярнуць.

Калі браць шырэй, то чалавек наогул не ведае сябе да канца.

А калі ён не ведае сябе да канца, ён павінен да сябе адносіцца таксама... не тое што насцярожана, але неяк так, разумеючы: глядзі, пераступіш праз нешта, не заўважыш, а потым ужо назад не вернешся. Вось і блакада ленінградская ў гэтым сэнсе вельмі многа дае: людзі сябе пазнавалі зусім не тымі, якімі яны ўяўлялі сябе. "Блакадная кніга" — гэта такая страшная "лабараторыя" пазнання чалавека для мяне была...

Дык, мабыць, трэба сябе загадзя рыхтаваць да таго, што жыццё цябе можа сутыкнуць з такой сітуацыяй, калі з цябе палезе тое, аб чым ты і не падазраваў нават, што яно ў табе ёсць. А калі палезе — можа вылезці, і настолькі сапсаваць наогул тваё жыццё, што потым ты ўжо ніколі не замоліш гэтае і не загладзіш ніколі.

Калісьці, здаецца, Гегель праўду гаварыў, што ісцінна свабодны толькі той чалавек, які здольны памерці, здольны пайсці на смерць. Бо сітуацыі часцей бываюць такія, што чалавека ставяць перад выбарам: ці памрэш, ці гэта зробіш. І калі ён не здольны ўсё-такі выбраць смерць, а выбера вось гэта, дык ён выбера сабе нешта страшнейшае за смерць. Дарэчы, гэта і ў Быкава ў "Сотнікаве" — з Рыбаком.

Мне Фёдар Абрамаў прыслаў пісьмо... Ён піша і наконт жорсткасці: ты з мяне скуру з жывога здзіраў, калі я гэта чытаў. Але я прачытаў і потым сам падумаў: пастой, а я сам бы ўстояў? І я не магу адказаць дакладна, — ён піша, — што я мог бы да канца вытрываць, калі б прайшоў праз гэты Бабруйскі лагер. У тым сэнсе, што ці не выйшаў бы я таксама за лагерныя вароты, дзе каўбаса і чай. Далей — ужо не ведаю...

І ён (Ф. Абрамаў. — **Л. К.**) піша, што мы ад чалавека — ад кожнага — не патрабуем геніяльнасці і не караем яго за тое, што ён не геніяльны. А жыццё такое, што часам ставіць людзей у сітуацыю, калі ад усіх патрабуе маральнай геніяльнасці, у сэнсе "нравственной"; абсалюта нейкага. А не кожны здольны на гэта...

Дык што тады рабіць? Значыць, што — дараваць Тупігу, Мураў'ёву? А маем мы права ім дараваць? А спыталі мы ў тых людзей, якіх яны замучылі? Тут, разумееце, такія тупікі... Само жыццё ў такую складанасць нас запёрла, загнала, што мы можам ставіць пытанні, а адказваць — адказваць на іх цяжка. Таму такая літаратура і складаная, і жорсткая паяўляецца стала.

Алесь Міхайлавіч яшчэ раз прыгадвае выдатнага крытыка Ігара Дзядкова, гаворачы пра галоўныя маральныя праблемы сваёй кнігі.

— У Дзядкова прагучала вельмі дакладная думка пра тое, што, ведаеце, мы можам людзей цаніць за нейкія якасці, быццам бы для нас абсалютныя: вось ён трудзяга, ён сем'янін, ён нікога не абакраў, нікога не пабіў, нікога не пакрыўдзіў асабліва. Жыве чалавек як чалавек, і мы лічым, што ўсе якасці ў яго ёсць, якія робяць яго паўнацэнным чалавекам, і што ва ўсіх умовах ён застанецца такім. А потым прыходзяць нейкія звышумовы, пры якіх усіх гэтых быццам бы дастатковых якасцей зусім недастаткова. Няма нечага, што не дазволіла б чалавеку пераступіць праз самае страшнае. І вось пытанне "чаго ж няма?" — можа быць, і ёсць самае галоўнае ў аповесці; пытанне, якое я ставіў, але не адказваю на яго.

Поўная назва аповесці Алеся Адамовіча гучыць так: "Карнікі. Радасць нажа, або Жыццёпіс гіпербарэяў". На першай старонцы кнігі чытаем: "У Фрыдрыха Ніцшэ: "... Мы — гіпербарэі... Няма нічога больш нездаровага сярод нашай нездаровай сучаснасці, чым хрысціянская спачувальнасць..."

Леў Талстой: "Калі можна прызнаць, што б там ні было важней за пачуццё чалавекалюбства, хаця б на адну гадзіну і хаця б у якім-небудзь адным, выключным выпадку, то няма злачынства, якое нельга было б утварыць над людзьмі, не лічачы сябе вінаватым..."

У кнізе А. Адамовіча пакутніцкая пагібель беларускага пасёлка Боркі пацвярджае правату Талстога, прароцкую відушчасць ягонага маральнага пачуцця. Матэрыялы ж "будучых даследаванняў па гісторыі гіпербарэяў" на старонках аповесці ўспрымаюцца як публіцыстычны нарыс рэальнага, карніцкага гіпербарэйства. Гісторыя жорстка помсціць аматарам неасцярожных парадоксаў, тым, хто залёгка распраўляецца, няхай сабе і на паперы, з усімі "гэтымі забабонамі: сумленне! спачувальнасць! чалавекалюбства!"

Ці не прытчаю гучыць лінія гіпербарэяў у "Карніках"? — пытаюся ў Алеся Міхайлавіча.

— Ну, я не ведаю, мяне ніколі асабліва да прытчы не цягнула, так што гэта ўжо справа даследчыка, калі ён там знойдзе што, дык хай знаходзіць... Леў Гінзбург, калі прачытаў аповесць, сказаў, што гэта трохі жанр антыўтопіі.. чорная як бы прытча сапраўды пра чалавека і чалавецтва... Чалавек, які так ненавідзеў масу (пра Ніцшэ. — **Л. К.**), ненавідзеў дзеянне масавападобных істот, а потым гэтая маса выкарыстала яго ж, зрабіла яго сваім, так сказаць, настаўнікам. Самая паўзучая, нікчэмная, самая пазбаўленая асобы і глыбіні чалавечай маса выкарыстала Ніцшэ як свой сцяг...

"Ужо прагучаў над табою голас, гіпербарэй! Прагучаў і назаўсёды застанецца — дзіцячы: "Мамачка, будзем гарэць, і вочкі нашы будуць выскокваць!" Што пасля гэтага голасу ўсе словы, якія ты будзеш гаварыць, — сабе ці другім? Што?!"

Быў сонечны дзень 1981 года, знешне спакойны і бясклапотны. Былі дзве досыць самаўпэўненыя студэнткі. І быў пісьменнік, які гаварыў пра рэчы для нас нязвычныя і страшныя. Мы зразумеем толькі пазней, у якое пекла змог ён зазірнуць, якую пакуту насіў у сваёй душы...

**Публікацыя Людмілы КОРАНЬ**

# УСХВАЛЯВАНА, ТУРБОТНА...

Серыя "Плошча Свабоды", якую выпускае выдавецтва "Беларусь", папоўнілася чарговай кнігай. Гэта зборнік артыкулаў, выступленняў, інтэрв'ю Анатоля Вярцінскага "Трывожны досвітак". За выключэннем артыкула "Ён завяшчаў нам светлы дзень", напісанага ў 1981 годзе і апублікаванага ў газеце "Вячэрні Мінск" 9 снежня таго ж года ў сувязі з 90-годдзем з дня нараджэння М. Багдановіча, у кнігу ўвайшлі матэрыялы, што часава бяруць адлік з 1985 года. Цяпер, праўда, мы ўжо не карыстаемся тэрмінам перабудова, ды ўсё ж акурат з гэтага года ў грамадстве (колішнім саюзаўскім, савецкім) пачаліся змены, што прывялі, як вядома, да з'яўлення на тэрыторыі былога Савецкага Саюза шматлікіх суверэнных дзяржаў. Ды — таксама вядома — гэты працэс у многім паскорыла неабыякавасць да дэмакратыі, абнаўлення, у тым ліку і пісьменнікаў, журналістаў.

Чым жа жыў, пачынаючы з 1985 года, А. Вярцінскі? На гэтае і іншыя пытанні і знаходзім адказ у кнізе. "Нельга будаваць будучыню без памяці аб мінулым..." — так назваў ён у свой час рэцэнзію на кнігу крытыкі і публіцыстыкі В. Быкава "Праўдай адзінай". Гэта матэрыял, дарэчы, быў апублікаваны 7 лістапада 1985 года ў "ЛіМе". Разам з тым аўтар выходзіць за рамкі згаданага быкаўскага зборніка, праводзіць паралель і з мастацкімі творамі як самога пісьменніка, так і яго калег па пяры.

У невялікай жа нататцы "Урок сораму", у аснову якой пакладзена выступленне па рэспубліканскім радыё ў сувязі з 70-годдзем П. Панчанкі, А. Вярцінскі сваё разуменне творчасці аднаго з самых слынных майстроў беларускага паэтычнага слова: "...паэт — малады. Сэрцам. Духам. Сваім светаадчуваннем. Сваім успрыняццем таго, што адбываецца навокал. Малады ў сваёй веры, у надзеі і любові сваёй. А, з другога боку, радкі, створаныя паэтам шмат гадоў назад, не менш красамоўна гавораць аб тым, што ў маладосці сваёй творчай ён быў — як грамадзянін і мастак — мудры, праніклівы, духоўна сталы".

У полі зроку А. Вярцінскага і творчасць іншых пісьменнікаў. Ім прамоўлена ўсхваляванае слова пра К. Крапіву ("Даўгавечнасць"). Ён быў першым, хто шырока пазнаёміў сучаснага чытача з творчасцю Я. Пфляўмбаўм ("Хочацца жыць — не канчаецца доля..."). Паспяшаўся Анатоль Ільіч падзяліцца першымі ўражаннямі ад аповесці В. Быкава "Сцюжа" ("Сцюжа суровай праўды"). Усхваляваным, турботным было яго выступленне на X з'ездзе пісьменнікаў Беларусі 18 мая 1990 года ("Альбо ўзброіцца на мора крыўд...").

І ўсё ж пераважная большасць матэрыялаў — гэта публіцыстычны роздум. Ці ў артыкулах, ці падчас адказу на пытанні карэспандэнтаў. У тым ліку і лімаўскіх — стаўшы народным дэпутатам, пайшоўшы на працу ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, ён не парывае сувязей з штотыднёвікам. Вось асобныя з гэтых матэрыялаў, што даюць дастаткова поўнае ўяўленне аб тым, наколькі А. Вярцінскі неабыякавы да ўсяго, што дзеецца на Беларусі. "Колькі каштуе нацыянальная годнасць?" — так называлася інтэрв'ю, узятае В. Тарасам ("ЛіМ" за 21 верасня 1990 г.). "Мы асуджаны на суверэнітэт..." — роздум у час гаворкі з А. Ганчаровым ("ЛіМ" за 17 мая 1991 г.).

Поруч — адказы на пытанні карэспандэнтаў іншых выданняў: "Дакумент, які мне дораг..." ("Народная газета"), "Зноў выпрабаванне часам?" ("Работніца і сялянка"), "Новая Канстытуцыя — для новай Беларусі" ("Культура").

Змешчаны таксама нататкі напярэдадні другой гадавіны крамлёўскага путчу "Быў ці не быў путч? або: Будзем пільнымі на досвітку" і як працяг іх — "Развалілі" ці "Развалілася"? або "Хто вінаваты?". І слова развітання з А. Адамовічам — "Ён папярэджваў, ён нёс вестку...".

Як бачна, дыяпазон кнігі шырокі. Гэта, думаецца, і робіць яе цікавай (і патрэбнай!) многім.

На завяршэнне ж хацелася б згадаць яшчэ адзін матэрыял. Слова, прамоўленае А. Вярцінскім 19 кастрычніка 1993 г. у Доме літаратара на вечарыне, прысвечанай 110-годдзю з дня нараджэння В. Ластоўскага. У загаловак вынесена вытрымка з пароля паўстанцаў К. Каліноўскага — "Каго любіш?" — "Люблю Беларусь..." А. Вярцінскі пры гэтым зазначае: "Пачуццём любові — гэтага найлепшага людскога пачуцця — прасякнута ўся творчая і грамадская дзейнасць Вацлава Ластоўскага. Любові да роднага краю, да яго мовы, яго культуры, яго гісторыі".

Не лішне згаданыя словы аднесці і да самога аўтара "Трывожнага досвітку".

**Т. Т.**

# У АЛЬМАНАХУ — НОВЫЯ ІМЁНЫ

У Гомелі няйначай прыжыўся альманах "Магістраль" (назва паходзіць ад першай кнігі вершаў паэта-земляка Анатоля Грачанікава, імя якога носіць абласное літаратурнае аб'яднанне). Першы нумар, што быў надрукаваны два гады назад, натхніў, творы, змешчаныя ў ім, атрымалі станоўчы водгук у сродках масавай інфармацыі, таму літаратары вырашылі працягваць справу. Хоць і цяжка сёння выдаць часопіс, тым больш саматугам, але знайшліся людзі, якія падтрымалі мясцовую пісьменніцкую арганізацыю. Дзякаваць за гэта трэба міжнароднаму турысцкаму цэнтру "Белая Русь" (дырэктар Васіль Фясюн), які фінансаваў выданне другога нумара, што ў канцы мінулага года пабачыў свет на мясцовай фабрыцы "Палесдрук".

Альманах надрукаваны на добрай паперы, з густам зроблены камп'ютэрны набор. Прыцягваюць увагу і творы. Альманах адкрываецца вершамі студэнткі Літінстытута імя М. Горкага гамяльчанкі Алёны Алешыны.

**Кажуць:**
**— Торба ў заплатах,**
**І адны лахманы.**
**Я ўсё роўна багатая,**
**Багацей, чым яны.**
**У мяне —**
**Мова матчына,**
**Скарб яе дабрыні...**
**На ўвесь род хопіць**
**Спадчыны.**
**Былі б дочкі й сыны! —**

піша маладая паэтка, творы якой, дарэчы, друкаваліся ўжо ў часопісе "Маладосць", што ў тыднёвіку "Літаратура і мастацтва", а таксама ў газеце "Чырвоная змена".

З вялікімі падборкамі вершаў выступаюць гамяльчане Ганна Атрошчанка, Міхась Лісоўскі, Мікалай Дзегцяроў, Алег Маісеенка, Мікола Старчанка, Васіль Фясюн, Пятро Раманенка і яго дачка Алена, Лідзія Возісава, Андрэй Андрэеў, Алесь Дуброўскі, Кацярына Гарбунова, а таксама Ніна Пінчук з Рагачова, Мікола Ждановіч з Добруша, Уладзімір Шпадарук са Светлагорска.

З цікавасцю чытаюцца апавяданні "На змярканні" Алеся Атрушкевіча і "Я забіў яго..." Марыны Крывіц.

Складаны лёс у гамяльчаніна Рыгора Клімовіча. Ён зведаў, што такое ГУЛАГ. Сёння не толькі выступае перад маладымі землякамі з успамінамі аб сваім нялёгкім жыцці, але і занатоўвае іх на паперы. "Этап" — раздзел з ягонай аповесці, які друкуе альманах.

З публіцыстычных твораў запамінаецца артыкул паэта Віктара Ярца "Буржуазны нацыяналізм" у дзіравых туфлях", дзе ён прыгадвае той час, калі яго разам з Алесем Разанавым выключылі з БДУ за "нацыяналізм".

Журналіст Рыгор Андрэявец сабраў цікавы матэрыял пра жыццё і творчасць вядомага беларускага паэта Міколу Сурначова, які загінуў за некалькі дзён да Перамогі. Артыкул "Мне сёння сніліся суніцы" напісаны да 75-годдзя з дня нараджэння паэта-земляка.

Некалькі год назад у Гомелі ў росквіце сіл і таленту абарвалася жыццё цікавага рускамоўнага паэта Юрыя Саковіча, які выдаў усяго адзін зборнік вершаў. Пра яго ўспамінае мясцовы паэт Ігар Паляшук і прапаноўвае чытачам творы з літаратурнай спадчыны сябра.

З новымі перакладамі расійскіх і ўкраінскіх паэтаў знаёміць чытача Віктар Ярац і Таіса Мельчанка.

Багаты ў альманаху раздзел сатыры і гумару, дзе выступаюць з гумарэскамі — Віктар Лоўгач з г. п. Акцябрскі, з эпіграмамі — мастак Гомельскага цырка Віталь Міткевіч, з анекдотамі — тэлежурналіст і паэт Віктар Кіеня.

Адзначу наступнае. У другім нумары альманаха змешчаны творы толькі тых аўтараў, што не друкаваліся ў першым, за выключэннем публіцыстаў і гумарыстаў. Новыя імёны будуць і ў трэцім нумары, які падрыхтаваны да друку і павінен пабачыць свет у маі — да 50-годдзя Вялікай Перамогі.

**Васіль ТКАЧОЎ,**
**адказны сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі**

## БЫЦЬ ЦІ НЕ БЫЦЬ "СКАРБАМ..."

Чарговае пасяджэнне секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей Саюза пісьменнікаў Беларусі было прысвечана абмеркаванню стану спраў з выданнем серыі "Скарбы сусветнай літаратуры". Загадчык рэдакцыі перакладных выданняў выдавецтва "Мастацкая літаратура" В. Сёмуха апавядаў пра здабыткі і цяжкасці ў падрыхтоўцы і выданні гэтай серыі. Тым не менш за пяць гадоў выйшла шэраг цікавых і патрэбных кніг прадстаўнікоў літаратур народаў свету. Серыя распачыналася з вялікімі спадзяваннямі на актыўную дапамогу пісьменнікаў, якія маюць ахвоту да мастацкага перакладу, у якіх ёсць вопыт, набыткі. Але яна выдаецца не ў лепшыя часы. Праца перакладчыка карпатлівая, цяжкая, а за два-тры гады перакладчык атрымлівае за яе ўсяго двух-трохмесячную зарплату. Тых, хто яшчэ працуе на энтузіязме, застаецца ўсё менш. Той-сёй падаўся і ў камерцыю, перакладае на рускую мову дэтэктывы. Рэдакцыя жыве тым, што было назапашана ў пачатку заснавання серыі. Але і гэтыя рукапісы хутка вычарпаюцца. Даводзіцца вяртацца да раней адхіленых, слабейшых, даводзіць іх да ладу. А новага не перакладаюць. Праблемы ўзнікаюць і з выданнем штогодніка "Далягляды". Калі сітуацыя ў рэспубліцы не зменіцца да лепшага, перакладным выданням прыйдзе канец.

У абмеркаванні ўзнятых пытанняў прынялі ўдзел амаль усе з прысутных 16-ці членаў секцыі. Яны імкнуліся знайсці выйсце са складанага становішча. У. Казбярук і У. Сакалоўскі, не падзяляючы песімізму В. Сёмухі, гаварылі аб тым, што энтузіясты ўсё ж яшчэ ёсць, таму трэба звярнуцца да практыкі выдання аўтарскіх кніг перакладаў, шукаць падтрымку ў рознага роду фондаў, у тым ліку і замежных. Можна выдаць пад адной вокладкай некалькі перакладаў аднаго і таго ж твора, напрыклад, "Слова пра паход Ігараў", "Песня пра зубра", "Пан Тадэуш".

А. Шаблоўская і Л. Казыра гаварылі аб кадрах перакладчыкаў, якія трэба рыхтаваць са студэнтаў. І ў БДУ, і ў Лінгвістычным універсітэце можна адкрыць аддзяленні багемістыкі, італьяністыкі, літуаністыкі і г. д., але на дзяржаўным узроўні гэта пытанне пакуль не ставілася. Між тым, у настаўнікаў школ, вучылішчаў і тэхнікумаў, якія ўжо атрымалі праграмы па курсе сусветнай літаратуры і пачалі яе выкладаць, не хапае тэкстаў у перакладах на беларускую мову, няма падручнікаў і хрэстаматый.

А. Яскевіч таксама выказаўся ў падтрымку той думкі, што выданне серыі, наогул перакладчыцкую справу трэба арыентаваць на практычныя патрэбы школ, ВНУ. Без гэтага немагчыма духоўнае адраджэнне нацыі.

А. Верабей і І. Чарота ўвязвалі стан выдання серыі са справай нацыянальнага Адраджэння, з пашырэннем сферы выкарыстання беларускай мовы. Папулярнасці серыі не спрыяе і тое, што яна практычна не рэцэнзуецца.

Прысутныя выказалі прапанову яшчэ раз звярнуцца да праблем, што ўзнікаюць, на наступным пасяджэнні секцыі.

М. КЕНЬКА

## "БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА", N 12

Э. Дубянецкі выступае з артыкулам "Унікальны менталітэт беларусаў". "Дзяржаўнае двухмоўе: чаму я супраць?" — публіцыстычныя развагі Е. Андрэевай. Е. Бондарава гутарыць з кінарэжысёрам М. Пташуком — "Кінематограф у свеце, што змяняецца". Чым жыве сёння беларускі цырк? — на гэтае пытанне адказвае яго дырэктар І. Пашкевіч — "Саўдзел у свяце". Змешчаны слова А. Марціновіча пра І. Чыгрынава ў сувязі з 60-годдзем пісьменніка — "Верамейкаўцы — нашы знаёмыя", мастацка-дакументальныя навелы А. Калусціна, нарыс Э. Карніловіча "Сербія шануе яго імя" — пра нашага выдатнага земляка М. Чарняева, шэраг публікацый, што тычацца надзённых праблем сучаснага жыцця, у тым ліку і матэрыялы "круглага стала" "Будаваць горад для чалавека".

## КНІЖАЧКА А. ДЗЕРУЖЫНСКАГА

"Грыбная мова" прыйшла да падпісчыкаў часопіса "Пралеска". Дастаткова з яго здвоенага (дзесятага-адзінаццатага) нумара дастаць разварот, скласці адпаведным чынам і, калі ласка, атрымаецца зборнічак. У гэтым жа нумары — слова галоўнага рэдактара А. Сачанкі "Каралеўства крывых люстраў", гутарка З. Лысенкі з галоўным рэжысёрам Дзяржаўнага тэатра лялек Рэспублікі Беларусь А. Ляляўскім "Лялькі на памосце і ў жыцці", казка Т. Мушынскай "Вандраванні лялькі Зіны", чарговая падборка твораў для маленькіх "Вясёлы вулей", працяг рубрыкі "Крыху літаратуразнаўства" — У. Мацвеенка знаёміць з рэбусамі, іншыя матэрыялы.

Паэзія

Міхась СТРЫГАЛЁЎ



### ЖНІТКО*

Туды, дзе пахне свежымі стагамі,
дзе шчокі маладзенькіх журавін
Жнітко цалуе прагнымі губамі, —
у рай зямны,
пад жураўліны клін?!

Туды, туды, ў цыбатае дзяцінства,
каб задні часам памудрэць у ім,
дзе дым бульбоўніка — айчыны дым,
сябрыны школьнай крэўнае адзінства...

Іду дамоў... На ростань. Да сябе.
Я ведаю — другім назад вярнуся:
ДАБРЭЙШЫМ і МУДРЭЙШЫМ —
на сяўбе,
на калаўроце дзён, на Беларусі...

* *Жнітко — бог жніва.*

### ПРАДВЕСНЕ

Закалыхана дрэмле даль
на асаце і на чароце,
а ў галаве шчэ кружыць баль.
Баль на куп'і, што на балоце.

Мо граў музыка неўпапад —
ламаў бязлітасна асокі?
Не! Падбіваючы да звад,
то Д'ябал сам пускаўся ў скокі...

І — выдыхся... Адкрый хутчэй
мне дзверы — свежае паветра
няхай вядзе ў пакоі рэй,
смурод балотны хай распетрыць...

Захвоіць!.. Хутка крыгаход
ракі ўзламае пуцявіну —
і соснаў чуйны карагод
Вяснянку ўчуе на часіну...

Пальецца музыка з галін,
узнятых зеленню да сонца.
Смуродны баль былых часін
не будзе бэсціць нас бясконца...

### БЕЛАЯ КРОЎ

Жылі мы ў пушчах і балотах,
збіралі зёлкі — верасы,
і дух наш вольны ў небе лётаў,
беларусы, беларусы...

Скажы нам, Божа, ў чым віноўны
мы прад табой, што Зніч-Палын
сышоў на нас, як мор няўмольны, —
і не памога — Божы Сын...

Дакуль нам спіны гнуць, укленчваць
прад Лёсам Злым — здавён, здавён?
Крыж на Галгофу несці вечна,
за што такімі быць, як ён?

### КАЛЫСКА ЧАЛАВЕЦТВА

Зірнула сонца на зямлю
так люба-міла, нібы маці —
у вочы сыну-немаўлю,
бездапаможнаму дзіцяці.

А сын няведама аб чым
ў калысцы сам сабе балбоча.
Ляціць зямля удалячынь.
Рыпіць калыска ўдзень і ўночы.

Такое крохкае жыццё
ў зямлі самой, як і ў дзіцяці.
Міг — абарвецца ў небыццё...
Міг — і не будзе Сонца-маці!

Ды толькі Розуму ўгары
не з'ехаць з глузду у калецтва.
Вярціся, шар зямны малы... —
Рыпі, КАЛЫСКА ЧАЛАВЕЦТВА!

### БУДЗЕ І РАЙ

Зменлівы свет у маім аконцы —
дрэва грамовае чакае часцей...
Здаецца, воблачкам свячуся ў сонцы,
лячу я на дрэва маё ад людзей...

Бог мой! Не выбівай з-пад ног зямельку.
Пясочны гарадок мой не разбурай.
Дай мне пабыць сабою ў свеце маленькім:
было ж у ім пекла, хай будзе і рай!

●

Навальніцай зламанае дрэва
кіне раптам у роспач мяне:
гэта ж лёс мой зламала залева
напачатку — па самай вясне.

Не малю, не чакаю, не плачу:
"Я — маленькі, пагладзьце мяне..." —
Я Фартуну сваю перайначу,
сум у рэчцы схаваю на дне.

Не звядуся, хоць, здэцца, канаю, —
ёсць маленькая просьба ў мяне:
"Ты — адзіная! Ты — маладая!
Ты пагладзь па маёй сівізне!"

З паэтычнай пошты

Алесь ЛІСІЦКІ

●

Ля крынічкі спынюся, пап'ю.
Тут спачыць асабліва прыемна.
Я Палессе любоўю люблю
не сваёю нібы — пераемнай.

●

Калі пачне вам сніцца хата
між яблынь, што не зацвілі,
то гэта значыць, што багата
вы ўжо на свеце пражылі.

●

Гула да раніцы завея.
Гадзін прыціхла, можа, ў пяць.
Такую злую толькі фея
магла суцішыць і прыспаць.

●

Я на мяжы начы і рання
такі зажураны хаджу.
Я ўжо стаміўся ад чакання
яе, бы спёкаю — дажджу.
Яна збіраецца паспешна
з адною згадкай — пра мяне,
і ад таго не раз усмешка
ёй вусны, лёгкая, кране.
Што б ні было — яе чакаю, —
сумневу ў любае няма...
Я зорку нашую шукаю
сягоння ўпарта і дарма.
І на мяжы начы і рання
дарма зажураны хаджу
па сцежках ростаняў-спатканняў...
Мне зябка...
Не, не ад дажджу...

●

Спраўляе восень свае балі
у лесе, ў парку гарадскім.
Лісты, што з дрэў ужо апалі,
дзівосны выткалі кілім
на непрыкметна парыжэлай
наўзбоч прымятае траве.
Наўкола гэтак пасвяжэла.
Душу бы нехта ў рай заве...
Я ўчора ў парку быў на балі,
чуў там то музыку, то смех.
Лісты, што з дрэў ужо апалі,
прыцерушыў уночы снег.

●

Трава — ў мядовае расе.
З-за лесу сонца яблык коціцца.
Даўно мужчыны ў лузе ўсе.
Ім гэтак спорна зараз косіцца.

●

Гайдаецца ў хаце калыска.
Малы аніяк не засне.
Трымцілівыя зоркі занізка
ён бачыць штоночы ў акне...

Такое было або не?..

●

Няма пярэдыху і ўпічунку
то снегавею, то дажджу.
Душу — гаротніцу, вянчунку —
я ў сне на волю адпушчу.

Але ж далёка — аднадумцы.
Я іх і памятаю ледзь...
Той ёй, гаротніцы-вянчунцы,
куды не будзе паляцець.

●

Нехта мяне пагукае
ціхенька ў цемры начной.
Ён каля вокнаў блукае,
сочыць паследна за мной.
Хто ён і што яму трэба? —
ведаць хацеў бы ўжо я...
Скажа пра гэта неба,
калі адпусціць зямля.

*г. Жыткавічы*

Проза

Вятроўка — селішча старадаўняе. Яна займае як не ўвесь набярэжны пагорак, што цягнецца ад дня проўскае кручы аж да баравой дзебры, пры якой, зводдараж бальшака, бучнее самотна-зялёнай кругловінай старое як свет кладзішча. За вярсту ад кладзішча па-блізу Дняпра ўзвышаецца, крытая гонтай, драўляная будыніна — двухпавярховы, з чатырма балконамі, спрэс увітымі хмелем-павіўцом, маёнтак Любаміра Кухлярскага, тутэйшага памешчыка.

Пахілыя хаціны вятроўцаў стаяць цесна, адна пры адной, нібы людзі ў холад. Затое вясковая вуліца — наўздзіў шырокая, улетку заўсёды чыстая і сухая, якія б дажджы ні прудзілі. Усцяж прыплоцця лапушыцца тлусты трыпутнік уперамешку з густым, як шчотка, сіўцом ды рэдкім пырнікам. Стае паўсюль і крапівы-жыгучкі, дробнай, маларослай.

Між вёскай і маёнткам, акурат пасярэдзіне выпетранай пустэчы, куп'істай, усеянай камянюкамі-валунамі, доўжыцца — ушыркі на адно падвор'е — палетак Міхалкі Крутаяра, які за гэтыя дзве з лішкам дзесяціны няўдобіцы — на ўсё пайшоў чалавек, абы займець зямлю, сваю, уласную, — утахціў панскаму ўпраўляючаму Людвігу Рытару, абруселаму немцу, амаль усе тыя залатоўкі, што зарабіў, як ён любіць казаць, на прыродзе — карчаваў і даставляў з лесу на смалакурню сасновае пнёўе.

Міхалка быў наравісты адмалку. Ён змог сябе ў сям'і паставіць так, што ніхто яму ні ў чым не пярэчыў. З бацькамі не задзіраўся, але калі пачынаў што рабіць, не надта зважаў на іх парады, і тыя моўчкі перажывалі кожны самастойны крок сына — ні слова яму, ні паўслова. Грошы на зямлю растраціў — такой бяды, купіў — не прапіў. Заманулася будавацца, самастойна жыць? Зачынай сям'ю, будуйся і жыві. Па-людску, як усе. А ён — і гэты раз натуру сваю паказаў, капрыз: хутар заснаваў не там, дзе нараіў бацька — пры бальшаку, усутык з падворкам Лявона Таптуры, лесніка, зямля якога разлеглым абшарам цягнулася ўзгаллем аж да суседняга поля, што належала сялянам з Шарыпкінай Грывы, вёскі невялічкай, усяго на дваццаць хат, атуленых лесам. Першыя пабудовы Міхалка ўзвёў на самым згібе Дняпра, на пясчанай высне. І не хату, як гэта звычайна робяць, а найперш хлеў агораў, потым — лазню, маленькую, без прыдзела пакуль, але, праўда, так усё адштукаваў унутры, так выскабліў, што пры жаданні ці падчас нявыкруткі якой можна было засяляцца і жыць.

Упартасці, як відаць, у хлопца было аж праз беражкі. Столькі ж, трэба адзначыць, мелася і цярпення. І дома, і на людзях паводзіў сябе ён прыстойна, спіртнога не ўжываў нават па святах, і свой нораў не паказваў ні перад панам, ні перад вяскоўцамі — не выкідваў усялякіх там закабункаў, як большасць яго аднагодкаў, нават тых, хто ўжо й сямейна жылі, чуліся гаспадарамі. Не спяшаўся Міхалка з жаніцьбай, марудзіў, хоць, праўда, нявеста была — Клаўдзя, леснікова дачка чакала ад яго сватоў. Прыкметная ў вёсцы дзяўчына. Але, праўда, не таму, што скончыла Забор'еўскую жаночую гімназію, а хутчэй — як першая пяюха. Яна жыць не магла без песняў. Асабліва добра народныя спявала, падыгрываючы на балалайцы. Міхалка высока цаніў гэты яе музычны дар, але ён — сам не ведае чаму — нечага змалку не любіў скамароства, і часта лавіў сябе на думцы, што такую Клаўдзю, з балалайкай у руках, ён не ўспрымае...

У дзень свайго паўналецця Клаўдзя траха не захлібнулася ў Дняпры: набіраючы ў збанок ваду, абшаснулася з берага, а выграбціся на сухое не змагла, бо не ўмее плаваць. Быстрая на завароце плынь падхапіла нябогу і прынесла проста ў рукі Міхалку, які ў гэты час за кустамі, на ўзніззі, купаўся. Ён разгубіўся — палічыў, што Клаўдзя нежывая ўжо, вынес яе на мурог, стаіць і плача. Якраз вяртаўся з Шарыпкінай Грывы Міцюк Шурайка, гарманіст, які хоць і быў нападпітку і яўна не ў гуморы, узнерваваны (пакінуў вяселле дачасна, бо ўсчалася бойка), аднак выключнасць моманту адчуў адразу — зняў з пляча сваю знявечаную хромку (ёй дасталося ад п'янай брацііі больш, чым гаспадару), і кінуўся ратаваць дзяўчыну. Не адступіўся, пакуль яна і не апрытомнела. Клаўдзя з плачам кінулася да ўсё яшчэ разгубленага Міхалкі,

# ЦЯЧЭ РЭЧКА...

Алесь МАСАРЭНКА



АПАВЯДАННЕ

прытулілася і доўга стаяла так, плачучы, пры ім, ніколькі не стыдаючыся людзей, што прыбеглі ад блізшых хат. Пасля колькі дзён адно й гаварылі ўсе пра Клаўдзю і яе выратоўцу, казалі, што Міхалка "вылавіў" у Дняпры долю сваю, што гэтак яму на раду напісана. Неўзабаве іх бацькі (Лявон Таптура — Клаўдзін, Хведар Крутаяр — Міхалкаў) сышліся ў карчме. Упіўшыся, яны змовіліся парадніцца, сватамі стаць. Пры гэтым — Таптура моцна, на ўсю карчму басаваў: маўляў, дае ў прыдачу да пасагу яшчэ й вексель на тысячу рублёў асігнацыямі, і гэтая замашнасць яго хоць і не панская, аднак, дзякуй Богу, ён, Таптура, пакуль мае што даць сваім дзецям, абы ўсё ішло ў іх ладам. Міхалка яму, выходзіць, падабаўся не столькі ўвішнасцю ды знешняй вабнасцю, як, бадай, тым, што не курыць і не дападны да чаркі — сама што для Клаўдзі... Голас яго раздражняў Цылю, а найбольш, можа, непрыхаваная, без намёкаў, мужыцкая пахвальба, неразумнасць. Таму, каб хутчэй збавіцца ад крыклівых завітанцаў, карчмарка ваўчком круцілася паўз іх, прамаўляючы ўсё новыя і новыя тосты: "Мужчынкі вы мае добрыя, за дзетак сваіх выпілі, цяпер каўтніце за ўнукаў..." Цыля, убачыўшы праз акно Міхалку, які вёз на смалакурню чарговую рату карчэўя, выбегла і, натхнёна апавядаючы пра вексель і пра ўсё астатняе, што ўчула ад Таптуры, пацягнула яго ў карчму. Міхалка падышоў да століка неўпрыкмет, спыніўся і ўжо на свае вушы чуў, як Таптура абяцаў угаварыць пана, каб той прызначыў Міхалку сваім конюхам...

Яно, бадай, заўсёды так: чалавек хоча як лепей, а ўсё выходзіць насуперак ягонай хоці. Абмылка ў Таптуры атрымалася — пралічыўся, не ў час карты свае раскрыў і не там. Ён быў упэўнены, што з векселем Міхалка ахвотней стане пад вянец. А гэты неўгавора — ані блізка, нібы хто падзуперыў што, зеллем адваротным напаіў. І Таптура доўга ламаў галаву ў развагах: "Няйнакш даведаўся, што Клаўдзя — байстручка, панскай крыві... Падобна, што ўсё так — з таго і геморнічае, выцыганьвае, паразіт, большую надбаўку. Вастравух, хітрун запячурны, злавіў мяне на кручок, у час падсек, не праваroніў..."

Нічога мудрэйшага Таптура так і не вымысліў — мусіў ісці да Міхалкі ў двор і пагаварыць з ім адкрыта, з вока на вока, бо не ў яго характары строіць здагадкі і спатайка, беспадстаўна дзьмуцца. Выбраўся ў нядзелю, каб застаць Міхалку на хутары.

Гаспадар ён такі, Міхалка: нават у святы дзень не сядзеў склаўшы рукі — рабіў, бязбожнік, на поўную сілу, як не ведаў, што, апроч работы, ёсць яшчэ і царква, што трэба хоць адзін раз у тыдзень памаліцца за выратаванне душы, адпачыць фізічна.

Нічога на гэты конт Таптура не сказаў Міхалку, наадварот, ён і сам уключыўся ў работу: памог распілаваць сасновае бервяно на тры паўтараметровыя турпулі, з якіх накалолі больш за дванаццаць лякоў. Удала ўправіліся — ніводзін ляк не сапсавалі. Потым узяліся шчапаць дор. Шчыравалі моўчкі, спрытна. Міхалка час ад часу пахвальваў сасну: слаі абалоні роўныя, не пакарабачаныя наўскос, вінтом, і тонкія, без сучкоў, — з такой баравухі лучына добрая...

Заюшлівы ў рабоце, Таптура згодліва падтакваў, ківаючы галавой, упаўсілы бэхаў даўбешкаю па сталёвым, з рысоры, круку, лязо якога дарэшты ўядалася ў абалонь. Міхалка штораз тоўхаў рукаятку крука ўніз... Утаміўшыся, селі перадыхнуць. І тут ужо не стаў марудзіць Таптура, сабраўся з духам і нагадаў Міхалку, што пара б яму за хату брацца, з лесам, калі што-якое, не праблема: пан выручыць. Міхалка тут жа — от і пагавары з такім разумцом — выбубніў рыфмаваную пацешку: "На хату няма дзе браць плату". На жарт усё звёў. Калі б Таптура з якой іншай нагоды завітаў, дык мог бы ўжо і назад паварочваць — сябе ён шанаваў і хацеў, каб шанаваў яго таксама і будучы зяць. Лебязіць яму не з рукі перад маладзёнкам. Хаця — не такі ўжо Міхалка і маладзёнак, устаялы біцюг, не які там цюха-мацюха, не прасцячок — вопытны, абы-чым яго не доймеш. Таму пачаў здалёк:

— Я што маю, сусед, паведаміць табе... — Таптура не ломіцца ў дзверы напралом, бо ведае: у размове з Міхалкам цяжка ўгнацца — абставіць як піць даць. — Упраўляючы, гэты панскі віжун, апошнім часам зачасціў да нас... Настойвае, каб Клаўдзя ішла на службу ў двор.

— Адукаваная ж... Кароў даіць не прыйдзецца, у кантору прымуць. Чаму б і не пайсці, га?

— У тым-та й дзела: Клаўдзя не хоча ў двор. Рытар жа навяліўся і ўсё ходзіць, свайго дамагаецца. Мяне, прызнацца, во што непакоіць: збродліва зырыцца на яе... Цалуе ручкі... Баюся, хадня яго не без разліку.

— Чорт калданогі!.. — ад гневу Міхалка аж калыхнуўся і, як трымаў сякеру — замашна ўдзяўбнуў яе ў бярозавы пацурабак, прыгнуўся і так, сугібам, пабрыў да лазні.

Яго нечаканы ўспых прыемна ўсцешыў Таптуру — Міхалка, выходзіць, не раўнадушны да яго дачкі. Калі ёсць рэўнасць, то, пэўна ж, нічога яшчэ не ўпушчана: пакруцяць галовамі, пабзыкуюць, а там і ўмяркуецца ўсё, на лад пойдзе.

Таптура няспешна падышоў да Міхалкі, задуманага і адрынутага ад свету, заклапочана спытаў:

— Дык ты, знацца, не ведаў гэтага?

— Дзякуй вам, дзядзька Лявон... Цяпер ужо ведаю. — Ён улёгся на загаваліну, паклаў рукі пад галаву. — Можа, яшчэ што маеце сказаць?

— Што тут гаварыць... Душакрут гэты цягне дзяўчыну ў гадзючае логва, каб жыць з ёй там, як з жонкай. Таму й падлашчваецца. Панароўкі адной з панам... Той у маладыя гады не разбіраў дужа, хто перад ім: паненка ці простая сялянка... Смакотны быў да жанчын. Насеяў байструкоў па ўсёй воласці. Праўда, у адным яго не ўпікнеш — памагаў сваім зашлюбным дзеткам... Сонькі Нямыткінай сына, Атроха, у ахвіцэрскую школу завёз, у Пецярбург. Мякоту Івана вывучыў і ў двор да сябе ўзяў за доктара... Ён такі, наш пан: напракудзіць, а пасля замятае свае чорныя слядкі дабрынёй. Адсюль і божнасць яго, і ласка. От я і кажу: Рытар гэткі ж самы выблідак, як і пан.

— Не, дзядзька Лявон, Рытар не такі... — Міхалка засяроджана глядзеў некуды ў падстрэшша. — Кухлярскі палетуе тут, дый шыецца на зіму ў свой гарадскі асабняк, сядзіць там у цяплесвятле. А гэты нямчур што хоча, тое і выдурае з намі круглы год... Іншаземцы смокчуць нашу кроў, чужакі... Мала сваіх павукоў, дык во з-за мяжы напаўзло — засілле цэлае.

— Праўду кажаш, суседзе, — Таптура рады, што Міхалка аднолькавай з ім думкі ў адносінах да пана і яго ўпраўляючага. — Я цябе, Хведаравіч, разумею... Нялёгка будавацца аднаму, без дапамогі. Аднак жа, лічы, ты не адзін... Па-мойму, калі ўжо мы, так бы мовіць, скулдосілі вузельчык, завязалі, то навошта ж секчы яго? Клопат не вялікі, што ён, гэты наш вузельчык, не надта моцна завязаны пакуль... Жыццё заціcне яго з цягам часу так, што сам чорт не здолее развязаць.

— Вы правільна ўсё кажаце, дзядзька Лявон, — Міхалка не запаляецца на шчырую размову, і гэта пачынае злаваць Таптуру. Ён ідзе на закругленне:

— Я — чалавек уступчывы, не жміндзяра, не Рытар: у прыдачу да векселя яшчэ й лугу тры дзесяціны ўступлю... — і ўжо спадзяваўся ўбачыць на Міхалкавым твары лагодную ўсмешку, прыязнасць, аднак сусед нібы і не пачуў яго слоў.

— Дзядзька Лявон, дапусцім, Кухлярскі пажадаў бы зрабіць сабе з рыбінай лускі палац... — Міхалка так і не падняўся з загаваліны, задумліва працягваў глядзець у падстрэшша. — Луска слізкая, з ёй нязручна важдацца, дый шмат яе спатрэбілася б... Як думаеце, узяліся б Кухлярскаму такі палац узводзіць?

— З рыбінай лускі?.. — Таптуру аж сорамна стала за Міхалку. — Ты гэта, хлопча, пра што?

— Пра ўсё... Скажам, я, просты чалавек, узяўся агараць не палац з лускі, а хацёнку з лесу, і не магу... У даўгі ж забірацца мне няма як — з даўгамі ночы доўгія, а сон кароткі, як зайцаў хвост.

Таптура не які там ашавурак, не тугадум — адразу расшалопіў, што Міхалка не лупіць вочы ні на яго тысячу, ні на дармовы лужок. Во дзе гаспадар — на падачку не разлічвае, маладзец з усіх бакоў. Але што з ім — адкуль у душы такое роіла, рэзрух? Назусім ён страціў да Клаўдзі ахвоту? З чаго грэбуе ёй?

Ідучы да хаты, Таптура з бояззю думаў аб тым, што яму не будзе чым апраўдацца перад дачкой, і яна атрымае права паступаць так, як знойдзе выгодным. Абяцаў ёй развязаць рукі, адно з умовай, каб не дакарала больш, забыла пра вексель. І ўсё-ткі ён, паслугач панскі, не мог, не ў сілах быў разупэўніцца ў сваёй глыбокай веры ў тое, што гулёных грошай калі хто і цураецца, дык хіба палудур, хворы на галаву чалавек. Ці ж ён, Лявон Таптура, угнёўся б у леснікі, калі б вось так, як Міхалка, занатурыўся і ні ў хамут, ні ў аглоблі — не ўзяў таго, што даў яму Кухлярскі? Галадранцам быў, галадранцам і застаўся б, хаця і храбраваў на вайне з туркамі, медаль зарабіў. Гэта праўда — храбраваў. Думалася, вернецца з вайны героем і зажыве слаўнабагата. На героя не выцягнуў — цяжка параненым вярнуўся. І да ўсяго — з пустымі кішэнямі. Як жыць? Пенсія з камароў нос. Спадзяваўся на бацькоў, але іх адначасам не стала — памерлі ад тыфу, не дачакаліся сына. Сяліба з надзелам і небагатай дамашняй жыўнасцю перайшла ў спадчыну Сілівону, брату-першынцу, які меў ужо сямёра дзяцей. І ён, інвалід, мусіў жыць у брата — стаў восьмым нахлебнікам. Іншага выйсця не было: фізічна рабіць нічога не мог, калі ж і браўся за што, дык галава аж скіпалася ад болю, так шалёна гудзела ў ёй, што не было як трываць. Садзіўся адпачыць, сцішваўся і неўпрыкмет — глыбока, не дабудзіцца — засынаў. Было, што спаў без просыпу суткі, а часам і больш. Яшчэ столькі потым хадзіў як п'яны — вадзіла ў бакі, перад вачыма скакалі, мірсціліся чорныя цені. Вясковыя зубаскалы прыкмецілі гэты яго пахібак, і з іх ласкі ён стаў вядомы як П'янь. Мянушка абразлівая, незаслужаная, бо колькі помніць сябе — гарэлкі й грама не браў у рот. А тут — П'янь. Навошта? І ў дадатак — пасмешкі ўслед: "П'янь, П'янь, завядзі нас на Ярдань Богу маліцца, мошчам кланіцца..." — крычалі падлеткі-вісусы. Яго палохаліся стрэчныя маладухі: "П'янь калі зіркне спадылба, дык хоць на край свету бяжы..." Ім пужалі малых неслухаў: "От прыйдзе П'янь, забярэ ў мех".

Гэта праўда, дома ён не стыкаўся: снаваў, як непрыкаяны, па ўсёй воласці, з вёскі ў вёску, з двара ў двор — збіраў кускі. Сперш яго сустракалі паважліва, давалі хлеб і яйкі. Потым стаўка адчувальна паменшала — совалі, як адчапное, па адной-дзве бульбіны ды зрэдку галоўку цыбулі або гуроксалёнік, было, што і зусім зашчэплівалі перад ім дзверы, не пускалі ў хату. Тым часам здароўе троху наладзілася, "п'янь" прайшла, і ён наняўся вартаваць панскія палеткі, што нават здалёк розніліся ад сялянскіх шнуроў, бязглузда вузкіх і да смешнага доўгіх.

Аднойчы Лявон Таптура напрасіўся паказаць пану касачовыя такавішчы. Паляванне ўдалося — здабылі за раніцу больш за сотню цецерукоў. Страляў найбольш Таптура, і пан, усцешаны ўдачай, адарыў свайго новага памагатага вышытым срэбрам ягдташом і дубальтовай стрэльбай нямецкай вытворчасці. З таго часу Таптура стаў як не другім ценем Любаміра Кухлярскага, рэдка калі начаваў у брата, асабліва ўлетку, забягаў адно ў лазні памыцца ды памяняць бялізну. Куды б пан ні выпраўляўся — і Таптура быў з ім, побачкі, са стрэльбай на плячы, нібы ахоўнік. Нават за мяжой, у Польшчы, быў. А што ў Магілёве, у родавым панскім асабняку па тыдню выпадала жыць, а то і па два-тры. Там ён і долю сваю прышукаў — сышоўся з Адаркай Круглікавай, панскай кухаркай...

Міхалка не сумняваўся — хату ён абавязкова агорае. І не курніцу — злёпак на скорую руку, якіх яшчэ шмат у Вятроўцы, а пяцісценку, з печчу і комінам, шырокімі вокнамі і падлогай. Прасторнае і светлае будзе ў яго жытло. Абрыдзелі ўжо штодзённы дым, няўтульнасць і паўсюдная чарнізна ў бацькавай курніцы. Сваю хату Міхалка планаваў зрабіць такой, каб з вокнаў відзён быў і падворак увесь, і шнур яго зямлі, што цягнецца да бальшака. У бацькавай жа — было ўсяго два вакны: адно — на гарод, другое — у двор, доўгі і шырокі, спраўна абнесены замётам з тоўстых бярвёнаў. Супроць хаты, на вуліцы, было суха і чыста. Трава-мурава буяла штолета. Затое ў двары стаяла непраходнае балота — смярдзючая гразюка ўперамешку з навознай жыжкай. Ад брамкі і да ганка бацька вымасціў з шырокіх дубовых плашакоў ходнік, і падчас дажджоў абмінаў яго хіба толькі сам, калі быў на добрым падпітку. Да Крутаяраў ніхто з моладзі не хадзіў улетку — Міхалка з сястрою Аўдоляй нікога з аднагодкаў не запрашалі знарок, бо сорамна было за такі падворак, смуродны і поўны мух. Затое дзвюм свінаматкам з плоймаю парасятак жылося тут заўсёды прывольна. Крутаяры ўмелі гадаваць парасят, і на кірмашы падоўгу з імі не затрымліваліся — з ходу прадавалі ўвесь прыплод.

Не спяшаўся з жаніцьбай Міхалка і пасля размовы з Лявонам Таптурам. Чаго ён чакаў-марудзіў — ніхто толкам не ведаў. Да Клаўдзі па-ранейшаму ставіўся прыязна, часта думаў пра яе. Хораша думаў. Хлопец ён быў хоць і ва ўзросце ўжо, але жанчын блізка яшчэ не меў. Мабыць, што розумам жыў, а не сэрцам. Калі б толькі даверыўся пачуццям — Клаўдзя даўно б нарадзіла яму дзіця. Адзін час панадзілася была хадзіць да яго ў лес, але ён гнаў яе ад сябе — баяўся дачаснай блізкасці, хоць і не ведаў, чым спароджана была гэтая боязь яго.

З Аксінняй Зарэчнай, шаснаццацігадовай бялянкай з Сяльца, задняпроўскай вёскі, Міхалка пазнаёміўся ў Забор'і падчас кірмашу на свята Івана Калінавіка. Ураніцу як сышліся, дык і не разлучаліся ўвесь дзень, хадзілі, бы заваражаныя. Сфатаграфаваліся, потым пілі ў харчэўні вінаграднае віно. Ужо на змярканні ён павёз дзяўчыну дадому. Шлях, праўда, быў не зусім зручны — давялося карыстацца паромам. Іллюха Камаронак і яго малодшы брат Ягор, паромшчыкі, бралі з вяскоўцаў сваіх па гарніцу аўса ў год, і лічылі, што плата малая, таму з чужымі праезджанамі не вельмі чыкаліся, цану завышалі ўдвое. Міхалка гэты раз заплаціў палцінnік, але ніколькі не засмуціўся — душа была ўзрушана іншым: Аксіння сказала яму, што згодная на шлюб, абы не запярэчыла б маці... Бацькі ў яе не было, недзе загінуў, а як — маці не гаварыла.

(Працяг на стар. 13)

# АРКЕСТРУ — 40 ГАДОЎ

**У Вялікай зале філармоніі адбыўся юбілейны канцэрт аркестра рускіх народных інструментаў Беларускай акадэміі музыкі. У 1994 годзе яму споўнілася 40 гадоў.**

**У студзені 1954 года рэктар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі А. Багатыроў падпісаў загад аб стварэнні аркестра рускіх народных інструментаў. На той час у аркестры было толькі 16 чалавек. Ініцыятарам стварэння аркестра і першым яго кіраўніком стаў незабыўны Г. Жыхараў, музыкант, фанатычна ўлюбёны ў сваю справу. Прафесійны ўзровень аркестра быў даволі высокі. Выконваліся творы В. Андрэева, М. Будашкіна, фінал Сімфаньеты М. Чуркіна, І частка Сімфоніі В. Калліннікава. Вялікае месца ў рэпертуары аркестра займалі творы ў інструментоўцы і пераладжэнні Г. Жыхарава. Неўзабаве калектыў быў ганараваны званнем лаўрэата І Усебеларускага фестывалю.**

**У 1973—74 гг. аркестрам кіраваў М. Прошка. А з 1974 г. і па сённяшні дзень, вось ужо 20 гадоў, аркестрам кіруе дацэнт кафедры аркестравага дырыжыравання С. Кафанаў. Так што калектыў адзначыў двайны юбілей.**

**На канцэрце ў філармоніі аркестр прадэманстраваў высокі прафесійны ўзровень, ансамблевую зладжанасць, штрыхавую культуру, дынамічную гнуткасць... З ім выступілі маладыя, але ўжо вядомыя салісты-лаўрэаты: С. Франкоўскі (тэнар), Л. Рыдлеўская (цымбалы), Н. Бярэзіна (сапрана). Гучала музыка розных аўтараў і стыляў: Багатыроў, Рымскі-Корсакаў, Хіменес, Шнітке, Дэбюсі, Ібер, Фралоў, італьянскія песні... Доўга не змаўкалі апладысменты, і дырыжору не раз даводзілася ўздымацца на подыум ды граць на "біс".**

**А. СЕЛАЧНІК,**
**старшы выкладчык**
**Беларускай акадэміі музыкі**

# ЮБІЛЕЙ КВІТНЕЮЧАГА ЎЗРОСТУ

Артыст балета... Праз штодзённае напружанне, цяжкую працу і пот дамагаецца ён той вытанчанасці ў сваім майстэрстве, якую так цэняць гледачы. Спецыфіка прафесіі робіць век артыста балета непрацяглым: пасля 20-ці гадоў творчай працы ён ужо лічыцца ветэранам сцэны. Трэба саступаць дарогу маладзейшым, якіх чакае такі ж самы творчы лёс. Але многія з іх, пакідаючы сцэну, не пакідаюць балет. Стыхія танца, наогул уся атмасфера тэатра трымаюць іх у сваім палоне назаўсёды.

Нядаўна балетная трупа тэатра музычнай камедыі Беларусі ўрачыста адзначыла 20-годдзе сцэнічнай дзейнасці вядучага артыста балета Уладзіміра Крупскага. Гэты артыст мае вышэйшую адзнаку ў балетнай іерархіі - майстар сцэны, акрамя таго ён адораны вельмі важнай для артыста якасцю — яркай сцэнічнай знешнасцю. Прыгожы, надзвычай элегантны і вытанчаны, ён прыцягвае да сябе ўвагу нават у масавых сцэнах і так званых падтанцоўках. Для артыста балета, які працуе ў аперэце, важная не столькі высокая тэхніка, колькі валоданне своеасаблівым комплексам сцэнічных прыёмаў, уласцівых менавіта гэтаму жанру. Чаму ж менавіта на Крупскага часцей за ўсё звяртаюць увагу гледачы ў балетных нумарах? Не толькі таму, што ён вылучаецца сярод іншых сваёй знешнасцю, але і таму, што танцу ён аддаецца ўсёй сваёй істотай, не механічна выконваючы завучаныя рухі, а перадаючы праз іх сваё ўнутранае адчуванне. Гэта энергія, якая ідзе з глыбіні душы, свеціцца і ў яго ных вачах, і ў зменлівым выразе твару, і ўрэшце стварае вакол артыста магічную аўру, якая і прыцягвае гледача. Як кажуць, артыст ад Бога.





У. Крупскі — з тых артыстаў, якіх называюць арганічнымі. Яго ныя артыстычныя здольнасці могуць выяўляцца не толькі ў харэаграфіі. Хто не памятае бліскучую пастаноўку В. Цюпы "Клоп", дзе У. Крупскі паказаўся перад гледачом у вельмі цікавай ролі, якую немагчыма ахарактарызаваць адназначна. Яна ўбірала ў сябе і вакальныя, і драматычныя, і пластычныя прыёмы, а дзякуючы таму, што ролю выконваў артыст балета, яна набывала нейкую своеасаблівую графічную выразнасць. Ён і сам імкнецца да самавыяўлення ў ролях іншага плана, таму так уважліва сочыць за вядучымі майстрамі сцэны, у якіх можна навучыцца многаму. Магчыма, праз нейкі час У. Крупскі і ўвойдзе ў акцёрскі цэх тэатра, калі рэжысёры зноў звернуць увагу на яго рознабаковыя здольнасці. А пакуль артыст, знаходзячыся ў выдатнай форме, не пакідае сцэну, што называецца, "задзейнічаны ў рэпертуары" і адначасова працуе рэпетытарам. Ён выдатна ведае ўвесь аперэтачны рэпертуар, які давялося перастанцаваць за 20 гадоў сцэнічнай дзейнасці, і цяпер свой вопыт перадае маладым танцоўшчыкам.

**Зоя ЛЫСЕНКА**

*Паміж гэтымі здымкамі — два дзесяткі гадоў. У аперэце "Вольны вецер" пачынаўся творчы шлях маладога У. Крупскага, у харэаграфічным спектаклі "Іспанскі дывертысмент" ён ужо сталы артыст балета...*

# "НІРВАНА"




**Выстаўка карцін з такой назвай працавала ў Гомелі, у памяшканні абласнога цэнтра народнай творчасці. Свае работы тут паказвалі маладыя гомельскія мастакі Іван Папоў, Іван Фірцак, Ігар Кавалёў і Сяргей Каўрыга. У асноўным гэта авангард, але па манеры выканання, па сюжэтнай задуме і рэалізацыі яго аўтарамі палотны выходзяць за рамкі звыклага.**

**Усе выдаткі — ад арэнды памяшкання выставачнай залы да транспартыроўкі работ, афармлення і размяшчэння рэкламных шчытоў аўтары ўзялі на сябе. Але зусім не таму, што гэта дазваляе зрабіць іх матэрыяльнае становішча. Чацвёрка звярталася да салідных камерцыйных структур горада, але, на жаль, мастацтва іх пакуль не цікавіць. А паколькі ў маладых мастакоў ёсць што паказаць і вельмі хочацца гэта зрабіць, зацягнулі больш туга рамяні і — наперад!**

**Сяргей ХАЛАДЗІЛІН,**
**БЕЛІНФАРМ**



*На здымках: аўтары "Нірваны" — Іван Папоў, Іван Фірцак, Ігар Кавалёў і Сяргей Каўрыга; работа мастака С. Каўрыгі "Дрэва жэстаў".*

*Фота аўтара*

Музыка

# "ДВАЙНІК" ЯЕ...СКРЫПКА

Вечар быў празрысты, марозны. Ці не таму так востра ўспрымалася ўтульнасць, цеплыня, прыгажосць Залы камернай музыкі, дзе шматлікія аматары займалі свае месцы, паціху размаўлялі, рыхтаваліся да сустрэчы з мастацтвам? У гэты вечар слухачы мелі магчымасць пазнаёміцца са старонкамі камернай музыкі ў выкананні лаўрэата рэспубліканскага і дыпламанта міжнароднага конкурсаў Наталлі Сталярскай (скрыпка) і дыпламанта рэспубліканскага і міжнароднага конкурсаў Ніны Кавецкай (фартэпіяна). Між іншым, канцэрт быў своеасаблівай справаздачай Наталлі Сталярскай, якая завяршыла першы год заняткаў у аспірантуры пад кіраўніцтвам загадчыка кафедры скрыпкі Беларускай акадэміі музыкі прафесара Анры Барысавіча Янпольскага.

Напачатку гучала музыка Брамса: Саната, Скерца, "Сузіранне"... Паўнагучна і выразна пяяла скрыпка, і яе голас, то напружаны, драматычны, то пяшчотны і ласкавы, кранаў сэрца, чараваў даверальнасцю. Музыка ў выкананні Наталлі Сталярскай і Ніны Кавецкай была падобная да крыніцы, з якой людзі чэрпаюць чысціню і шчырасць пачуццяў. Ансамбль гучаў зладжана, прафесійна. Як цудоўна, што на сцэне ў гэты вечар былі маладыя прадстаўнікі беларускай музычнай школы!

Васьмігадовай дзяўчынкай прыйшла Наташа Сталярская ў клас да свайго настаўніка А. Янпольскага. З таго часу мінула... 16 гадоў! Гэта быў час напружанай працы, якая пачыналася з авалодання тэхнікай ігры на цудоўным інструменце — скрыпцы, са знаёмства з музычнымі стылямі, новымі творамі. Працавалі захоплена, а галоўнае — абое, і настаўнік, і вучаніца верылі ў чарадзейства музыкі, у яе вялікую сілу. А яшчэ ў тое, што скрыпка — гэта жывая істота, своеасаблівы двайнік выканаўцы, яе непаўторная індывідуальнасць.

Свой першы сольны канцэрт Наташа іграла ў Віцебску, калі ёй было толькі 12 гадоў. Неўзабаве атрымала званне лаўрэата рэспубліканскага конкурсу і прыз за лепшае выкананне віртуознай п'есы Г. Вяняўскага. А ў 1992 г. Н. Сталярская стала дыпламантам III Міжнароднага конкурсу імя К. Шыманоўскага і Міжнароднага конкурсу камерных ансамбляў у Польшчы. Шчыра кажучы, у яе ўжо багаты вопыт сцэнічных выступленняў. На сцэнах нашай Акадэміі музыкі і філармоніі яна выконвала сольныя праграмы і скрыпічныя канцэрты Вяняўскага, Баха, Вівальдзі і Мендэльсона ў суправаджэнні сімфанічнага і камернага аркестраў. Іграла камерныя і сімфанічныя канцэрты ў Любліне, Гданьску, Эльблонгу, Лодзі, у многіх гарадах Германіі.



Скрыпачка вызначаецца сапраўдным артыстызмам і віртуознасцю. Яна быццам народжаная для сцэны, у чым яшчэ раз пераканаліся слухачы нядаўняга канцэрта. З кожным новым творам узнікалі новыя вобразы, думкі, пачуцці. Музыка Шыманоўскага, Шасона... Якія тонкія, паэтычныя і разам з тым няўлоўныя адчуванні! А побач — глыбіня і прыгажосць музыкі Чайкоўскага з яе па-руску самабытнай элегічнай лірыкай ("Мелодыя") і віртуознай бліскучасцю, магутным парываннем да ўсяго светлага ("Вальс-скерца"). Міжволі ўзнікала думка: выканаўца разам са сваім настаўнікам абралі слушны шлях у мастацтве. Яны імкнуцца не музейна рэстаўраваць творы класікаў, а "прачытаць" іх як мага бліжэй да арыгінала і дапоўніць рысамі сваёй сучаснай трактоўкі музычных вобразаў.

Слухачоў захапіла і асаблівая "тэатральнасць" інтэрпрэтацыі п'есы П. Сарасатэ "Цыганскія напевы", якая была выканана на "біс". Было б слушным параўнаць выкананне гэтага славутага твора нават з тэатральным спектаклем, у якім "дзейнічаюць" жывыя героі і выказваюць патаемныя думкі, пачуцці.

Пасля канцэрта А. Янпольскі ў гутарцы са мною адзначыў: "Так, я задаволены і праграмай, і яе выкананнем. Наташа — чалавек таленавіты і мэтанакіраваны, улюбёны ў музыку. Тэрміны падрыхтоўкі праграмы аказаліся даволі сціплыя, але яна хутка авалодвае поўным тэкстам, удумліва працуе над стылем і вобразным зместам, умее гранічна канцэнтраваць увагу. У яе, як у выканаўцы, цудоўны віртуозны талент. Нам трэба яшчэ працаваць над гукавой палітрай, але, шчыра кажучы, гэта праца вымагае ўсяго жыцця..."

Безумоўна, наперадзе ў Наталлі Сталярскай шлях да далейшага ўдасканальвання, такі натуральны для кожнага маладога музыканта, шлях да мастацкай свабоды і сапраўднага майстэрства. І застаецца толькі пажадаць ёй новых пошукаў і перамог у музычным мастацтве. А ў зале ў той вечар гучалі шчырыя апладысменты. Слухачы былі ўдзячныя выканаўцам за імгненні святла, радасці, прыгажосці.

**Іна ЗУБРЫЧ**

## ЧАРГОВЫЯ СТАРОНКІ "ПОЛАЦКА"

Сёмы і восьмы нумар часопіса "Полацак" выйшаў здвоеным. У ім — артыкулы А. Цітова "Сігілічнае заканаўства Беларусі XIV—XVIII стст.", А. Грыцкевіча "Тадэвушу Касцюшку прысвячалася", А. Белага "Памяці паўстанцаў Касцюшкі", А. Старадарожскага "Геральдыка і сучаснасць"...

С. Белая выступае з рэпартажам "XXI Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі", а таксама з артыкулам "Стварыць музей "Беларусы Амерыкі".

Змешчаны працяг рамана М. Кавыля "З агню ды ў полымя", артыкула У. Міхнюка і Я. Паўлава "Як знішчалі генафонд беларускай нацыі", сведчанняў А. Смоліча падчас арышту, уражанні К. Мерляка ад наведання Бацькаўшчыны "Дзённік беларускіх сустрэчаў". Тут жа — рэцэнзія Л. Лыча на кнігу К. Мерляка "Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі" і адзін з раздзелаў яе.

"Лірнік краіны ветлай" — працяг успамінаў Ан. Адамовіча пра кампазітара М. Равенскага. "Травеньская выцечка" — апавяданне С. Дзедзіча.

## НАШ КАЛЯНДАР

3 студзеня споўнілася 90 гадоў з дня нараджэння аднаго з самых цікавых беларускіх паэтаў Уладзіміра Хадыкі, да якога, на жаль, лёс не быў літасцівы. 26 лістапада 1936 года Уладзімір Мартынавіч быў арыштаваны. Амаль праз год, 5 кастрычніка, асуджаны на 10 год пазбаўлення волі. Адбываў пакаранне ў Іванаўскім і Марыінскім лагерах. Загінуў 12 мая 1940 года на будоўлі чыгункі каля горада Улан-Удэ.

Пражыў мала, яшчэ менш займаўся творчай працай: з першымі вершамі выступіў у часопісе "Чырвоны сейбіт" у 1926 годзе. Выйшлі зборнікі "Суніцы" (1926), "Выбраныя вершы" (1932), "Радасны будзень" (1935). А потым ужо пажыццёвыя перавыданні, апошняе, найбольш поўнае, у 1986 годзе — "На ўзвеях дзён".

Вось ужо амаль пятнаццаць гадоў няма з намі Валянціна Зуба (памёр 11 жніўня 1980 года), а 9 студзеня яму споўнілася б 80... Першае апавяданне надрукаваў у 1938 годзе ў часопісе "Полымя рэвалюцыі". Аўтар аповесці для дзяцей "Таямнічы надпіс" (1953), зборнікаў апавяданняў "Саначнікі" (1958), "Пад вясновым сонцам" (1960), "Чорны кот" (1973).

Нямала зрабіў у галіне драматургіі. Выдаў некалькі зборнікаў п'ес, лепшыя творы набылі сцэнічнае жыццё. У прыватнасці, "Сябры" (разам з Ю. Багушэвічам), "Марат Казей", "Нечаканае знаёмства", "Юнацтва рыцара". В. Зуб напісаў лібрэта аперэты (музыка Ю. Семянякі) "Тыдзень вечнага кахання" (пастаўлена ў 1975 годзе). Стварыў некалькі сцэнарыяў дакументальных фільмаў, адзін з якіх атрымаў дыплом на Міжнародным фестывалі дакументальных фільмаў у Чэхаславакіі (1964).

Яшчэ адзін сталінскі пакутнік — Алесь Пальчэўскі (нарадзіўся 16 студзеня 1905 года). З першымі вершамі і апавяданнямі выступіў у 1925 годзе. Паспеў напісаць п'есы "З чырвоным сцягам" (1932), "Зламаная іголка" (1934). Працаваў адказным сакратаром рэдакцыі часопіса "Кааперацыя БССР", у рэдакцыі часопіса "Іскры Ільіча". Быў, як і многія, рэпрэсіраваны. 1 кастрычніка 1937 года прыгавораны да васьмі гадоў пазбаўлення волі. Працаваў лесарубам у Горкаўскай вобласці. Дазволілі вярнуцца на Радзіму, але ў 1948-ым зноў асудзілі, цяпер на пасяленне. У Мінск Алесь Восіпавіч змог вярнуцца толькі ў 1955 годзе (памёр 26 красавіка 1979 года).

Як пісьменнік па сутнасці нарадзіўся нанава. І працаваў плённа, найперш у галіне дзіцячай літаратуры. У 1966 выйшла кніга выбраных твораў "Мора на камені", у 1975-ым — двухтомнік. Выбраныя творы А. Пальчэўскага ў двух тамах пабачылі свет і ў 1980 годзе. Акрамя таго разам са сваёй жонкай Т. Цулукідзе пераклаў раман грузінскага пісьменніка П. Данжашвілі "На Алазані" (1959), пераўвасабляў па-беларуску творы іншых рускіх, украінскіх, грузінскіх літаратараў.

Жыццёвы шлях Яўгена Рамановіча пазначаны гэтымі дзвюма датамі: 21 студзеня 1905 года — 25 лютага 1979-га. Давялося працаваць акцёрам, рэжысёрам, выступаў з вершамі і фельетонамі, пісаў прозу. Вядомы як крытык, тэатразнаўца, пакінуў пасля сябе ўспаміны "Рэкі цякуць з ручаёў" (1969) і "Знаёмыя сілуэты" (1974). Меў набыткі і ў галіне драматургіі. Акрамя таго Я. Рамановіч напісаў лібрэта опер "У пушчах Палесся" (пастаўлена ў 1939), "Алеся" ("Дзяўчына з Палесся", разам з П. Броўкам, пастаўлена ў 1944, 1953), балетаў "Падстаўная нявеста" (пастаўлена ў 1958), "Мара" (пастаўлена ў 1961). Пераклаў асобныя п'есы А. Астроўскага, А. Чэхава, М. Горкага і іншых.

Віншуем!

# Віктару РАКАВУ — 60

*Паэту Віктару Ракаву — 60. У друку выступае з 1956 года. Выдаў кнігі паэзіі "Вернасць", "Акно ў зялёны сад", "Пазыўныя", "І сноп, і птах, і я..." і іншыя. Выступае як перакладчык. Для творчай манеры В. Ракава характэрны роздумнасць, што спалучаецца з прачулай лірычнасцю, неабыякава яму і публіцыстычная паэзія.*

*Віншуем Віктара Апанасавіча з юбілеем, зычым яму далейшых жыццёвых і творчых поспехаў! Прапануем чытацкай увазе новыя творы юбіляра.*



Віктар РАКАЎ

### ЧАЦВЁРТАЯ СТЫХІЯ

Па калдобінах, па веку, па жыцці
Без запчастак —
ну хіба не рызыка?! —
Не адну патопу зходу перайсці
І да сініх зор забрацца высака.

Нехта выкрайкі рабіў для нас, замес,
Нехта формы адліваў вузлоў, дэталяў,
Нехта ў зборы выпрабоўваў, і замест
Нетрывалага
з-пад гарту болцік ставіў.

Праз агонь, зямлю, паветра і ваду —
Праз чатыры гэтыя стыхіі
Нас жыццё вядзе і ў радасць, і ў бяду,
І праз іх мы то ціхія, то ліхія.

То да зор сягаем сініх,
То на дне
Акіянным штосьці шукаем і знаходзім.
Пазнаём Прастору ў Часе.
Ўсё міне,
А стыхіі застануцца у Прыродзе.

Па калдобінах, па веку, па жыцці,
Па паветры, па вадзе,
а больш — раллёю
Будзе вечна ўсё жывое ў рост ісці,
Каб чацвёртаю стыхіяй стаць —
Зямлёю...

### І КАМЕНЬ, І КОРАНЬ, І КРОЎ...

*Элементы свядомасці ёсць і ў каменя.*
*ЛЕЙБНІЦ.*

О, роднасці свет!
З радзімных
Пратонаў-нейтронаў мой крой:
Ад свету я неаддзялімы,
Мазан з ім мірам адзіным —
Што камень,
Што корань,
Што кроў.

Таму, знаць, так кроўнае цягне
Сюды з-пад зямлі, з-пад вады.
І толькі дапаўшы сюды,
Здаецца, спакою дасягнеш,

Бо ў карані, ў камні, ў крыві
Маёй і асобінцы кожнай
Адзіны, агульны ёсць множнік —
Свядомасці знак,
як прывіў

Ад чараў чужых і замоваў,
Ад лёгкіх, бяздумных спакус —
І матчын, радзімны абрус
Растопіць настрой твой зімовы...

...Яднанне — не толькі ў сяброў,
І слёзы — не толькі ў разумных:
Баліць, калі ўдарыш бяздумна
І ў камень,
І ў корань,
І ў кроў.

### ПРЫШЭЛЬЦАЎ З КОСМАСУ НЕ БУДЗЕ

Зямля ад нас не маладзее —
Ужо рыпіць без змазкі вось.
На неба цепліцца надзея:
Згуль прыляцяць, паправяць штось.

Прышэльцаў з космасу не будзе —
Даю руку ў заклад адцяць:
Да дурняў, што Зямлю паскудзяць,
Разумныя не паляцяць.

Мартыралог

# ПАКУТНІКІ "ГУЛАГу"

**БАРАНАЎ Сцяпан Васільевіч,** 1895 г. н., ураджэнец вёскі Трубачова Віцебскай вобласці. Асуджаны ў 1938 годзе лагерным аддзяленнем Вярхоўнага суда Комі АССР пры Ухтпечлагу па арт. 58 п. ч. I КК РСФСР да 5 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**СУДАС Фёдар Малахавіч,** 1897 г. н., ураджэнец вёскі Вялікія Аўцюкі Мазырскага раёна Беларусі. Асуджаны ў 1841 годзе Ваенным трыбуналам войск НКУС Паўночна-Пячорскай чыгункі па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**МАЦВЕЕЎ Аляксандр Андрэевіч,** 1886 г. н., ураджэнец г. Гомеля Беларусі. Асуджаны ў 1943 годзе судовай калегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**ФЕДАРОВІЧ Васіль Васільевіч,** 1895 г. н., ураджэнец вёскі Малая Раеўка Капыльскага раёна Беларусі. Асуджаны ў 1942 годзе Ваенным трыбуналам войск НКУС Паўночна-Пячорскай чыгункі па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**ЗАЯЦ Іван Дзянісавіч,** 1920 г. н., ураджэнец Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці. Асуджаны ў 1951 годзе лагерным судом Мінеральнага лагера МУС СССР па арт. 58 п. 14 ч. да 5 гадоў пазбаўлення волі і 3 гадоў паражэння ў правах.

**КАЗАК Аляксандр Аляксандравіч,** 1913 г. н., ураджэнец г. Баранавічы Беларусі. Асуджаны ў 1951 годзе Вярхоўным Судом Комі АССР па арт. 70 ч. 2 і 72 КК РСФСР да 7 гадоў пазбаўлення волі.

**СТАРАСЦЕНКА Сямён Мікалаевіч,** 1886 г. н., ураджэнец вёскі Ляскоўе Жлобінскага раёна Беларусі. Асуджаны ў 1943 годзе судовай калегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР пры Ухціжэмлагу НКУС па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 8 гадоў пазбаўлення волі і 3 гадоў паражэння ў правах.

**СУДАКОЎ Якаў Фёдаравіч,** 1901 г. н., ураджэнец сяла Плешчыцы Магілёўскай вобл. Асуджаны ў 1942 годзе Ваенным трыбуналам войск НКУС Паўночна-Пячорскай чыгункі па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**АНАЦКІ Георгій Аляксандравіч,** 1900 г. н., ураджэнец сяла Морына Навагрудскага раёна Мінскай вобласці. Асуджаны ў 1941 годзе Ваенным трыбуналам войск НКУС па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**КОКІН Віктар Іванавіч,** 1907 г. н., ураджэнец вёскі Юшкі Дзвінскага павета Віцебскай губерні. Асуджаны ў 1941 годзе Ваенным трыбуналам войск НКУС СССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**САМУСЕВІЧ Дзяніс Іванавіч,** 1883 г. н., ураджэнец сяла Б.-Сліва Мінскай вобласці. Асуджаны ў 1941 годзе Ваенным трыбуналам войск НКУС па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**УШКЕВІЧ Вітольд Мечыслававіч,** 1925 г. н., ураджэнец г. Гродна. Асуджаны ў 1953 годзе лагерным судом Мінлага МУС СССР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах па арт. 58 п. 10 ч. I КК РСФСР.

**ЕРМАКОЎ Васіль Давідавіч,** 1903 г. н., ураджэнец вёскі М. Звяняга Магілёўскай губерні. Асуджаны ў 1942 годзе Ваенным трыбуналам войск НКУС СССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ЖЫЛІНСКІ Андрэй Уладзіміравіч,** 1891 г. н., ураджэнец г. Гродна. Асуджаны ў 1941 г. Ваенным трыбуналам войск НКУС СССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**ЯКІМЕНКА Мікалай Паўлавіч,** 1882 г. н., ураджэнец г. Гомеля. Асуджаны ў 1942 г. Ваенным трыбуналам войск НКУС СССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**ЛЕВІН Марк Рахмільевіч,** 1909 г. н., ураджэнец г. Гомеля. Асуджаны ў 1943 г. Ваенным трыбуналам войск НКУС СССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**ЗОРЫН-КОЛАСАЎ Уладзімір Пятровіч,** 1905 г. н., ураджэнец г. Віцебска. Асуджаны ў 1946 г. судкалегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 6 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ХВЕШЧАНКА Мікалай Георгіевіч,** 1900 г. н., ураджэнец вёскі Данілаўцы Гродзенскай вобл. Асуджаны ў 1942 г. Ваенным трыбуналам войск НКУС СССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**БЕРЛІН Міхаіл Барысавіч,** 1903 г. н., ураджэнец г. Віцебска. Паўторна абвінавачваўся па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР. Памёр у час следства.

**БАБІЦКІ Аляксандр Іванавіч,** 1898 г. н., ураджэнец вёскі Горкі Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці. Асуджаны ў 1943 г. судкалегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ЗАВАДЗІЧ Міхаіл Іванавіч,** 1907 г. н., ураджэнец вёскі Лукамор Пружанскага павета Гродзенскай губерні. Асуджаны ў 1942 г. судкалегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ГЕРТ Віктар Іванавіч,** 1906 г. н., ураджэнец вёскі Ідбішча Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці. Асуджаны ў 1941 г. судкалегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**ЗАЙЦАЎ-ГАРЫБАЛЬДЗІ Міхаіл Сцяпанавіч,** 1900 г. н., ураджэнец г. Магілёва. Асуджаны ў 1942 г. судкалегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**БУРАЧКОЎ Іван Фаміч,** 1907 г. н., ураджэнец сяла Прусіна Магілёўскай вобласці. Асуджаны ў 1946 г. Ваенным трыбуналам войск НКУС па арт. 58 п. 10 ч. 1 КК РСФСР да 8 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ШЧЭРБАКОВІЧ Павел Мікалаевіч,** 1908 г. н., ураджэнец г. Гомеля. Асуджаны ў 1943 г. Ваенным трыбуналам войск НКУС па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**ШЫЯН Аляксей Абрамавіч,** 1903 г. н., ураджэнец сяла Грошава Саленінскага павета Гродзенскай губерні. Асуджаны ў 1942 г. судкалегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**КУЦЭНКА Мікалай Васільевіч,** 1921 г. н., ураджэнец г. Мінска. Асуджаны ў 1938 г. судкалегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да 5 гадоў пазбаўлення волі і да 3 гадоў паражэння ў правах.

**РЫЖАНКОЎ Іван Іванавіч,** 1893 г. н., ураджэнец сяла Бярозаўкі Кармянскага раёна Гомельскай вобл. Судкалегіяй Вярхоўнага суда Комі АССР у 1941 годзе асуджаны па арт. 58 п. 10 ч. 2 КК РСФСР да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

**АЛЬШЭЎСКІ Пётр Іларыёнавіч,** 1887 г. н., ураджэнец вёскі Ялкоўшчынск Шклоўскага раёна Беларусі. Асуджаны ў 1938 годзе лагаддзелам Вярхоўнага Суда Комі АССР па арт. 58 п. 10 ч. 1 КК РСФСР да 10 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах.

**Г. УСЦІЛОЎСКІ,**
старшыня Саснагорскага таварыства "Мемарыял" (Рэспубліка Комі)

*Працяг. Пачатак у нумары за 13 студзеня г.г.*

*(Працяг будзе)*

# ЦЯЧЭ РЭЧКА...

(Пачатак на стар. 9)

Аксіння ўпадабала Міхалку — уцямілася так, што ўвесь вечар не зводзіла з яго вачэй. Маці ён таксама прыглянуўся, і яна была не супраць, каб яны пабраліся, але, праўда, крыху пазней — калі нявесце семнаццаць споўніцца, тым часам і да вяселля можна падрыхтавацца. І Міхалка чакаў, цярпліва і пакутліва. З Аксінняй сустракаўся адно ў Забор'і, і рэдка, баючыся дачасна раскрыць іх задушэўную тайну. Дзівілася Аўдоля: брат апошнім часам не прапускаў бадай ніводнага кірмашу. Паедзе яшчэ да сонца, а двору вяртаецца позна ўночы. Нічога не купіць, адно каня ўтоміць. І не пазнаць хлопца — акрылёна-ўзнёслы, вясёлы. У вачах — стоены спакой, агняная радасць.

А тут, як змовіліся ўсё роўна, зачасцілі да Аўдолі сваты, быту не даюць: адным адмовіла, выправадзіла з хаты, праз тыдзень — другія... Першым сватаўся Ягор, паромшчык. Другім — млынароў сын, Аўтух. Чарговы жаніх — з Сяльца, старастаў Андрэй, малодшы сын. Высокі, валасы кучаравыя, пышныя, вочы блакітныя — прыгожы дзяцюк. У прымы? Ён, жаніх, згодны і ў прымы...

Аўдоля патупіла вочы, шчокі заружавеліся. Бацькі насцярожана пазіраюць на Міхалку: маўчыць — і добра. А сват, бы заведзены, кружыць па хаце, сыпле прыгаворкі:

— Прыйшлі рыбакі рыбаліць — у чыстую ваду сець закінулі, вокала сеці рыба белая ходзіць, з галоўнага рыбака воч не зводзіць, думае-гадае, рыбаку спагадае...

Міхалка слухае — і паўстае перад ім, як наяве, Аксіння, яго белая рыба... Ён так засяродзіўся, што нічога больш не чуў і не бачыў. Прапанавалі выпіць — адмовіўся ад спіртнога. Жаніхоў бацька, Сільвестр Сухляк, густавалосы, з шырокімі навіслымі брывамі мацак, засяроджана і нечакана для Міхалкі спытаў:

— Чаго набычыўся, хлопец? — І далей — капрызна: — Не хочаш, каб сын мой да вас у прымы йшоў?.. Правільна! Я таксама не хачу. — Перавёў ганарлівы пагляд на сына і заявіў: — Не лезь у сіло, слюнцяй! Запабег бацьку наперад, выказаўся... Прымачы хлеб — сабачы! Так што, шаноўныя, хачу ведаць, што абяцаеце за нявесту... Які пасаг?

Міхалка падняўся і спакойна сказаў:

— Аўдоля не пойдзе ў чужы двор.

Сухляк-старэйшы нібы і чакаў гэтыя словы — тут жа ўстаў і пашыбаваў з хаты. За ім услед выйшлі і сын з двума дзядзькамі. Галоўны сват, Васіль Атрошка, застаўся.

— Я свае абавязкі выканаў, — ён дастаў з кішэні прыхаваную пляшку гарэлкі і паставіў на стол. — Вып'ю во з вамі ад душы... Хэ-хэ-хе... — Напоўніў чаркі. — Будзем жывы-здаровы!.. — Чокнуўся з Міхалкам, весела дадаў: — Лаўкач-таўкач, разладзіў змовіны — і даволен, а мне — хоць вочы у чорта пазычай... — Схіліў голаў набок — чакае, што скажуць бацькі, але тыя маўчалі.

Міхалка, наўздзіў Атрошкі, няспешна выпіў, паставіў чарку і спытаў:

— Вы, дзядзька Васіль, не спяшаецеся, пагаварыць з вамі можна?

— Гарэлка ёсць, закусь... Не спяшаюся. — І падміргнуў Аўдолі. — Не вельмі перажывай... І не пярэч брату.

— А я хіба пярэчу? — бліснула вачыма Аўдоля, усё яшчэ хмурачыся. — Красівы ён... Убачыла — і як намарач найшла на мяне, здурнела і нічога не цямлю... У-у, гад, не захацеў у прымы, бацьку паслухаў. — І да маці: — Я рада, мама, што ўсё разладзілася.

— Ты радая, — Маланія роспачліва хітнула галавой, — а мне ад тваёй радасці раўці хочацца.

— Куркулі хай едуць да куркулёў... Наша Аўдоля не засядзіцца ў дзеўках. — Міхалка падступіўся да Атрошкі. — Дзядзька Васіль, вы складна пра рыбку белую казалі: вокала сеці ходзіць, з рыбака воч не зводзіць... — пасміхнуўся. — Паглядзіце на мяне: магу я сёння галоўным рыбаком стаць?

— І сёння можаш, а лепей — заўтра, га?.. — Счакаўшы, Атрошка нечага раптам уз'яршыўся, цепнуў плячом: — Хаця — давай паспрабуем сёння, адклад не йдзе ў лад... Літроўку ставіш?

— Дзве! — выгукнуў Міхалка. — І падвязу пасля да самае хаты...

Атрошка кіўнуў Маланні і Хведару, якія надзіва ўважліва слухалі іх "торг", сказаў:

— Гэта вам, шаноўныя бацькі, урок: не жаніўшы старшака, няма чаго пра малодшую думаць. От так!

— Аўдоля!.. — зарупілася, ажывілася Маланія. — Бяжы ж ты, дзетка, папярэдзь: хай Клаўдзя дома будзе... Каб жа ўсё, як у людзей... — І да Міхалкі: — Ты не сказаў ёй, га? Яна ж не ведае, так?

— Не ведае — і добра... — замяўся Міхалка. — Мы ў Сялец едзем... — Не стрываў: чаму быць — таго не мінаваць.

— Сынок, што ж ты робіш? — Маланія недаўменна глядзела яму ў вочы. — Гэта каго ты там, у Сяльцы, выбраў?

— Не ведаеце каго?.. — узбадзёрыўся Атрошка і кінуўся Міхалку абдымаць, шчыра ўхваляючы ягоны выбар. — Дзеўка — усім дзеўкам дзеўка!.. Такая, што іконы з яе толькі пісаць — багародзіца!

— З красы не п'юць расы... — Маланія не зводзіла вачэй з сына. — Дык хто яна?

— Не ведаеце, каго выбраў ваш сын? — Атрошка жвава ўсеўся каля Маланні. — Зарэчнай Настассі дачку едзем сватаць! І во што я скажу вам, Маланія Пракопаўна: з красы якраз-такі і п'юць расу. Набгом п'юць... І не проста красу, а мёд! — Падняў чарку, выпіў. — А яшчэ з-за красы — б'юць адзін аднаму насы... Хэ-хэ-хе... Ты, Міхалка, з густам — рыбка, кажу, у самы раз. — Падняўся, затупаў паўз стол. — Правер, хлопец, свае сеці, каб надзейныя былі. Глядзі, абміне, не зловіш — звякуеш адзін... — Пачухаў патылак, уважліва паглядзеў на Міхалку. — Леснікова дачка таксама красуня... І не проста красуня — яна яшчэ й багатая, не роўня Аксінні. Але я — за Аксінню!.. — І да Маланні: — Яна ж, калі хочаце ведаць, суседка мая... Ну, суседка.

Аўдоля прыкметна павесялела, уключылася таксама ў размову:

— Бачыла Аксінню ў царкве... Увайшла і не пакланілася, стала ўбаку ад усіх, стаіць і не моліцца...

— І што? — Міхалка набычыўся. — Маёй натуры... Мы не скамарохі, народ цешыць не збіраемся.

Па дарозе зазірнулі ў карчму. Лёйса, карчмар, вынес два штофы гарэлкі і поўны кош усялякай закусі. Міхалка памкнуўся быў тут жа спладзіць за ўсё, але карчмар замахаў рукамі:

— Не спяшайся... Мала будзе, то ці сам прыскоч, ці хай меншы таптуронак прыбяжыць, — ён меў на ўвазе сына Таптуры, Захара, яшчэ падлетка. — Клаўдзя — нявеста багатая, ты наўрад ці ведаеш, якая багатая... — у вачах Лёйсы несхаваная зайздрасць. — Э-э, гэтак гадзінкі праз дзве, калі пажадаеш, распарадзіся, каб па музыку прыслалі... Шурайку не бяры — мой Борах будзе йграць. Ты ж ведаеш, Борах — Валадар скрыпкі... О-о, ён калі зайграе, то самае глухое сэрца распукнецца і зацвіце ружай... Ну? Прысылаць Бораха?

— Не трэба Бораха!.. — Захмялелы Атрошка замахаў рукамі гэтак жа сама, як толькі што Лёйса, калі адмаўляўся ад грошай. — Мы ў Сялец едзем — там нявеста Міхалкава. — І ахвотна прапанаваў: — Сядай з намі, Ёся, другім сватам будзеш.

Лёйса ўтаропіў вочы на Міхалку — здзіву яго не было мяжы, але не стаў удакладняць, што ды як, сказаў:

— Паехаў бы... каб не гэты мой балаган. З радасцю зачыніў бы, але ж там каршун-ураднік крылле распусціў, когці паказвае... Заліў вочы і здзекуецца з маёй Цылі — шчыпае, бедную, за што патрапіць. Яна баіцца ў залу выходзіць, мне самому даводзіцца посуд прыбіраць, сталы выціраць. Кажу чорту, што тут, у мяне, не дом цярпімасці, шлюшак не трымаю, а ён гэтага не разумее - яму падавай бабу!.. — І шапатком — на вуха Міхалку: — Слухай, Міша... А калі мы яго да Лукуты справадзім? Як думаеш, яна не прагоніць?.. Пагаварыў бы ты з ёй — я добра заплачу. Пасадзейнічай, схадзі да Лукуты... Ураднік жа, паслухай-ка, калі я сказаў, што Цылю не трэба лапаць, пачаў тыцкаць мне пад нос наган... Памажы, Фёдаравіч, прашу цябе...

— Ой, дзядька Ёся, не да гэтага мне зараз... Спяшаемся.

Атрошка падтрымаў Міхалку — на поўным сур'ёзе параіў карчмару:

— Вы яму, гаспадзін Лёйса, соннага парашку ўкіньце ў чарку — закапыліць дрыгі на цэлыя суткі... Хэ-хэ-хе-хі-і... — і рашуча панукнуў Міхалку: — Не стой рыбак, паехалі... А то каб не спазніцца на клёў.

Курную хаціну Зарэчных Міхалка перавёз на свой хутар адразу пасля вяселля, асадзіў новыя вокны, прыбудаваў сенцы, склаў печ з комінам — і жыццё ў ёй стала раем: Настасся Карпаўна, цешча, і яе дачка Аксіння нібы занава на белы свет нарадзіліся. Бадай тое ж самае адчуваў і ён сам, Міхалка.

Забудаваны хутарок стаў для яго жыхароў сонцам, якое і душы ім грэла, і цепліла ў сэрцах надзею на добрае ў далейшым жыцці. Правіла гаспадаркай Настасся Карпаўна, а дачка адно раджала дзяцей. Роды праходзілі лёгка, без пакут. Дзеці былі, як на выбор, здаровыя, але ўсе — дзяўчынкі, падобныя да маці. Алёна — першая. За ёй — блізняты, Зоя і Лёкса. Далей — зноў блізняты, Рыпішка і Вера. Шостая па ліку — Аня...

Настасся Карпаўна няньчыла ўнучак з радасцю і ўцехай, дачку ж часам, як бы ў жарт, дакарала:

— Хваця табе дзевак выпульваць... Хачу гушкаць-балаваць унучкоў.

Міхалка, падобна, не вельмі і жалкаваў на свой лёс. Звыкся. Ці проста выгляду не падаваў, паводзіў сябе так, нібы яго нішто ў жыцці і не турбуе — растуць дочкі красунямі, то што яшчэ трэба?

І праўда, збоку як ні паглядзі — усім задаволены чалавек, бясхмарны. Галоўнае — не гультай. Іцак Рыўкін, уладар смалакурні, хваліў яго і як работніка цаніў. Дазволіў узяць, бясплатна, жарэбчыка, які застаўся без маткі — воўк задраў кабыліцу, стрыгунок нейк уратаваўся. Міхалка назваў жарэбчыка Цёпкам. Вырас Цёпка, і стаў ён гаспадару даражэй за ўсё на свеце — надзейным памочнікам, карміцелем. Цягавіты сялянскі конь... Акурат такога ж самога, як і ў Міхалкі, характару.

Што праўда, то праўда. У працы Міхалка быў апантана-запойны. Дый не мог ён не старацца, бо ўмовіўся з Рыўкіным так: чым больш нарыхтуе карчоў і прывязе да смалакурні, тым больш і грошай атрымае наяўнымі. Зробленыя залатоўкі ашчаджаў, не траціў абы на што. Хаця — траціў. З кірмашу з пустымі рукамі ніколі не вяртаўся: дочкам вёз прысмакі — здобныя куханы, цукеркі, жонцы — кофту, пашытую на гарадскі манер, а не — спадніцу, андарак ці пярсцёнак, якіх накупляў ужо як не поўны куфэрак. Не забываў і цешчу: то хусткай адорыць, то грабеньчык у залачонай аздобе ўторкне ў пасівелую касу; аднойчы акрыў яе плечы цёплым, на футры, кабатам...

Змалку дападная да работы, Настасся Карпаўна з цямна да цямна рупілася па гаспадарцы, не ведаючы аддухі. Яе на ўсё хапала, нідзе не была лішняй, выпадковай.

Трывожыла шчаслівых хутаранцаў адно — вясновыя разводдзі Дняпра. Падчас зацяжных паводак нішчыўся бераг ракі якраз насупраць Міхалкавага хутара. Рэчышча, штогод пашыраючыся, усё больш і больш выгіналася, завіліна пашыралася, і шнур уробленых сотак з году ў год увачавідкі меншаў. Чаго толькі Міхалка ні рабіў, каб замацаваць, уберагчы выспу. Колькі гадоў запар нават дубовыя палі ўкопваў, пераплятаючы іх лазовым цыбаллем і шчыльна абкаладаючы каменнем, аднак нішто не памагала. Здаецца, зусім нядаўна скрай яго сотак, акурат на лапіку збуялай набярэжнай пустэчы стаяў дуб-волат, асадзісты, разгаты. Высіўся ён злева ад дарогі, так званай мінавіцы, якою можна было напрамкі, мінуючы бальшак, патрапіць у маёнтак Кухлярскага. І вось — ужо зямлі той, нічыйнай, і знаку не засталося. А мінавіца жыве, не знікае... Міхалка і плот ставіў, і ямы глыбокія капаў. Плот разбіралі і скідвалі ў Днепр, а ямы проста абміналі, глумячы палетак. Калі і хто нішчыў плот — Міхалка не бачыў, бо не ўдавалася асачыць зламысніка: адзін прашмыгне ўпотай, другі, а трэці, смяльчуга, ужо не зважае ні на што — праступе з возам па чужой сялібе, дарога ж. Нервуецца гаспадар, спрабуе даказаць, што няможна так ездзіць — ёсць бальшак, туды, маўляў, кіруйце, няма чаго пляжыць ягоны скарб. Аднак жа — бальшаком кружна, дый часу, як заўсёды, бракуе: гэта ж да кладзішча трэба перціся, а мінавіцай, паўз Днепр, зручна. І людзі ездзілі і ездзяць напрамкі — спазняцца ў двор на работу нават самы адпеты латруга баіцца...

І так з году ў год, ад вясны да позняй восені. Ішлі, ехалі — тапталі Міхалкаву зямлю ды яшчэ й лаялі гаспадара за тое, нібыта ён, а не Днепр вінаваты: узрэчча спакон веку нічыйным было — і на табе, знайшоўся цар-валадар, паставіў плот-гараду, чэпіцца да людзей, нервуецца, а чаго?

Даўно ўжо і дуба таго, узмежнага, не відаць — тунее ў вадзе як не пасярэдзіне рэчышча, а ў яго густым чорным голлі стоеныя шчупакі ды акуні падцікоўваюць бяспечных краснапёрак.

Летнім вечарам, у нядзелю, Міхалка наведаўся у Вятроўку да бацькоў — прынёс натопленага з вожыка тлушчу. Бацьку каторы ўжо дзень трэсла ліхаманка. Бедны, ажно зжаўцеў з твару, нос прыкметна ашыліўся, вочы звадзянелі. Без гарэлкі піць тлушч не захацеў, і сыну нічога не заставалася, як ісці да Лёйсы ў карчму. Ён даўно збіраўся паспачуваць карчмару: апошнім часам Лёйса круціўся, як вуж у мурашніку, — вятроўцы на сваім агульным сходзе вырашылі зачыніць злашчасную ўстанову. І яе гаспадар страціў спакой, заўсёды моцны яго сон парушыўся, нервы напяліся, як струны Борахавай скрыпкі. Было з чаго разгубіцца — вятроўцы напісалі ажно самому цару. Выручыў, праўда, губернатар: затрымаў петыцыю. Тут ужо Лёйса не спаў — дапяў да губернатара, як мае быць залагодзіў яго, растраціўся, і карчма зноў грыміць-весяліцца. Ахвотнікаў выпіць апошнім часам нават прыбавілася.

Міхалкавага подпісу пад петыцыяй не было, гэта Лёйса на свае вочы пабачыў, калі быў у губернатара, і адносіны між імі заставаліся не сказаць каб сяброўскія, а што паважлівыя — бадай, так. У карчму Міхалка зазіраў хіба толькі ўзяць часам піва. Цёпка, яго малады конь, таксама ўжываў гэты напітак. Аднойчы, вяртаючыся з Кадушы, амаль забытага людзьмі ўрочышча, дрыгвяністага, з гадзючымі астраўкамі і незамярзаючымі ўзімку вокнішчамі, Міхалка спыніўся ля карчмы прагнаць пакутлівую пасля балотнай вады пякотку. Цёпку таксама даў піва — тры куфлі выліў у вядро і паднёс пад храпы: пі, памочнік, зарабіў... З тае пары не часта, не кожны дзень заварочвае Міхалка да карчмы, а звычайна тады, калі вяртаецца на свой хутар праз вёску. Прызнацца, ён быў супраць таго, каб яе ліквідоўвалі, бо не бачыў ад яе вялікага граху — сілком Лёйса нікому ў рот гарэлку не ліў. І ўвогуле — Лёйса чалавек справы. Гэта ён, Лёйса, нараіў яму ісці да Рыўкіна на смолзавод. І не толькі нараіў — закінуў добрае слова...

Мінаючы падворак Лукуты Варохі, дзеўкі-векавухі, Міхалка твар у твар сутыкнуўся з Клаўдзяй. Да гэтага, сустракаючыся, яны адчужана бычыліся, слова зычлівага не сказалі адзін аднаму, а тут, праз сем гадоў, раптам павіталіся і, забыўшы пра ўсё на свеце, кінуліся размаўляць. Канешне ж, Клаўдзя не ўтрымалася і сперш папракнула Міхалку тым, што пагрэбаваў ёй, не прыслаў сватоў, нарэшце са слязьмі на вачах прызналася, што ён па-ранейшаму люб ёй, не выкінуты з сэрца...

У Клаўдзі ўсё яшчэ не было дзяцей — цёлка, ялаўкай гойсае, хоць і пабралася са Зміцерам Жукавеем у той самы год, недзе праз месяцы тры пасля Міхалкавага вяселля.

Зміцер Жукавей, Клаўдзін муж, рабіў у панскай кузні малатабойцам. Шыракаплечы, вышэзны, ён быў надзіва рухавы і не ў меру гаваркі. Праўда, голас яго не меў тэмбравай акрасы, і залішне аднастайная гучнасць раздражняла нават самага цярплівага суразмоўцу. Музычны слых, кажуць. Дык вось у Зміцера і блізка не было гэтага самага слыху, музычнага. Але Клаўдзя не пагрэбавала цельпуком. Міхалка шчыра

(Працяг на стар. 14)

## ПЯВУЧАЯ ДУША

**Вялікім светлым святам для берасцейцаў стаўся творчы вечар, прысвечаны 60-годдзю сцэнічнай дзейнасці заслужанага артыста Беларусі, кіраўніка і дырыжора народнага хору ветэранаў вайны і працы Дома культуры Брэста Міколы Шошчыца. Нарадзіўся ён у сям'і, дзе ўсе спявалі ды музіцыравалі. І гэта вызначыла яго жыццёвы лёс. У тры гады ён ужо спяваў. Затым удзельнічаў у царкоўным хоры. У 1934 г., будучы навучэнцам гімназіі, стварыў хор. А ў 1939 г. заснаваў хор чыгуначнікаў Брэсцкага вузла (цяпер гэта народная харавая капэла).**

**Многа прыклаў сіл Мікола Іосіфавіч, каб у горадзе над Бугам гучала добрая песня. Займаўся харавой справай у педінстытуце, у гарадскім парку, у розных самадзейных калектывах. А 1986 г. стварыў хор ветэранаў вайны і працы пры гарадскім Доме культуры (праз два гады хор атрымаў званне народнага). На рахунку калектыву больш як 150 канцэртаў у розных кутках Беларусі. У рэпертуары — 60 твораў. Мікалай Іосіфавіч ініцыятар правядзення ў абласным цэнтры фестываляў ветэранскіх калектываў. У маі 1995 г. плануецца чацвёрты фестываль, прысвечаны 50-годдзю вялікай Перамогі.**

**Невыпадкова, што на святочны вечар у канферэнц-зале гарвыканкама сабраліся сябры Шошчыца, прыхільнікі ягонага таленту. Спяваў хор. Сардэчна віншавалі Мікалая Іосіфавіча прадстаўнікі ўлады, культуры, самадзейных калектываў і сябры.**

**А. ХАРЛАМАЎ,**
**ветэран працы**
*г. Берасце*

## У ІХ — РУЦКОЙ, У НАС — РУЦКІ

**Імя Аляксандра Руцкога, колішняга віцэ-прэзідэнта Расіі, які так нечакана аказаўся "не у дел", бадай, ведаюць усе, а вось хто такі Язэп Руцкі, на жаль, могуць сказаць нямногія. Што ж, сем дзесяцігоддзяў нас вучылі таму, што гісторыя пачынаецца толькі з 1917 года ці, прынамсі, крыху раней, калі пачалі праяўляць сваю актыўнасць розныя "палымяныя рэвалюцыянеры".**

**Язэп жа Руцкі жыў у канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя (1574—1637). І жыў настолькі годна, што, здавалася б, нацыі толькі ганарыцца ім. Мяркуйце самі. Ураджэнец Наваградчыны, ён атрымаў бліскучую для свайго часу адукацыю, вучыўся ў лепшых тагачасных універсітэтах (у Празе, Вюрцбурзе, Рыме). Стаў уніяцкім мітрапалітам, заснаваў Базыльянскі Ордэн. Карыстаўся вялікім аўтарытэтам у Вялікім княстве Літоўскім, адпаведна ўплываў на яго знешнюю і ўнутраную палітыку.**

**На шчасце, дайшла чарга нашых даследчыкаў і да гэтага выдатнага сына Бацькаўшчыны. За вывучэнне жыццёвага шляху Я. Руцкога, яго шматграннай дзейнасці ўзяўся малады навуковец, аўтар кніг пра С. Буднага і Л. Сапегу Іван Саверчанка. А ў выніку з'явіўся нарыс "Апостал яднання і веры", які выдавецтва "Навука і тэхніка" выпусціла ў міжвыдавецкай серыі "Нашы славутыя землякі". Дарэчы, кніга змагла пабачыць свет дзякуючы падтрымцы Фонду фундаментальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь.**

**Выданне — дастойнае папаўненне бібліятэчкі, што выпускае "Навука і тэхніка" з 1988 года. Тым самым колькасць нарысаў у ёй наблізілася да дваццаці. У навукова-папулярнай форме чытачы змаглі пазнаёміцца з жыццяпісамі Якуба Наркевіча-Ёдкі, Уладзіслава Сыракомлі, Уладзіслава Дыбоўскага, Ефрасінні Полацкай, Тадэвуша Касцюшкі (дарэчы, яму прысвечаны два зборнікі), Саламеі Русецкай, Алеся Гаруна, Льва Сапегі і іншых.**

**А на падыходзе кніжкі пра Вацлава Ластоўскага ("Неадменны сакратар Адраджэння" Я. Янушкевіча), Мітрафана Доўнар-Запольскага ("Страцім" беларускай гісторыі" Г. Сагановіча), Адама Міцкевіча ("З-па-над Свіцязі ўзнебныя рытмы" У. Мархеля), Давыда Гарадзенскага ("Меч і слава Панямоння" С. Тарасава) і іншыя.**

**Т. Т.**

## А Ў ДАРУНАК — КНІГІ

**Дабрачынная вечарына членаў таварыства інвалідаў Фрунзенскага раёна сталіцы Беларусі прайшла ў Доме культуры Мінскага вытворчага аб'яднання індустрыяльнага домабудаўніцтва. Ініцыятарам яе правядзення выступіў пісьменнік, старшыня партыі Хрысціянска-дэмакратычны выбар В. Сарока, а таксама хрысціянскія цэрквы і абшчыны г. Мінска. В. Сарока падарыў прысутным некалькі дзесяткаў экземпляраў сваёй кнігі "Віцебская справа", ці Двухаблічная Феміда". У час сустрэчы закраналіся пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай да маючых адбыцца выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, актыўны ўдзел прыняць у якіх заклікалі інвалідаў пастары Г. Родаў і А. Меліхаў.**

**Мар'ян КРЫЎЧЫК**

# ЦЯЧЭ РЭЧКА...

*(Пачатак на стар. 9, 13)*

спачуваў ёй, не перастаючы думаць аб тым, што змусіла дзяўчыну зрабіць непапраўны крок. І цяпер, жартуючы, па-ранейшаму не ўспрымаючы яе шчырасць усур'ёз, думаў аб адным: як уведаць, што яе вымусіла выйсці за Жукавея...

Так, ён быў упэўнены, што Клаўдзя не жыве, а пакутуе ўвесь гэты час. І не Жукавей тут вінаваты, а ён, Міхалка. Безразважна паставіўся да яе, з таго й сам пакутуе, жыве без радасці ў сэрцы. Хаця — чаго яму не стае, якой яшчэ яму трасцы трэба? Спахапіўся: "Во, з чужой жонкай лясы точыць на вуліцы... Сорам!"

Клаўдзя ўпарта лавіла сваімі вачыма яго вочы, і калі іх позіркі напаткаліся, сказала:

— Твая бялуга не здатная на сыноў... Бог цябе пакараў.

— І смала ж ты... — Міхалка стараўся хоць знешне заставацца абыякавым. Няспешна збочыў са сцяжыны, абмінуў Клаўдзю.

— Пачакай хвілінку... Я ж бачу, ты не такі, якім сябе выдаеш.

— Старога калатуха б'е... Гарэлкі папрасіў. — Пасміхнуўся: — Да Лукуты ў госці прыйшла?

— Прыйшла, каб цябе ўпільнаваць, — наўздзіў спакойна адказала Клаўдзя. — Зайдзі ў двор.

— Ты — што?!. — як спалохаўся Міхалка. — Няма часу... — І подбегам пашыбаваў да карчмы.

У зале, як і заўсёды, было людна. Колькі чалавек — незнаёмцы, людзі са свету, астатнія — свае, мясцовыя п'янцужкі. Міхалка сеў за прысценны столік на дзве асобы, і Цыля адразу ж выйшла да яго.

— Здароў, рэдкі госць, — у голасе не проста звычайная ветлівасць — зацікаўленасць, здзіўленне. — Калі да Ёсі, дык выбачай — ён яшчэ не вярнуўся з Мугулёва. Прывязе, казаў, асятрыны, нямецкага піва... Ой-ёй-і-і, нейкі ты сам не свой... Зачумлены нейкі... Можа, настрой чарачкай падкуеш, га?

— За тым і прыйшоў...

Цыля ступала мякка, бы кошка; хада яе была па-качынаму валюхастай, скрадліва-спрытнай. Забраўшы з суседняга стала парожні посуд, умомант знікла за шырмай, дзе гаспадарыла яе маці, Фаіна Ісакаўна: гатавала страву і мыла посуд. Мажная, распаўнелая, аднак па-маладому пахватная, яна сумесна з дачкой трымала карчму ў належнай чысціні. Паўсюль былі злагада, абыходлівасць і ўвага. Да ўсяго гэтага — Фаіна Ісакаўна брала ў рукі скрыпку і грала страдаўнія рамансы. Здаралася такое звычайна познімі вечарамі і толькі пад той час, калі ў карчме збіралася пашанотная публіка: заезныя паніч з паненкай, хто-небудзь з начальнікаў, накшталт губернскага рэвізора ці земскага інспектара, акцызнік або жандары-паліцэйскія. Залівалася, выспеўвала скрыпка ў руках Фаіны Ісакаўны і тады, калі дняпроўскія плытагоны, багатыя на часовыя грошы гулякі, вясёлай гурбой завальваліся ў карчму прамачыць горла, каб не стылі на вадзе ногі...

Адкуль і ўзяўся толькі — да Міхалкі прысуседзіўся, усё роўна як смоўж прыляпіўся да бота, Зміцер Жукавей. Расхрыстаны, вымурзаны, ён шырока талопіў асалавелыя, глыбока запалыя вочы на Міхалку і злосна скрыгатаў зубамі. Якраз і Цыля падышла — паставіла на столік перад Міхалкам поўную чарку гарэлкі, сподак з маласольным, парэзаным на прадаўгаватыя долькі, агурком, двума скрылікамі сялянскай каўбасы-напіханкі і тонкай скібкай хлеба. Не зважаючы на Жукавея, спытала:

— Твая Аксіння часам не ў палажэнні?

— Не... — Міхалка адмоўна кіўнуў. — Няма ложкаў... Куплю, то падумаем на гэты конт.

— Падумайце... Дасць Бог, можа, сына дачакаецеся... О-о!.. Сын — вялікая ўцеха бацьку. Борах дарослы ўжо, даўно мог бы нечым сур'ёзным заняцца, а ён, апроч скрыпкі, нічога ў рукі не хоча браць... І Ёсю майго, знаеш, гэта саўсім не клапоціць — патурае сыну, дае грошы, спатворыў... О-о, сын — радасць, але ён можа такім хохамам стаць, паўпрыцай-неслухам, якіх белы свет не бачыў бы. Знаеш, Бораха сілком не вытурыш у залу, каб сыграў кліентам. Ён — вялікі пан, яму трэба обчаства суроднае яго жаданням... Мела б я дачку, от з ёй бы ўсё проста было б — з рук збыў і на ўсё забыў. А сын — ён цябе ўсё жыццё даіць будзе... — Цыля схілілася над Міхалкам: — Маеш Ёсю што перадаць?.. Мо шчупакоў налавіў?

— Не, я тут у бацькі... Хварэе, гарэлкі папрасіў.

— Колькі табе?

— Поўны штоф, закаркаваны.

— Яму не зашкодзіць, правільна. Гарэлка здаровых нявечыць, а хворых лечыць... — Цыля зноў схілілася да Міхалкі. — А лепей во што зрабі: пакажы свайго старога Якаву Самойлавічу. Мугулёў недалёка — пасадзіў на калёсы і павёз. Ты грошай не совай доктару — пастарайся рыбы свежай завезці. Пяток шчупакоў кілаграмовых, думаю, хопіць з яго...

Доктара Якава Самойлавіча, меншага брата Іцака Рыўкіна, Міхалка і сам добра ведаў, неаднойчы бачыліся, хаця, праўда, ніколі да яго на прыём не трапляў, бо яшчэ ні разу не хварэў. Дагодлівасць, якую праявіла Цыля, не ўразіла і не здзівіла, адно ўзбурыла: і таму дай, і гэтаму, а хто ж табе дасць? Хутчэй па загрыўку схопіш, а руку ніхто не азалоціць — не асалішся, калі няма дзе сала ўзяць.

Цыля пайшла па заказ. Міхалка глядзеў ёй услед, і бадай упершыню быў уражаны ацесліва нязграбнай постаццю, акурат матчынай. Тым часам чарку яго ўхапіў Жукавей і, бы згаладалы вар'ят, выліў гарэлку ў рот. Падняўся, пахістваючыся, рашуча заявіў:

— Вазьмі мне яшчэ адну, смалакоп.

— Няма дурных, — бяскрыўдна сказаў Міхалка. Ён ведаў, што Зміцер ужо не робіць у кузні: з прычыны сухотаў пан перавёў яго на больш лёгкую работу — палявым вартаўніком. — Носішся ты, Змітрок, з горлам сваім, як з пасадкай... Завязвай, табе ж яшчэ жыць дый жыць, а ты губіш сябе.

Міхалкава паблажлівасць кінула Жукавея ў наступ:

— Крутаяр, Богам прашу: пачастуй, — голас яго гучаў хваравіта-надрыўна. — Не скупіся... А не — дай палціннік.

— Кажу ж, няма дурных, — Міхалка падняўся з-за століка, сабраўся ісці за шырму, каб прыспешыць Цылю: чакаць, пакуль яна выйдзе, яму не з рукі.

— Не скупіся, ты!.. — сарваўся на крык Жукавей. Пагляд яго быў да здзіўлення пусты, мярзотны. — У-у, хутаранец...

Міхалка толькі ступіў за шырму — і Цыля перад ім, аддала штоф, узяла грошы і параіла:

— Праз двор ідзі... Крыкуна гэтага зараз хлопцы выкінуць на памыйніцу. У мяне тут добрыя вышыбалы — наняла. А што ж... Па чарцы паднясу — любога на выспяччы выкаціць за парог. Учора жандара п'янага паклалі на воз, звязалі і пусцілі каня бальшаком...

Міхалка задворкамі не пайшоў. Ён брыў той жа самай сцежкай, паўз плот, і як толькі параўняўся з Лукуцінай хатай, Клаўдзя зноў выйшла насустрач.

— На лаўца і звер!.. — сказала і спрытна заступіла сцежку.

— Звер, ды не той, — Міхалка запыніўся.

— Для мяне — той, — туманлівы пагляд яе цьмяных вачэй паярчэў. — Прыйду да цябе заўтра ў лес... На Азершчыне корпаешся?

— Супакоішся ты нарэшце?! — узбурыўся раптам Міхалка. — Твой звер, кажу, там, — кіўнуў ў бок карчмы. — Забяры двору, пакуль не абначыўся пад плотам... Апусціўся чалавек, алапуціўся — падобны на закончанага ідыёта...

— Забудзь яго... Чужы ён мне.

— Чужы? Муж — і чужы?.. Як гэта?

— А так... Ён — не ты, а я — не Аксіння.

— Нічога не разумею... — Міхалка хапіў Клаўдзю за руку і, каб не тырчаць на вуліцы, пацягнуў да Лукуты ў двор. — Ты — не Аксіння, гэта праўда. І што з гэтага?

— А то... — Клаўдзя глядзела яму ў вочы. — Не яна — я табе сына раджу.

— Выкінь дурное з галавы, — даўкі камяк падкаціў і захрас у горле. "Трэба ж, — дзівіла Міхалку, — прычапілася і, як птушка, дзяўбе і дзяўбе ў балючае месца". Так, ён не ўяўляў сваю старасць без сыноўняга клопату, быў упэўнены, што не ўсё яшчэ страчана: будзе ў яго сын! — Ты мне сына збіраешся нарадзіць? — пасміхнуўся, хоць, праўда, і праз сілу, змушана. — За сем гадоў замужжа сабе дзіцёнка не прыдбала, а тут... такое абяцанне?

— Не верыш?.. — І спішана, хвалюючыся: — Да сябе я не дапусціла Зміцера...

— Гэт-та... Гэта праўда? — Міхалка патупіў вочы. — Чаго ж выйшла за яго?

— Назло табе... Сцерпіцца — злюбіцца, думала. І во — душа крычма крычыць, бядую.

— Усе твае непаразуменні ад таго, што жывеш без клопату пра дзяцей... Глядзі, так і звякуеш, бяздзетухай.

— І няхай... — заплакала. — Змітрок не таіўся — адразу пасля вянчання раскрыўся ўвесь... Учапіўся ён за мяне з адной мэтай — хацеў лёгка разбагацець: лічыў, што пан сваю дачку ўсім забяспечыць... У Дняпро ён мяне спіхнуў... Бажыўся, быдта нячайна: хацеў адно запалохаць, каб ведала, што калі не выйду за яго, то са свету звядзе...

— Адкуль ты ведаеш, што Кухлярскі — твой бацька?

— Мама расказала, — Клаўдзя выцерла вочы ражком гарусоўкі. — Змітрок выпадкова пачуў, як Кухлярскі з Рытарам гаварылі пра мяне... З таго часу і віжаваў за мной, праходу не даючы.

— Сказала б мне гэта ўсё тады... — Міхалка сам не помніць, як прыгарнуў Клаўдзю да сябе, абняў. — Ён перад табой зямлю б грыз, круціўся б, як на агні...

— Я не хворая, не шкадуй мяне.

— Усяго толькі суцяшаю.

— А што мяне суцяшаць?.. Убачыла цябе — спяваць хочацца, — і прачула напела ўпаўголаса:

*Цячэ рэчка*
*з крынічанькі ў мора,*
*льецца, шырокая,*
*з твайго сэрца ў маё...*

Міхалка ўгнуў голаў у плечы, прабубніў:

— Можа, цётку Лукуту гукнём — хорам заспяваем?.. Што з табой, Клава, робіцца?

— Лукуты няма ўдома — на кірмаш паехала... — Вясёлымі бліскаўкамі ярыліся Клаўдзіны вочы. Яна ўзяла Міхалку пад руку. — Не бойся, бялуга твая, калі сам не пахвалішся, нічога не ўведае.

— Мы з табой, здаецца, абодва цвярозыя, праўда ж? То і будзем паводзіць сябе цвяроза.

— І добра, што цвярозыя... — выхапіла з кішэні яго шарачка штоф, сунула ў падстрэшша за маціцу. — Не будзем піць, — і як не насілкам, жартуючы, пацягнула Міхалку за сабой, у гарод. — Не ўпірайся, не крыўдзі мяне.

— Бацька ж чакае... Дый двору ўжо трэба.

— Двор — не авечка, воўк у лес не знясе, — памкнулася абняць яго, але ён ухіліўся ад яе рук, адчуў: сэрца быццам хто абцугамі сціснуў — затохкала, забілася злоўленай птушкай.

І далей — ужо не пярэчыў, нібы ў пamроку, праставаў услед за Клаўдзяй.

Сонца толькі што схавалася за лес, небакрай заравеў ярка, вогненна. Гэтак жа сама заравела перад вачыма квятастая Клаўдзіна гарусоўка.

Ля прачыненых дзвярэй асеці Клаўдзя саступіла ўбок — прапусціла яго наперад. Ён затрымаўся акурат на прасоне, і ўбачыў: раструшаная пры сцяне капешка саломы, акрытая посцілкай, нагадвала самую што ні ёсць пярыну. Папяціўся назад, азірнуўся. Смуглявы Клаўдзін твар быў урачыста спакойны, позірк — мяккі, аціхла-засяроджаны. Гарусоўка ссунулася на бровы, размашыстыя, густыя.

— Нейкі ты... — тоўхнула яго ў плячук. — Быдта і не мужчына. — І, як толькі апынуліся ў сутоньлівым зацемку асеці, абхапіла яго і кінулася парыўна цалаваць яму шчокі, губы, вочы... — Міленькі, родненькі... Знебылася па табе, сохну-вяну... Думала, што ўжо й не дачакаюся гэтай хвіліны.

— Лягчэй нам не стане.

— Стане, Мішачка, стане...

Міхалка ўжо не ў сілах быў змагацца з нахлынам пачуццяў, і ўсё тое, што было наканавана лёсам, гэты раз мусіла збыцца.

# Анатоль ЛЯЛЯЎСКІ

7 студзеня 1995 года пасля працяглай і цяжкай хваробы памёр народны артыст Рэспублікі Беларусь Анатоль Аляксандравіч Ляляўскі. Беларуская культура страціла самаадданага творцу, які амаль усё сваё свядомае жыццё прысвяціў развіццю мастацтва тэатра лялек, дасягнуўшы на гэтай ніве вялікіх поспехаў.

Нарадзіўся Анатоль Аляксандравіч Ляляўскі 6 сакавіка 1923 года ў Маскве. У 1952 годзе скончыў Ташкенцкі тэатральна-мастацкі інстытут, а ў 1956 годзе прызначаны галоўным рэжысёрам Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі. З гэтага часу яго творчасць непарыўна звязана з беларускім тэатральным мастацтвам. Шмат увагі аддаваў А. А. Ляляўскі стварэнню арыгінальнай драматургіі. Ён ставіць спектаклі па п'есах беларускіх аўтараў: "Дзед і жораў" і "Цудоўная дудка" В. Вольскага, "Сярэбраная табакерка" паводле З. Бядулі, "Марынка-крапіўніца" А. Вольскага і П. Макаля, "Ліпавічкі" паводле У. Галубка, "Скажы сваё імя, салдат" А. Вярцінскага, "Сымон-музыка" паводле Я. Коласа, "Балада пра белую вішню" С. Клімковіч і інш.

Сур'ёзным здабыткам з'явіліся такія спектаклі, як "Званы-лебедзі" Л. Браўсевіча і І. Карнавухавай, "Зорны хлопчык" А. Уайльда, "Боская камедыя" І. Штока, "Прыгоды бравага салдата Швейка" паводле Я. Гашака, "Клоп" У. Маякоўскага і многія іншыя. Некаторыя з гэтых пастановак больш як 20 гадоў не сыходзяць з афішы тэатра, карыстаючыся поспехам у гледача па сённяшні дзень.

Для рэжысёрскай дзейнасці А. А. Ляляўскага былі характэрны жанравая разнастайнасць і педагагічная накіраванасць пастановак, беражлівыя адносіны да аўтарскай канцэпцыі і мастацкіх асаблівасцей твора, нястомны пошук новых выяўленчых сродкаў сцэнічнага ўвасаблення, дэталёвая распрацоўка ўнутранай лініі персанажаў у спалучэнні з дакладнасцю і выразнасцю знешняга малюнка ролі.



З'яўляючыся да 1986 года галоўным рэжысёрам Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі, ён адначасова вёў актыўную педагагічную дзейнасць як выкладчык тэатральна-мастацкага інстытута. З яго выхаванцаў вырасла нямала майстроў сцэны, якія працуюць сёння ў тэатрах лялек краіны і за яе межамі.

За поспехі ў справе развіцця беларускага тэатральнага мастацтва А. А. Ляляўскаму ў 1979 годзе было прысвоена ганаровае званне народнага артыста Беларусі.

Светлая памяць пра таленавітага творцу, умелага выхавацеля моладзі, шчырага і сумленнага чалавека Анатоля Аляксандравіча Ляляўскага назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Русакевіч У. В., Бутэвіч А. І., Герасіменка А. М., Дудараў А. А., Яроменка М. М., Абрамаў М. М., Андрэеў М. М., Грамовіч У. П., Жугжда А. А., Казакоў А. М., Клімакоў Я. В., Клімчук В. І., Луцэнка Б. І., Мазынскі В. Я., Маслюк В. В., Матрос У. Б., Мікалайчык А. У., Раеўскі В. М., Сарычаў Ю. А., Уласаў В. П., Фаміна А. Р., Шаранговіч В. П.**

# ВЫТОКІ — У АРЫЯЎ

## КАЛЯДНЫ ФРАГМЕНТ

Пра незвычайна высокі ўзровень культуры старажытных беларусаў і іх арыйскіх прашчураў напісана ўжо шмат, напісана так, што часам і не здагадаешся, што гэта менавіта пра высокі ўзровень менавіта беларускай культуры. Разгляд тонкасцей беларускіх народных звычаяў, абрадаў, фальклору, народнага выяўленчага мастацтва, вераванняў, нават калі ён робіцца фрагментарна, абасоблена, сам па сабе дае ўжо цікавую інфармацыю. Чаго вартыя хаця б касмічна-містычныя матывы беларускіх ручнікоў, старажытная каляндарная графіка, паганскае капішча пад Менскам на пачатку XX стагоддзя. Разгляд жа ўсіх гэтых аспектаў светапогляду і быцця ў сукупнасці выводзіць на такія высновы, што цягнуць за сабой патрэбу перагляду шмат чаго ў нашай гісторыі.

Каляднае сонцастаянне навеяла колісь У. Караткевічу "Калядную рапсодыю". Самы кароткі дзень 1994 года падштурхнуў мяне зноў задумацца наконт нашага беларускага светапогляду, нашай культурнай спадчыны. У прыватнасці, наконт каляд, з маленства ведаючы большасць калядных абрадаў не з кніжак, а з жыцця, я ўсё ж не знаходзіў адказу, чаму ў нас "коляды" ці "каляды", а не "Божае нараджэнне" ці "Раство Хрыстова", як на захадзе ці ўсходзе, куды скіраваны дзве нашыя асноўныя хрысціянскія рэлігіі? Чаму, ведаючы хрысціянскую сутнасць гэтага свята, святкуючы нараджэнне сына Божага, мы ўпарта называем гэтае свята "калядамі"?

Вучоныя кніжнікі адсылаюць нас да рымскіх "календ". Так называўся першы дзень кожнага месяца. У гэты дзень пазычнікі плацілі працэнты сваім крэдыторам і дзяржаве. Усе пазычкі запісваліся ў "календарыюм" — спецыяльную кніжачку. Слова "календы" магло быць вядома на Беларусі. Так, у "Ізборніку Святаслава" 1073 года напісана пра нараджэнне Хрыстова: "Еже есть прежде календ иянувариев..." Але мала верагодна, каб чужое кніжнае слова так запанавала па ўсёй краіне. У сваю чаргу знаўцы паганства сцвярджаюць, што ў сонме паганскіх багоў быў бог Каляда. Вось што піша Гогаль у заўвагах да "Ночи перед рождеством" пра калядкі, якія спявалі пад вокнамі на куццю хлопцы і дзяўчаты на Украіне: "Гавораць, што быў некалі балван Каляда, якога прымалі за бога, і што быццам ад таго і пайшлі калядкі... Аднак жа калі сказаць праўду, то ў калядках і слова няма пра Каляду".

Безумоўна, трэба мець на ўвазе і тое і другое, але ні "календы", ні Каляда самі па сабе не даюць адказу на пастаўленае пытанне. Бо нават калі прызнаць першынство якога-небудзь варыянта, узнікае пытанне пра паходжанне гэтых слоў. Абасоблены разгляд гэтай праблемы не прыводзіць да станоўчага выніку. Паспрабуем знайсці адказ на пытанне, зыходзячы з таго, што беларуская культура — частка агульнай арыйска-сусветнай культуры, прычым тая яе частка, якая найбольш блізкая да першаасновы. Што дае падставы для такога сцвярджэння? Агульны ход развіцця культуры індаеўрапейскай расы. Арыйская цывілізацыя мела незвычайна высокую культуру. Наяўнасць у "Ведах" — першай кнізе на Зямлі, напісанай каля 6-ці тысяч гадоў таму — апісання будовы Сусвету, якая знаходзіць пацвярджэнне толькі зараз, васьмірычная машынная сістэма лічэння, валоданне недасяжнымі нават зараз тэхналогіямі — невялікія фрагменты гэтай культуры. І вось наступае фаза затухання арыйскай культуры. Што паслужыла прычынай гэтага, адказаць пакуль што немагчыма. Дакладна можна сцвярджаць, што тысячагоддзі ішло павольнае забыванне ўсіх вышэйшых ведаў да побытава-неабходнага ўзроўню, сімвалізацыя і міфізацыя ведаў абстрактных, прымітывізацыя ведаў канкрэтных. На гэтай фазе культурнай эвалюцыі знаходзіліся індаеўрапейскія плямёны падчас выхаду з Краіны Арыяў. У розных індаеўрапейскіх плямёнаў гэтая фаза мела розную працягласць, была значна ссунута па часе. Грэкі-іанійцы, грэкі-дарыйцы, італікі, кельты, балты, германцы, славяне ў розны час даходзілі да ніжэйшага пункту варварства і пачыналі новы пад'ём. Уся наша гістарычная навука, дарэчы, топчацца на вывучэнні толькі фазы пад'ёму. На фазе затухання, як правіла, адбывалася галоўным чынам страта культурных каштоўнасцей, а на фазе развіцця адбывалася наслаенне на старую арыйскую культуру новых лакальных пластоў, пад якімі старая арыйская аснова аказвалася пахаванай, прычым так глыбока, што сёння амаль не праглядваецца.

Славяне складалі адну з апошніх стадый у гэтай плыні індаеўрапейцаў. Ніжэйшы пункт іх культуры па часе знаходзіцца ў акрэсе пачатку нашай эры. Адсюль пачынаецца ўздым. Беларускія плямёны развіваліся тымі ж тэмпамі, што і іншыя, але гісторыя Беларусі мае тую асаблівасць, што на адпаведным этапе (канец X стагоддзя) пачалося раздваенне культур на архаічную вусна-народную і хрысціянска-пісьмовую. Тое ж адбывалася і з культурамі іншых славянскіх народаў. Але, калі ў большасці славянскіх народаў значная сілавая перавага хрысціянска-пісьмовай культуры прывяла да глабальнага ўціску культуры вусна-народнай, то ў беларусаў сітуацыя склалася так, што тут ішлі пастаянныя перамены ў культуры кніжна-хрысціянскай, якія ў сваю чаргу былі вынікам безупыннай барацьбы каталіцызму і праваслаўя. Гэтая рэлігійна-культурная вайна прывяла да паслаблення кніжна-хрысціянскай культуры беларусаў. Затое найбольш поўна захаваўся вусна-народны пласт — як ні ў кога з іншых славянскіх народаў. Безумоўна, нельга было захаваць цнатлівую чысціню гэтага пласта. Хрысціянства накрыла яе даволі тоўстай "коўдрай", але не такой, каб нельга было разгледзець, вывучыць і даследаваць першаснову. Фактычна атрымоўваецца так, што беларускі народ да нашага часу данёс частку старажытнай арыйскай індаеўрапейскай культуры, зафіксаванай на ніжняй кропцы фазы затухання, г. зн. без позніх мясцовых наслаенняў. Менавіта ў гэтай арыйскай спадчыне мы і знаходзім і Каляды, і Купалле, і Вялікдзень, і іншыя культурна-рэлігійныя ментальныя комплексы, прывязаныя да хрысціянства па форме і часткова па змесце.

Як ужо адзначалася, культура арыяў была надзвычай высокаразвітой. Яны мелі дасканалае ўяўленне пра будову Сусвету, пра Зямныя і Сусветныя цыклы, яны валодалі выключнымі ведамі пра космас, мелі дасканалыя календары, як месячны і сонечны, так і сусветна-касмічны. Яны ведалі і пра геліяцэнтрычны прынцып будовы нашай сістэмы, і пра існаванне амаль усіх планет Сонечнай сістэмы, у тым ліку і знікшых. Яны аб'ядноўвалі зоркі ў сузор'і і заснавалі астралогію, грунтуючыся на зусім пэўных фактах уплыву нябесных цел на зямное жыццё.

Навука арыяў грунтавалася на прынцыпе цыклічнасці быцця. Не на рацэ часу, у якую нельга ўвайсці двойчы, а на "коле часу" — "каля-чакра" (санскр.) Выдзяляліся месячныя і сонечныя кругі (перыяды), а таксама сусветна-касмічны круг (перыяд) — "**кальпа**" працягласцю ў 4320 гадоў. Кожны круг павінен быў мець свой умоўны пачатак і канец. Пры гэтым яны звычайна супадаюць. За пачатак найбольш важнага гадавога "кола часу" мог быць узяты яго любы пункт, але наяўнасць чатырох характэрных пунктаў (два сонцастаянні і два раўнадзенствы) давалі ім значную перавагу. З гісторыі годазлічэнняў мы ведаем, што Новы год, як пачатак чарговага цыкла, у розных народаў зьмяшчаўся раз-пораз то на сакавік (акрэс вясенняга раунадзенства), то на верасень (акрэс асенняга раўнадзенства), але арыі, відавочна, аддаючы перавагу руху ад меншага да большага, замыкалі кола часу ў найменшы дзень — дзень зімовага сонцастаяння. З гэтага дня пачыналася новае "**каля**-чакра". Гэты дзень быў днём "**каляды**", "**каляд**", днём пачатку кола. Рымскія "**кал**енды" — першы дзень кожнага месяца абазначалі не што іншае, як пачатак месячнага кола (круга). Мне не хацелася б спалучаць у слове "**календы**" арыйскае "каля" і сучасна-нямецкае "**энд**" ("канец"), але разам з тым не будзем забываць, што і нямецкая мова бярэ пачатак з арыйскіх пракрытаў. Не лішнім будзе згадаць, што да гэтага часу ў індыйскай рэлігійнай міфалогіі важнае месца займае багіня **Калі**, своеасаблівая багіня адраджэння, якая апекуецца перасяленнем душ, адпраўляе іх на новы круг жыцця. Таму нічога дзіўнага няма і ў тым, што і пачатак новага кола чалавечай культуры — хрысціянства быў прывязаны да гэтага дня і паступова засланіў сабой першапачатковае значэнне гэтай даты ў большасці народаў, але не ў беларусаў.

Не для паўнаты карціны (поўнай яна не будзе ніколі), а хаця б для большай яркасці дадам у наш аповед яшчэ адзін штрых. Я ўжо адзначаў, што арыі дзялілі зорнае неба на сузор'і. Яны давалі сузор'ям адпаведныя назвы. Ім жа належыць ідэя выдзялення 12 задыякальных сузор'яў. Заслуга грэкаў у гэтым мінімальная, паколькі ўсю сістэму задыякальных сузор'яў яны прынеслі ў Эладу з Краіны арыяў, але прынеслі не толькі яны. У той ці іншай форме яе ўзялі і іншыя народы, у тым ліку і беларусы. Я не збіраюся сёння вязаць увесь абрадавы комплекс беларусаў да знакаў Задыяка. Мы разглядаем калядны фрагмент. Каляды, Новы год, Тры каралі (Хрышчэнне) праходзяць пад сузор'ем Казярога. Але давайце прыгледзімся да фальклорнага комплексу, які адпавядае гэтым святам. У ім паўсюдна дамінуе каза. Гэта і батлейкі, і песні, і казкі. Каза ў беларускай гаспадарцы далёка не асноўная жывёла. Па важнасці яна будзе стаяць пасля каня, каровы, свінні, а то і пасля авечкі. А ў калядным фальклоры аказваецца на першым месцы. Гэта цяжка тлумачыцца само па сабе. А вось у кантэксце: арыйская традыцыя — сузор'е Казярога — каза — усё становіцца на сваё месца.

На завяршэнне хачу перасцерагчы чытача лічыць усё сказанае наборам выпадковых супадзенняў. Гэта не супадзенні, гэта вынесеныя з глыбінь тысячагоддзяў аскялепкі цэльнага касмічна-зямнога культурнага пласта арыйскай расы.

**Станіслаў СУДНІК**


**ЛіМ** ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

**Заснавальнікі:**
**Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**Выходзіць з 1932 года**

***Газету рэдагавалі***

| | |
|---|---|
| Х.Дунец | (1932–35) |
| І.Гурскі | (1935–41) |
| А.Куляшоў | (1945–46) |
| М.Горцаў | (1947–49) |
| П.Кавалёў | (1949–50) |
| В.Вітка | (1951–57) |
| М.Ткачоў | (1957–59) |
| Я.Шарахоўскі | (1959–61) |
| Н.Пашкевіч | (1961–69) |
| Л.Прокша | (1969–72) |
| Х.Жычка | (1972–76) |
| А.Асіпенка | (1976–80) |
| А.Жук | (1980–86) |
| А.Вярцінскі | (1986–90) |





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 10216.
Нумар падпісаны 19.1.1995 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

